


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

20 ЛІСТАПАДА 1998 Г. № 47/3975 КОШТ 4 000 РУБ.

## ПРЫТУЛАК ДЛЯ СПАКУТАВАНЫХ ДУШ...

***Марыя МІХАЙЛАВА: “Яшчэ зусім нядаўна мы любілі гаварыць: свет уратуе прыгажосць, краса! Цяпер жа ўсё часцей можна пачуць іншае: свет уратуе жанчына! І пры гэтым тлумачыцца, паўтараецца, як заклінанне, — чым уратуе: любоўю, цярпеннем, ласкай, пяшчотаю, самаахвярнасцю! Ды, на жаль, гэта гавораць часцей тыя, што ўціснулі жанчыну ў жорсткія рамкі, далі ёй своеасаблівую ўстаноўку: ты найперш працаўніца, ты павінна будаваць дамы, даваць прадукцыю на заводах і фабрыках...”***

**4, 15**

## А НАД КРЫМАМ ЧЫСТАЕ НЕБА...

***Вадзім ДОЎНАР, Кірыла ПАЗНЯК: “Вялікую ролю, як бы банальна гэта ні прагучала, мае адраджэнне сапраўднай украінскай гісторыі ну і, вядома ж, мовы. Апошняя ўжываецца не толькі ў справаводстве афіцыйных органаў, у ВНУ, але і ў дзіцячых садках, адкуль паступова выціскаецца руская”.***

**5, 12**

## УСЕ МЫ — ПАСЛАННІКІ НЕБА...

***Вершы Таісы БОНДАР***

**8**

## ЗНАК НА ДАЛОНІ

***Апавяданне Марыі ВАЙЦЯШОНАК***

**9, 12**

## “САЮЗ ЖЫВЕ НАДЗЕЯЙ...”

***Генадзь БУРАЛКІН: “На жаль, сёння мастацтва неаддзельнае ад эканомікі. Не будуць нашы прадпрыемствы даваць прадукцыю — падпадуць пад закон аб банкруцтве. Не будзе прамысловай базы — не здолее выжыць і Саюз мастакоў”.***

**10—11**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Усяго толькі тры тыдні засталося да канца падпіснай кампаніі на наш штотыднёвік на першае паўгоддзе 1999 года. Часу зусім нямнога, але ён яшчэ ёсць, каб сказаць сваё слова ў падтрымку беларушчыны і аб тым, што мы ёсць, былі і будзем, а для гэтага ўсяго трэба схадзіць у любое паштовае аддзяленне і аформіць падпіску на нацыянальную перыёдыку, каб заўтра не гаварыць, што беларускія выданні ніхто не чытае, і што мы гінем. Калі не можаце падпісацца на "ЛіМ" адразу на паўгоддзе, падпішыцеся на квартал, а то і на месяц. Паспрыяйце сваім словам аформіць падпіску на наш штотыднёвік блізкім да Вашага месца жыхарства бібліятэкам, школам, грамадскім установам. Кошт "ЛіМа" на адзін месяц — **50 тысяч рублёў**, на квартал — **150 тысяч** і на паўгоддзе — **300 тысяч**.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Сёння нашай цудоўнай паэтэсе, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Яўгеніі ЯНІШЧЫЦ споўнілася б 50 гадоў. На жаль, ужо дзесяць гадоў яе няма сярод нас. Сяброўскае слова Васіля ЖУКОВІЧА пра паэтэсу чытайце на стар. 6—7.*

Фота Ул. КРУКА



## КОЛА ДЗЁН

***Што ні кажыце, а класікі несмяротныя, яны з намі назаўжды і ва ўсіх варунках жыцця. Вось, калі ласка.***

***Яшчэ зусім нядаўна з усіх франтоў барацьбы за пабудову рынкавага сацыялізму ішлі такія пераможныя рэляцыі, гэтак урачыста і шырока, ад краю і да краю, грымелі ўседзяржаўныя дажынкі і "славянскія базары", што міжволі прыходзілі на памяць словы рускага савецкага класіка пра тое, што, маўляў, усюды добра, а "в нашей буче, боевой, кипучей, и того лучше". Без аніякае іроніі ці там пад'юджвання сцвярджалася, што жывём мы лепш, чым усе нашы колішнія браты і сёстры, а цяпер — блізкія і бліжэйшыя суседзі. І раптам тон рэляцый пацішэў: а неўзабаве яны наогул зніклі. Пайшлі кволыя прызнанні ў тым, што, аказваецца, не ўсё гэтак добра, як здавалася. Хутчэй дрэнна, чым добра. Нават зусім дрэнна. І звычнымі дагэтуль метадамі выправіць становішча ўжо нельга. Трэба нешта больш дзейснае, эфектыўнае. Трэба — штаб! Як перад штурмам. Каб забяспечыць эканамічную стабільнасць, пераадолець крызісныя з'явы, выправіць сітуацыю на спажывецкім рынку. І ён быў створаны. Правёў першае, другое, трэцяе пасяджэнне. Распрацаваў план работы, акрэсліў пытанні, прызначыў адказных асоб. Навідавоку — сведчанні неймаверна актыўнай дзейнасці ў імя выратавання краіны, сведчанні самаадданых клопатаў пра нас з вамі, паважаныя чытачы. А цэны між тым растуць. Зноў у крамах чэргі. Зноў вяртаюцца яшчэ не забытыя з савецкіх часоў нормы водпуску прадуктаў у адны рукі, нават рэгламентацыя продажу іх у часе: скажам, танную кілбасу і сасіскі прадаваць належыць пасля 16 гадзін, калі людзі канчаюць працу...***

***Ёсць вялікая верагоднасць таго, што тыя самыя людзі, пра якіх гэтак клапоціцца Рэспубліканскі штаб, успомняць неўміручае выслоўе яшчэ аднаго рускага класіка: "А вы, друзья, как ни садитесь..."***

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Сваё 80-годдзе адзначыў "Белсаюздрук", арганізацыя, якая займаецца продажам, а зараз і падпіскай на газеты і часопісы. "ЛіМ" далучаецца да віншаванняў і добрых пажаданняў работнікам саюздруку. Аднак жа юбілей наводзіць і на сумны роздум. У сістэме "Белсаюздруку" — 1234 газетныя кіёскі і 44 магазіны, а яшчэ ж іх нямала і ў сістэме "Белпошты". І ўся гэтая махіна бярэ ў рознічны продаж толькі 2 ці 3 сотні экземпляраў нашага штотыднёвіка. Відавочна, што сярод слаўных юбіляраў-саюздрукаўцаў вельмі мала патрыётаў роднага слова...

### ІМІТАЦЫЯ ТЫДНЯ

Нацыянальны банк падняў курс куплі-продажу СКВ да 100—102 тысяч рублёў за долар. Але ж на ценявым валютным рынку долар каштуе амаль 200 тысяч. Загадчык аддзела Інстытута эканомікі НАН А. Лучанок у гутарцы з карэспандэнтам "Звязды" назваў гэтае рашэнне Нацбанка "імітацыяй прыняцця мер" і падкрэсліў: "Пакуль у абменных пунктах не будзе ўстанаўлівацца курс на падставе попыту і прапанавання, валюта будзе знаходзіцца ў ценявой эканоміцы і абагачаць рознага роду жулікаў". "Уж сколько раз твердили миру..."

### ДАЖЫНКІ ТЫДНЯ

Дажынкі — у сярэдзіне лістапада? Менавіта так. Яны прайшлі ў славутым "Рассвеце" Кіраўскага раёна. Прайшлі з размахам, з шыкам. На плошчы віраваў кірмаш, стаялі сталы з пачастункамі, было бясплатнае піва ад пуза (уласнае, калгаснае), грымеў аркестр, над плошчай дэманстраваў свае здольнасці пілот на самалёце... І акурат у гэтыя дні споўніўся год, як былы рассветаўскі старшыня апынуўся за кратамі. Пэўна, у чымсьці 73-гадовы В. Старавойтаў сапраўды вінаваты, аднак жа пытанне маральнасці, чалавечнасці гэтым не перакрэсліваецца...

### КАМІТЭТ ТЫДНЯ

Некалькі месяцаў назад Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выступіла з ініцыятывай адзначыць надыход 2000 года шэрагам мерапрыемстваў, якія б пацвердзілі і паказалі свету здабыткі і годнасць беларускай нацыі. І вось зараз створаны грамадскі аргкамітэт па падрыхтоўцы гэтых мерапрыемстваў. У яго ўвайшлі 35 прадстаўнікоў найбольш уплывовых грамадскіх арганізацый і асобныя дзеячы культуры і навукі, сярод іх — Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, В. Іпатава, К. Цвірка, А. Мальдзіс, У. Гілеп і многія іншыя. Сустаршынямі аргкамітэта абраны Р. Гарэцкі і А. Петрашкевіч. І зноў міжволі ўзнікае пытанне: а дзе ж беларуская дзяржава, чаму ўсё абмяжоўваецца ініцыятывай грамадскасці?

### НАСТАЛЬГІЯ ТЫДНЯ

Друк паведаміў пра тэндэрныя конкурсы, звязаныя з будаўніцтвам новага вакзала ў Мінску. Фіны абсталёўваюць дах галоўнага корпуса спецыяльнымі ліхтарамі, а немцы будуць рабіць спецыяльнае падложнае ацяпленне, ад якога ў будынку вакзала будзе цёпла і суха. Усё гэта добра. Але ў сэрцах многіх і многіх мінчукоў сталейшага пакалення (ды, пэўна, не толькі мінчукоў) жыве ўсё ж сум па ўтульным старым вакзальным будынку, які быў адной з нямногіх рэліквій сталіцы, сведкам многіх і немалаважных гістарычных падзей, што адбываліся тут. І ці выспеліць калі-небудзь такое ж цёплае пачуццё да сябе новы супермадэрны монстр?..

### "ЗЯЛЁНЫЯ" ТЫДНЯ

Беларуская экалагічная партыя і Беларуская партыя зялёных аб'ядналіся ў адну — Беларускую экалагічную партыю зялёных (БЭЗ). Дай ім, Госпадзе, поспехаў! Паляпшэнне экалагічнай сітуацыі ў Беларусі — адзін з важнейшых шляхоў выртавання нацыі...

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Аднак неўзабаве высветлілася, што нават для падтрымання дасягнутага ўзроўню вытворчасці і дабрабыту трэба павялічваць прадукцыйнасць станкоў для друкавання грошай штогадова ці не ў два разы. Калі ў 1996 годзе інфляцыя склала 39,3 працэнта, дык у 1997 годзе ўжо 63,1 працэнта, а сёлета, па прагнозах, яна дасягне 100 працэнтаў. Узрастаючая эмісія правакуе нястрымны рост цэн, што непазбежна выклікае перманентную эскалацыю патрабаванняў павышэння зарплаты. Рэзкае падзенне рэальнай зарплаты ў момант самай інтэнсіўнай эмісіі сведчыць аб тым, што інфляцыйны рэзерв вычэрпваецца".

*(В. Карбалевіч, "Штармавое папярэджанне". "Свободные новости", 13—20 лістапада 1998 года)*

### ПРАЦЭС ТЫДНЯ

У ЗША праходзіць адмысловы судовы працэс. 500 тысяч грамадзян хочуць атрымаць 400 мільёнаў долараў у якасці кампенсацыі за хваробы, атрыманыя імі ў выніку курэння. Адказчыкамі выступаюць прадстаўнікі пяці буйнейшых тытунёвых канцэрнаў. Для ЗША — гэта звычная справа, а для нас — экзотыка. Нашым людзям дастаткова для супакаення кароценькага надпісу на тытунёвым пачку: "Курэнне шкодна для вашага здароўя"...

НАДЗЁННАЕ

# У падмурак беларускай дзяржаўнасці

12 лістапада ў памяшканні галоўнага корпуса Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь адбылася навуковая канферэнцыя пад назваю "Ідэалогія беларускай дзяржаўнасці: праблемы тэорыі і практыкі". Яе адкрыў кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч. Ён падкрэсліў, што на сённяшнім этапе развіцця нашай краіны распрацоўка дзяржаўнай ідэалогіі становіцца прыярытэтнай задачай. На яго думку, без удакладнення асноўных ідэалагічных прынцыпаў развіцця краіны мы наўрад ці зможам адэкватна адказаць на выклік сучаснасці ў галіне эканомікі, экалогіі, сацыялогіі і культуры. М. Мясніковіч згадаў выказванне Прэзідэнта Беларусі падчас сустрэчы з пісьменнікамі, дзе кіраўнік краіны падкрэсліў, што распрацоўка нацыянальнай ідэалогіі аказалася справай болей складанай, чым напачатку меркавалася.

Большасць дакладчыкаў і выступоўцаў канферэнцыі, у тым ліку прафесары А. Майхровіч, А. Тур, С. Рашэтнікаў, У. Снапкоўскі і іншыя, падкрэслівалі, што самая важная задача, якая стаіць перад распрацоўшчыкамі дзяржаўнай ідэалогіі — гэта ўмелае выкарыстанне ў сваіх навуковых распрацоўках гістарычнага вопыту развіцця нашай краіны, у безумоўнай неабходнасці мадэрнізацыі палітычных, эканамічных і сацыяльных асноў беларускай дзяржаўнасці.

На думку некаторых выступоўцаў, сёння нельга ні ў якім разе разрываць сувязь часоў, разбураць цывілізаваную прастору нашага народа, а шляхам умацавання і развіцця пprasторава-часавых характарыстык нашага мінулага, цяперашняга і будучага намацаць тыя вузлавыя і звязваючыя паняцці, якія павінны стаць стрыжнем беларускай ідэалогіі. На парозе трэцяга тысячагоддзя беларусам патрабуецца ўсведамленне новых рэалій, якія складваюцца сёння ў свеце. Гэта зменлівая геапалітычная абстаноўка, глабалізацыя эканамічных працэсаў і грамадска-палітычных стасункаў. У гэтых умовах, — сцвярджала большасць дакладчыкаў, — Беларусь павінна заняць сваё годнае месца. У выступленнях некаторых з іх таксама падкрэслівалася, што на пераломе эпох неабходна звярнуцца найперш да вытокаў, асэнсаваць увесь наш гістарычны шлях, памылкі мінулага.

Зразумела, што пры распрацоўцы беларускай дзяржаўнай ідэалогіі вельмі важна дакладна сфармуляваць ідэалы, якія б не раз'ядноўвалі, а згуртоўвалі нашае грамадства. Таму падалося даволі слушным яшчэ адно месца з выступлення кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта М. Мясніковіча, дзе ён падкрэсліў, што сёння як ніколі востра ўстае праблема кансалідацыі грамадства, без якой, вядома, ні пра якое яго развіццё і рух наперад не можа быць і размовы. Пераход ад супрацьстаяння ва ўнутранай і знешняй палітыцы да кансенсусу магчымы сёння, на яго думку, толькі на грунце зразумелай усім ідэі. І такой павінна стаць ідэя беларускай дзяржаўнасці, яе далейшае развіццё і ўмацаванне. Відавочна, што ў гэтым пытанні погляд кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта аніяк не адрозніваецца ад погляду самых непрымірымых апазіцыянераў.

Праўда, літаральна праз некалькі сказаў пасля гэтых, шчыра скажам, вельмі патрэбных сёння з боку ўладаў высноў, кіраўнік Адміністрацыі аддаў належнае той самай, зусім не кансалідуючай грамадства і, на жаль, вельмі характэрнай у апошні час з боку нашых уладатрымальнікаў рыторыцы супрацьстаяння. Прычым як у знешняй, так і ва ўнутранай палітыцы. Ён згадаў пра "добразычліўцаў на Захадзе", што "ўсклалі на сябе выключнае права выдачы рэцэптаў і правядзення маніторынга развіцця іншых дзяржаў" і якія лічаць, "што беларуская дзяржава не адпавядае быццам бы нейкім міжнародным стандартам", адзначыў непрымальнасць экстрапаляцыі на нашую рэчаіснасць заходніх інстытутаў грамадскага і эканамічнага ўладкавання. Дасталося і "так званай апазіцыі", якая "пастаянна сцвярджае, што Беларусь у імгле, што яна ледзь не чорная прорва на карце свету".

Але нібы ў працяг гэтых выказванняў некаторыя з выступоўцаў адзначылі, што дзяржаўная ідэалогія абавязкова павінна ўтрымліваць грунтоўны аналіз і ацэнку геапалітычных рэалій, бо ў свеце ўсё ўзаемазвязана. Менавіта таму важнейшыя глабальныя, рэгіянальныя і субрэгіянальныя працэсы не могуць не закранаць і нашую краіну...

Падводзячы вынікі канферэнцыі намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта І. Пашкевіч падкрэсліў, што пры стварэнні ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці ўсё ж такі спяшацца не трэба, улічваючы складанасць і важнасць праблемы. Але справа, відаць, не толькі ў гэтым, а найперш у неакрэсленасці сённяшняга становішча нашай краіны як суверэннай дзяржавы, улічваючы актыўныя інтэграцыйныя працэсы з Расіяй. Менавіта гэтая няпэўнасць і вызначае хутчэй за ўсё тэмпы працы па стварэнні такіх лёсаносных дакументаў. Бо ў выпадку паспяховасці інтэграцыйнай кампаніі ці не губляе ўсялякі сэнс сама гэтая праца?

**НАШ КАР.**

# У "срэбным" атачэнні юбілею

## СЁННЯ РАСПАЧЫНАЕЦЦА МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВАЎ "БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ"

Апошняя дэкада лістапада пазначана на календары нашага культурнага жыцця як "пятая пара года" дваццаць пяты раз. "25" — гэта ўжо юбілей. Сярэбраны. І прырода нібыта парупілася пра адпаведнае атачэнне: сняжок... Ды ў канцэртных залах будзе нават горача! Сталічная філармонія адкрывае фестываль праграмай у гонар 53-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Гэта канкрэтны водгук на прапанову шаноўнай арганізацыі ўзяць удзел у вялікім мастацкім руху, прысвечаным ідэі міру і яднання нацый на аснове музычнай творчасці. Такім чынам, 20 лістапада ў Мінску гучаць шэдэўры: "Боская паэма" А. Скрабіна, "Рычэркар" І. С. Баха — А. Вэберна (з "Музычнага прынашэння"), 2-гі фартэпіянны канцэрт С. Пракоф'ева. Саліст — лаўрэат міжнародных конкурсаў Барыс Беразоўскі, расіянін, які жыве цяпер у Лондане. За пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі яго галоўны дырыжор Генадзь Праватораў.

Праз некалькі дзён маэстра парадуе публіку праграмай, складзенай з твораў Ягана Штрауса. Без малога 100 гадоў таму свет развітваўся з "каралём вальса", і ў памяць кампазітара, якога, дарэчы, свет і не забывае, прагучыць яго жыццярадасная аркестравая музыка.

Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі выступіць пад кіраўніцтвам маладога нашага дырыжора Андрэя Галанава. Салісты — Марыя Каўфман (флейтыстка, якая ў адной асобе прадстаўляе Балгарыю і Францыю) ды піяніст Ігар Алоўнікаў. Сур'ёзную праграму рыхтуюць віяланчэліст Алег Алоўнікаў ды піяніст Юрый Гільдзюк: Бах, Бетховен, Грыг. Дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова, Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" на чале з Уладзімірам Байдавым, піяністка Ірына Шуміліна — заўсёдныя ўдзельнікі "восені".

Для публікі, якая строгія акадэмічныя канцэрты не наведвае, "восень" таксама прапануе прывабныя дарункі. Напрыклад, у нядзелю на філарманічнай сцэне — Камерны канцэртны аркестр народных інструментаў (спадкаемца колішняга "Менска"), мастацкі кіраўнік якога — знаны кампазітар, прафесар Яўген Глебаў, а галоўны дырыжор — Віктар Валатковіч. З абноўленымі праграмамі выступяць і такія сталыя калектывы, як Акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча (мастацкі кіраўнік Міхась Дрынеўскі) ды Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі (мастацкі кіраўнік Валянцін Дудкевіч). Своеасаблівай справаздачай за 10 гадоў творчай працы станецца канцэрт майстроў эстрады, зладкаваны Дзяржаўным аб'яднаннем "Белканцэрт".

А госці? Некаторых ужо назвалі. Наведаюць нашу сталіцу таксама віленскі квінтэт акардэаністаў "Канцэрціна" (мастацкі кіраўнік Рычардас Свяцкявічус), Струнны квартэт з Кракава, маскоўскія салісты-віртуозы Іван Мазгавенка (кларнет), Валерый Папоў (фагот).

Нягледзячы на тое, што "Беларуская музычная восень" фінансуецца досыць сціпла, арганізатары канцэртнага жыцця імкнуцца зрабіць свята як мага шырэйшым. Артысты абласных філармоній, сталічныя музыканты, некаторыя з гасцей рыхтуюцца ў "камернае турнэ" па Беларусі.

**С. Б.**

# У палоне нашых бяроз

**За плённую дзейнасць па развіцці беларуска-балгарскага супрацоўніцтва Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў старшыню Таварыства дружбы "Балгарыя—Беларусь" балгарскага пісьменніка Стэфана Дзімава Паптонева медалём Францішка Скарыны. Так высока адзначаны ўклад нашага балгарскага сябра ў развіццё балгарска-беларускіх творчых кантактаў і ўзаемасувязяў.**

А даведаўся С. Паптонеў пра гэтую ўзнагароду, адзначаючы сваё 70-годдзе. У сябе на радзіме ён вядомы як празаік, паэт, публіцыст, піша таксама і творы для дзяцей і юнацтва.

У творчасці С. Паптонева моцна гучыць тэма дружбы паміж балгарскім і беларускім народамі. Ён неаднаразова бываў у нашай рэспубліцы, мае нямала сяброў сярод беларускіх пісьменнікаў. У кнігах С. Паптонева знаходзіцца месца і гэтым уражанням. Вяртаецца ён і да падзей другой сусветнай вайны.

Асабліва згаданыя матывы гучаць у кнізе "Беларусь — белая балада", якая, дарэчы, перакладзена і на беларускую мову.

Балгарскі чытач добра ведае і кнігі публіцыстыкі С. Паптонева "Адлегласці", "Мяне абудзіла світанне", "Сібірскі сшытак", "Кап'ё", у якіх таксама згадкі аб наведванні нашай краіны. Гэта ж трэба сказаць і пра зборнік вершаў С. Паптонева "Бярозы, я ў вашым палоне!", паэму "Беларуская восень".

Да ўсяго С. Паптонеў напісаў артыкулы пра беларускую гісторыю, культуру, як, для прыкладу, "Крыніца, у якую пазірае душа", "Маладосць стагоднікаў"... На балгарскую мову ён пераклаў творы Якуба Коласа, П. Броўкі, Максіма Танка, Р. Барадуліна, А.Вярцінскага, Н.Гілевіча, В. Лукшы, П. Макаля і іншых. У сваю чаргу творы С. Паптонева пераўвасаблялі па-беларуску Р. Барадулін, Н. Гілевіч, В.Нікіфаровіч, А.Разанаў, А. Ставер, Р. Станкевіч...

ВІНШУЕМ!

# Скрыпка — і аркестр

дырыжораў, узгадаваных на Беларусі, можна на пальцах пералічыць. Таму ведаем усіх пайменна, шануем кожнага — за музычны талент, за нялёгкую арганізатарскую, інтэлектуальную, творчую працу. Заслужаны артыст Беларусі Валерый Сарока гэтымі днямі, пэўна, адчувае асаблівую ўвагу і пашану ад калег, сяброў, вучняў, прыхільнікаў свайго мастацтва. Яму споўнілася 60. Добрая нагода, каб выказаць удзячнасць гэтаму працавітаму, адданаму Музыку, майстру!

Многія мінчукі памятаюць сціплага маладога чалавека са скрыпкай, які штодня спяшаўся да Дома радыё — тут з пачатку 60-х працаваў ён у Сімфанічным аркестры: артыстам, а неўзабаве і канцэртмайстрам. А яшчэ быў ён першай скрыпкай у Квартэце Саюза кампазітараў Беларусі, меў "свой" камерны аркестр у знанай школе імя І. Ахрэмчыка, дзе выкладаў...

Кажуць, што менавіта струннікам наканавана наўпростая дарога ў дырыжоры. І відаць, невыпадкова выйшаў на гэтую дарогу Валерый Сарока: менавіта як пра дырыжора гавораць пра яго цяпер. Ён выкладае ў Беларускай акадэміі музыкі, кіруе там камерным аркестрам. А самая шырокая публіка ведае яго як мастацкага кіраўніка Камернага аркестра, што працуе ў структуры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з М. Фінбергам.

Маэстра В. Сарока падрыхтаваў з гэтым калектывам шэраг адметных праграм, якія, прынамсі, мелі поспех падчас фестываляў "Музы Нясвіжа": тут і творы сучасных беларускіх кампазітараў, і наша музычная спадчына, і вальсы Шапэна, і геніяльная 40-я сімфонія Моцарта... У верасні Камерны аркестр здабыў лаўры міжнароднага музычнага фестывалю ў Італіі. А сёння — сёння ўжо складаюцца планы на будучы май. Да традыцыйнага фестывалю мастацтваў



"Музы Нясвіжа" маэстра В. Сарока рыхтуе праграму, прысвечаную музычным сталіцам свету...

*Фота Віт. АМІНАВА*

# "Літаратурны экспрэс 2000"

Адбылося пасяджэнне Камісіі па сувязях з замежнымі літаратарамі Саюза беларускіх пісьменнікаў, на якім быў абмеркаваны праект "Літаратурны экспрэс 2000". Старшыня камісіі, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава расказала аб гэтым праекце. У маі двухтысячнага года з Лісабона выйдзе поезд, у вагонах якога будуць ехаць 130 пісьменнікаў з 45 краін Еўропы. У Беларусі праектам прадугледжаны прыпынкі на некалькі дзён у Мінску і Брэсце. У ліпені 2000-га года экспрэс прыедзе ў Берлін, дзе паездка закончыцца шматдзённым фіналам.

Сябры камісіі Адам Мальдзіс, Валянціна Куляшова, Аляксей Гардзіцкі выказалі свае прапановы, як зрабіць паездку па Беларусі цікавай і плённай. Усе гэтыя прапановы будуць паведамлены адпаведным дзяржаўным органам.

# Правы і адказнасць

50-годдзю Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека прысвяціў вечарыну Сусветны духоўны універсітэт "Брахма Кумарыс". Гэтая паўрэлігійная арганізацыя з цэнтрамі ў многіх краінах свету і СНД садзейнічае самаразвіццю асобы і ўмацаванню маральных каштоўнасцей. У межах міжнароднай праграмы "Разбудзіць дух чалавечай годнасці" слухачы маюць магчымасць развіцця станоўчага мыслення і раскрыцця ўнутранага патэнцыялу. Са сцэны агучылі прывітальны ліст кіраўніцы Санкт-Пецярбургскага цэнтра Дзідзі Санташ:"Калі нам не хапае самапавагі, тады мы хочам нечага дамагчыся ад грамадства — прызнання, славы, багацця, улады... Дэкларацыя нагадвае не толькі пра нашы правы, але і пра нашую адказнасць перад чалавецтвам. Любоў, павага і ўзаемаразуменне — вось дух, які аб'ядноўвае людзей усяго свету. Адрозненні паміж намі не такія ўжо і небяспечныя, аднак без разумення, што нас родніць, гэтыя адрозненні могуць прывесці да адчужанасці, і канфліктаў".

# У Вялікай зале Лінкальн-цэнтра

Летам пісалі мы пра тое, як беларус Андрэй Паначэўны пакарыў Амерыку, здабыўшы там лаўры лідэра прэстыжнага міжнароднага конкурсу піяністаў. Цяпер паведамляем пра радасныя наступствы той перамогі — два сольныя канцэрты А. Паначэўнага ў ЗША. 15 лістапада ён іграў у Вашынгтоне, а літаральна ўчора — у Нью-Йорку, у знанай Вялікай зале Лінкальн-цэнтра. Першы прадстаўнік беларускай фартэпіяннай школы, якому апладзіравала элітная публіка заакіянскай краіны! Як паведаміў педагог А. Паначэўнага, прафесар Беларускай акадэміі музыкі Ю. Гільдзюк, неўзабаве канцэрт піяніста-лаўрэата мусіць адбыцца і ў родным Мінску.

# Свята палякаў — наша свята

12 лістапада ў Доме дружбы адбылася афіцыйная імпрэза з нагоды 80-х угодкаў незалежнасці Рэспублікі Польшча. На яе былі запрошаны людзі культуры і мастацтва, дыпламатычны корпус, журналісты, прадстаўнікі апазіцыі (у прыватнасці, Ю. Хадыка, С. Шарэцкі, С. Шушкевіч), чыноўнікі. Часовы паверані ў справах Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь спадар Пётр Жахоўскі выступіў перад прысутнымі з кароткаю прамоваю, у якой узгадаў этапы барацьбы польскага народа за незалежнасць і акцэнтаваў увагу на падзеях 80-гадовай даўніны, у выніку якіх Польшча набыла суверэнітэт. Перадумовай вяртання Польшчы на палітычную карту Еўропы стаў распад трох імперый — Германскай, Аўстра-Венгерскай, Расійскай. Палякі ў той час, у адрозненне ад іншых народаў колішняй Рэчы Паспалітай (беларусаў і ўкраінцаў), здолелі скарыстаць сітуацыю, а наш шлях да незалежнасці стаўся даўжэйшым і больш пакутлівым. У сваёй прамове часовы паверані з удзячнасцю прыгадаў імёны сыноў беларускай зямлі — Рэйтана, Каліноўскага, Манюшку, Міцкевіча, якія зрабілі важны ўнёсак у аднаўленне гістарычнай справядлівасці, у адраджэнне суверэннай Польшчы.

Потым быў канцэрт ансамбля "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. Прагучала музыка "Літвы і Кароны" XVII—XX стагоддзяў. Гэта "Віленскі сшытак", Я. Голанд, Ф. Шапэн, М. К. Агінскі, К. Шымано́ўскі, І. Падэрэўскі. Праграма канцэрта яскрава сведчыла пра тое, што адзіная культурная прастора Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў (Літвы і Кароны) існавала і пасля раздзелаў дзяржавы. Відавочна, што існуе яна і сёння, калі народы, што складалі Рэч Паспалітую, маюць свае нацыянальныя дзяржавы.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

АНОНС

# І зноў "Лістапад"

21 лістапада адкрыецца кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад-98" (а семнаццатай гадзіне ў кінатэатры "Кастрычнік"). Яго арганізатары — Міністэрства культуры РБ, Мінскі гарвыканкам, Дзяржкіно Расіі — прадстаўляюць лепшыя фільмы сёлетняга года.

Фестываль адкрые стужка С. Урсуляка "Сачыненне да Дня Перамогі". Па традыцыі праграму "Лістапада" склалі фільмы-прызёры міжнародных кінафестываляў: "Дзень поўні" К. Шахназарава (прыз за рэжысуру на фестывалі ў Карлавых Варах, Гран-пры на фестывалі ў Сербіі), "У той краіне" Л. Бабровай (спецыяльны дыплом на 48-м Берлінскім кінафестывалі), "З днём нараджэння" Л. Садзілавай (Гран-пры конкурсу "Дэбют" на кінафестывалі "Кінатаўр", прыз за лепшую рэжысуру на фестывалі "Еўразія-98"), "Краіна глухіх" В. Тадароўскага (галоўны прыз кінафоруму "Срэбраны цвік"),"Кветкі календулы" С. Снежкіна (Гран-пры на фестывалі "Акно ў Еўропу", прыз за лепшую аператарскую работу на фестывалі "Еўразія-98") і г. д. Акрамя вядомых расійскіх карцін, у "Лістападзе" бяруць удзел стужкі "Я стаміўся ненавідзець" (рэж. Х. Лінтроп і В. Лінтроп, Эстонія), "Млын лёсу" (рэж. Я. Стрэйч, Латвія), "Месяцовая Літва" (рэж. Г. Лукшас, Літва), "Два месяцы і тры сонцы" (рэж. Р. Балаян, Расія—Украіна), "Госпадзе, памілуй!" (рэж. В. Чалдранян, Арменія), "Маленькі баец" (рэж. М. Касымава, Беларусь). Калі ўлічваць вопыт папярэдніх "Лістападаў", магчыма, не ўсе карціны "даедуць" да Мінска. Як і не ўсе госці, якіх на "Лістападзе" заўсёды многа. Сёлета ў Мінск завітаюць М. Рудзінштэйн, А. Янкоўскі, Л. Федасеева-Шукшына, Н. Усатава, У. Ціханаў, К. Шахназараў, П. і В. Гарадоўскія.

Нагадаю, што галоўны прыз "Лістапада" — прыз сімпатый гледачоў. Аднак фільмы будуць ацэньваць таксама і журы кінапрэсы, і журы кінематаграфістаў. Звычайна погляды прафесійных крытыкаў і "прафесійных" гледачоў не супадаюць.

Упершыню ў рамках фестывалю плануецца праграма фільмаў для дзяцей (кінатэатр "Піянер") і традыцыйная праграма студэнцкіх работ, лаўрэатаў міжнародных кінафестываляў (кінатэатр "Змена"). Конкурсная праграма "Лістапада" пад назвай "Рэха фестывалю" будзе дэманстравацца ў Брэсце.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

АБСЯГІ

*ГРОДНА...*

## Юбілей духавога аркестра

Наваельнінскаму духавому аркестру споўнілася 60 гадоў. Гэты знакаміты калектыў шмат гадоў запар узначальвае выдатны спецыяліст Аляксандр Літвінскі. Дзякуючы менавіта яго намаганням, прыкметна расце музычнае майстэрства выканаўцаў. Духавому аркестру прысвоена ганаровае званне народнага, двойчы калектыў станавіўся дыпламантам Усесаюзнага конкурсу мастацтва самадзейнасці, тройчы — лаўрэатам рэспубліканскіх конкурсаў. Амаль 170 выхаванцаў аркестра набылі вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю.

Калектыў добра ведаюць не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, дзе ён неаднойчы выступаў і паказваў высокае выканаўчае майстэрства. З нагоды знамянальнай даты ў гарадскі пасёлак Наваельня прыехаў эстрадна-духавы аркестр Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі пад кіраўніцтвам Барыса Фёдарава. Юбілярам уручаны памятныя сувеніры і каштоўныя падарункі.

**Іосіф ЗАЯЦ**

*МАГІЛЁЎ...*

## Клавіры — на кірмаш

На вясеннім Лейпцыгскім кірмашы нашу рэспубліку будзе прадстаўляць пяцітомнае выданне "Еўрапейская клавірная музыка XVII—XVIII стагоддзяў. З архіваў збору Расійскай нацыянальнай бібліятэкі". Гэта сумесны праект Магілёўскага выдавецкага агенцтва "Белфорт" і Магілёўскага дзяржуніверсітэта імя А. Куляшова. Выданне ўбачыла свет дзякуючы падтрымцы ўпраўлення культуры мясцовага аблвыканкама. Зараз студэнты і выкладчыкі Беларускай акадэміі музыкі рыхтуюць канцэртную прэзентацыю праекта. А вясной магілёўскую прэм'еру плануецца паўтарыць для аматараў старажытнай музыкі ў Германіі.

## Для навучэнцаў каледжа

У гімназіі-каледжы музыкі і харэаграфіі абласнога цэнтра адбылося ўрачыстае адкрыццё новага вучэбнага корпуса. Ім стаў адрамантаваны і рэканструяваны будынак былога дзіцячага садка N26, што на вуліцы Танкавай. Тут ёсць усё неабходнае для правядзення заняткаў па харэаграфіі: тут абсталяваны танцавальныя залы, іншыя вучэбныя памяшканні. Новы будынак значна пашырае магчымасці развіцця юных талентаў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*БРЭСТ*

## У госці да барона

А менавіта да барона Мюнхгаўзена завіталі нядаўна ў госці выхаванцы Кобрынскай дзіцячай вёскі. Да барона, які стала атабарыўся ў Брэсцкім абласным тэатры лялек, пражываючы свае неверагодныя авантуры ды здарэнні ў спектаклі "Прыгоды барона Мюнхгаўзена". Акрамя таго, што паказ спектакля быў дабрачынны, дзятва засталася цалкам задаволеная не толькі вясёлай, імклівай дзеяй, што адбывалася на сцэне, але й тым цёплым, сяброўскім прыёмам, які быў аказаны ім работнікамі тэатра.

**І. Х.**

## На гасцінцы — "Дзядзінец"

Патрэбную справу робіць Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў, — яно распачало і дбала працягвае рыхтаваць і выдаваць кнігі пісьменнікаў Брэсцка-Пінскага Палесся. На сённяшні дзень чытач ужо ўбачыў зборнікі вершаў Алеся Каско "45", Алеся Паплаўскага "Спынены лістапад", Ніны Мацяш "Палёт над жытам", а таксама кнігу прозы Леаніда Філатава "Дарога. Палескія аповесці". Да друку падрыхтавана і чарговае выданне — анталогія сучаснай берасцейскай паэзіі "Дзядзінец", укладальнікам і рэдактарам якой з'яўляецца Мікола Пракаповіч.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

*ГОМЕЛЬ...*

## Маладзёжнае аб'яднанне мастакоў

У абласным цэнтры створана маладзёжнае аб'яднанне мастакоў. Узначальвае яго сябра СМБ Іван Папоў. Аб'яднанне прапагандуе сучаснае мастацтва. У гэтыя дні ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў адкрылася выстава, на якой экспануюцца дзесяткі палотнаў маладых жывапісцаў. Аптымізмам і мажорнасцю вызначаюцца карціны Івана Папова "Малітва", "Светлы дзень", "Веліч"...

## Пейзажы, прысвечаныя радзіме

У выставачнай зале Мазырскага краязнаўчага музея адкрылася выстава сябраў СМБ братоў Пятра і Васіля Феяў, якія нарадзіліся ў вёсцы Хамічы Калінкавіцкага раёна. Гэта выдатныя майстры беларускай керамікі. Іх творы экспанаваліся ў Прыбалтыцы, Польшчы, Чэхаславакіі, Італіі, на многіх усесаюзных мастацкіх выставах у Маскве. Добра вядомыя работы братоў "Дзень Перамогі", "Лучнікі", "Шахматысты". У апошні час мастакі пабывалі ў розных кутках Гомельшчыны, стварылі вялікую серыю пейзажаў, прысвечаных радзіме. Многія з гэтых работ і ўбачылі мазыране на выставе.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБСК...*

## Кветкі на сядзібе Завальні

На мінулым тыдні ў Полацкім музеі кнігадрукавання прайшлі Другія міжнародныя чытанні, прысвечаныя творчасці Яна Баршчэўскага. Чытанні арганізавалі Віцебскі дзяржуніверсітэт імя П. Машэрава, Польскі інстытут у Мінску, Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік і Віцебскі абласны краязнаўчы музей. У чытаннях узялі ўдзел літаратуразнаўцы з Варшаўскага універсітэта доктар Аляксандр Баршчэўскі і Надзея Панасюк, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Уладзімір Мархель, пісьменнік Уладзімір Арлоў, перакладчык Баршчэўскага Мікола Хаустовіч, доктар філалагічных навук Людміла Сінькова, празаікі, паэты, навукоўцы.

У Мурагах на Расоншчыне, на радзіме пісьменніка, да помніка і на месцы былой сядзібы шляхціца Завальні ўдзельнікі чытанняў паклалі кветкі.

## Дні Латвіі

У Віцебску прайшлі дні Латвіі, прымеркаваныя да 80-годдзя незалежнасці рэспублікі. У музычнай гасцёўні адкрылася выстава вядомага латышскага мастака Асвальда Звейсалніекса. У гарадскім цэнтры культуры была паказана экспазіцыя з фондаў Даўгаўпілскага музея. Адбыўся святочны канцэрт.

**Святлана ГУК**



ЧАСАПІС

## Таіса Мельчанка — аўтарка "Северняка"

**Паважаная рэдакцыя "ЛіМа", зусім нядаўна я стаў чытачом вашага штотыднёвіка. Жыву спадзяваннем захаваць пастаянства ў добрым пачынанні. Прызнаюся, што паўнацэнным чытачом мяне цяжка назваць, бо я практычна не валодаю літаратурнай беларускай мовай. Але з улікам таго, што па сваім паходжанні я з паўднёвых славян (балгарын), то вялікіх цяжкасцяў пакуль не сустрэў. Больш за тое, знаходжу мноства аднакарэнных і роднасных слоў, што яшчэ раз пацвярджае блізкасць нашых каранёў. Жыву па прынцыпе: "Дарогу адолее той, хто ідзе".**

**Аднак прычына майго ліста — не праблемы ў асваенні мною яшчэ адной мовы, а публікацыя ў газеце "Северняк" (г.Шумен, Балгарыя, штотыднёвае выданне пра літаратуру, мастацтва і публіцыстыку, якое распаўсюджваецца па ўсёй краіне) вашай зямлячкі беларускай паэтэсы Таісы Мельчанкі.**

**Сам загаловак прадмовы ярка сведчыць пра цёплае стаўленне спадара Іардана Папова да паэзіі Таісы Мельчанкі ("Все още се намира по някоя лирична душа..." — "Усё яшчэ знаходзіцца нейкая лірычная душа...").**

**На беларускай мове вершаў "Грэшніца" і "Шчаслівае лета" я не чытаў. Ведаю, што нават самы добры пераклад губляе штосьці істотнае, і ўсё ж трэба аддаць належнае перакладчыку Янку Дзімаву. Ён даў добрую магчымасць балгарскаму чытачу хоць на кароткае імгненне атрымаць асалоду ад беларускай паэзіі.**

**У сваёй рубрыцы "Часапіс" вы практыкуеце публікацыю такіх матэрыялаў. Калі застаняцеся вернымі традыцыям, то можаце пазнаёміць вашага чытача з такой інфармацыяй: беларуская паэтэса — аўтар балгарскага літаратурнага штотыднёвіка "Северняк".**

**Высылаю вам ксеракопію старонкі штотыднёвіка "Северняк" з публікацыяй Таісы Мельчанкі.**

**Міхаіл БАЧВАРАЎ-БОНДАР**

*P.S. Коратка пра сябе: грамадзянін Балгарыі; пастаянна жыву ў г.Магілёве; член Саюза пісьменнікаў Балгарыі; аўтар 5 зборнікаў вершаў на балгарскай і рускай мовах.*

**М.Б.-Б.**

## Зоркі блукаюць, не гаснуць

**Рэдка хто зазірае цяпер у Дом-музей І з'езда РСДРП. Не тыя часы, каб далучацца да першаасноў марксізму-ленінізму. І ўсё ж апошнім часам наведвальнікаў у сценах гэтага будынка паболела. Аднак зусім не таму, што нечакана многія зноў змянілі свае ідэйныя перакананні. Прычына іншая, прытым звязаная з культурай. Правільней, з гісторыяй яўрэйскага тэатра...**

**У музеі працуе выстаўка "Блукаючыя зоркі", якая прысвечана гісторыі Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра, які ў Мінску, наколькі вядома прыхільнікам гэтага віду мастацтва, працаваў з 1926-га па 1949 год. Атрымліваецца, што з часу, калі апошні раз была ўзнята заслона на сцэне гэтага калектыву, мінула амаль 50 гадоў. Хоць, калі задумацца, юбілей гэты — з тых, пра які можна сказаць словамі папулярнай песні — "са слязьмі на вачах".**

**Пачатак гэты тэатр узяў у Маскве, дзе ён быў створаны з ліку студэнтаў яўрэйскай секцыі Беларускай дзяржаўнай студыі ў 1922 годзе і працаваў там на працягу чатырох гадоў, паставіўшы восем спектакляў. А ў 1926 годзе 35 нядаўніх студыйцаў пераехалі ў Мінск, папоўніўшы тым самым колькасць сталічных тэатраў.**

**Як відаць з экспазіцыі, што ўвабрала ў сябе шэраг цікавых, унікальных матэрыялаў, яўрэйскі тэатр меў поспех і карыстаўся папулярнасцю ў гледача. Але пасля Вялікай Айчыннай вайны, вярнуўшыся з эвакуацыі з Новасібірска, аказаўся ў цяжкіх умовах. Каб жа толькі не было памяшкання — тут цяжкасці ўзнікалі і ў некаторых іншых калектываў. Куды горш, што тэатр пазбавілі дзяржаўнай датацыі. Тым не менш калектыў змагаўся за жыццё. Даводзілася выступаць на сцэне купалаўскага тэатра ў дні, калі ў гаспадароў былі выхадныя. Не здаваўся калектыў і тады, калі тэатр стаў перасоўным. Па-ранейшаму імкнучыся ставіць спектаклі, якія б маглі зацікавіць прыхільнікаў прыгожага.**

**Яўрэйскі тэатр — гісторыя тэатральнага жыцця Беларусі, але, дзякуючы выстаўцы, гэтая гісторыя працуе і на сённяшні дзень. Зоркі, якія блукаюць, яшчэ доўга не гаснуць. Ва ўсякім разе — у памяці.**

**Ян КРЫВІЦКІ**

ФЕСТЫВАЛІ

# Годны працяг адраджэння

### ТРАДЫЦЫЙНАЯ ІМПРЭЗА "БЕЛАРУСКАЙ КАПЭЛЫ"

Мудра, усё-ткі, сказана: "Лепей — меней..." Хаця, зразумела, не ад раскошнага жыцця скарацілі колькасць сваіх фестывальных канцэртаў руплівцы творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" на чале з Віктарам Скорабагатавым. Тым, каго турбуюць праблемы захавання гістарычных духоўных каштоўнасцяў, вывучэння мастацкай спадчыны, адраджэння нацыянальных культурных традыцый, тым, хто не пнецца пакласці руку "на пульс кан'юнктуры", — сёння цяжка. Зрэшты, не будзем скардзіцца на цяжкасці. Давайце захапляцца! Захапляцца тым, што здолелі зрабіць арганізатары і ўдзельнікі Восьмага фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы".

Першая з трох сёлетніх фестывальных вечарын адбылася ў панядзелак. "Сляза вялікага Адама" — радок адной з песень даў назву праграме, прысвечанай 200-годдзю А. Міцкевіча. Уключаныя ў яе старонкі музычнай спадчыны (С. Манюшка, Л. Абеліёвіч, Ю. Семяняка, М. Ельскі) дапоўнілі новыя творы нашых сучаснікаў — С. Бельцюкова, В. Кузняцова, Э. Наско, У. Дарохіна, Л. Захлеўнага, В. Капыцько. З вакальнымі творамі на вершы Адама Міцкевіча ў перакладах Янкі Купалы, Уладзіміра Мархеля, Яўгена Міклашэўскага суседнічалі рамансы на тэксты Максіма Танка, Станіслава Шушкевіча, Пятра Ліпая. У канцэрце ўдзельнічалі вядучыя выканаўцы: вакалісты Т. Пятрова, А. Аўраменка, Т. Цыбульская, А. Гардынец, Л. Лют, Н. Галеева, В. Скорабагатаў, скрыпач В. Зяленін, канцэртмайстар Г. Каржанеўская, Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам У. Байдава...

Учора прайшоў канцэрт, прысвечаны вакальнай творчасці Канстанціна Горскага — скрыпача, кампазітара, дырыжора. Імя гэтага нашага земляка толькі вяртаецца ў культурны досвед, знаёмства з ягонай музыкай для беларускай публікі ды для выканаўцаў толькі пачынаецца. А вось знаёмства з творчасцю другога нашага знанага земляка — Восіпа Казлоўскага — набывае яскравы працяг. У гэтым пераконвае праграма заключнага фестывальнага вечара, які мае адбыцца ў нядзелю ў Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

Спрычыніўшыся да старонак музыкі В. Казлоўскага, слухачы разам з выканаўцамі пагартаюць "хроніку мінуласці" — такі падзагаловак мае новы твор Вячаслава Кузняцова для салістаў, мужчынскага хору ды ансамбля ўдарных інструментаў. Назва ж яго — "Спевы даўнейшых ліцвінаў", лібрэта і пераклад вершаў з польскай паводле гістарычных баладаў Яна Чачота зроблены Уладзімірам Мархелем.

Завяршаць фестываль Адраджэння прэм'ерай — добры знак...

**С. Б.**

ВАРУНКІ

# Прытулак для спакутаваных душ, ці Крызісны рэабілітацыйны цэнтр

У мінулую пятніцу я нарэшце купіла два дзесяткі яек. Але — хай бы я іх не купляла!

У фірмовай краме "Белыя росы" ёсць у мяне знаёмая прадаўшчыца. Ды як сказаць — знаёмая! Мы з мужам належым да тых нямногіх беларусаў, якія не адцураліся роднай мовы і карыстаюцца ёю паўсядзённа і ўсюды, у тым ліку і ў крамах. Міжволі ўжо з гэтае прычыны прадаўцы гэта адзначаюць самі сабе і не стрымліваюцца, каб не пацікавіцца: "А вы заўсёды па-беларуску гаворыце?" Ці: "Вы, пэўна, настаўніца, калі па-беларуску гаворыце?.." Хапае ў мяне цярпення не сарвацца, спакойна адказаць: "Бо даў Бог нарадзіцца беларускай". Ці: "А як жа яшчэ мне размаўляць, калі я тут нарадзілася і вырасла?" І вельмі часта чуеш на гэта: "Яно ж ведама! Але ў нас мала хто гаворыць, сорамна быццам..." Вось такая гаворка калісьці адбылася ў мяне і з той прадаўшчыцай з "Белых рос". А з тае прычыны, што заходжу я ў краму гэтую ці не штодня (міма яе — на працу і з працы), дык і вітацца пачалі. Я ёй: "Добры вечар!", яна ў адказ: "Здраствуйця, здраствуйця! Што купіць хочаце?.." Вось гэтак і знаёмымі сталі...

Дык вось, падыходжу я ў пятніцу да "Белых рос", а там чарга — ажно на вуліцу. Ага, падумала, значыць, паявіліся яйкі. Аднак жа станавіцца ў такую чаргу ці ёсць рэзон? Мо й няма, ды толькі і без яек — як без рук, катлецiны няшчаснай не злепіш, не кажучы пра што іншае. Заняла я чаргу, а там памалу і ў краму зайшла. І згледзела мяне паверх людскіх галоў згаданая мною "знаёмая" (як і зваць яе, не ведаю) прадаўшчыца, і пачала міргаць мне падысці да яе. Чула мая душа — не трэба было рабіць гэтага, але ж па чарзе ўжо й пошум пракаціўся, што канчаюцца яйкі, усім не хопіць, ужо агучыліся на ўсю краму крыкі-патрабаванні адпускаць у адны рукі не больш чым па два дзесяткі, — вось і памкнулася я на тыя падміргванні-запрашэнні...

Карацей кажучы, купіла я два дзесяткі яек, але — з гвалтам, са скандалам, з раз'юшанымі крыкамі: "Нахабніца! Тут не стаяла! Я нікуды не адыходзілася, яе ў вочы не бачыла!.." Усё гэта і многае іншае — у мой адрас, хоць дасталося і маёй знаёмцы.

Несла я дахаты яечкі, а настрой быў — хоць засілься. Брыдка, агідна на душы было ад жыцця нашага такога, што за свае заробленыя нават гэтага няшчаснага яйка не купіць, што дзеля таго трэба ў сабакі вачэй пазычаць. І на сябе нейкая злосць усярэдзіне падымалася ("Абышлася б ты неяк без гэтых праклятых яек!"), і на знаёмую дабрадзейку-прадаўшчыцу ("Трэба ж было табе ўгледзець мяне ў тым натоўпе!"). А пасля злосць на апошнюю змянілася на сорам і жаласць да яе: хацела памагчы, а й самой, беднай, дасталося... У панядзелак і ў аўторак знарок не заходзіла ў "Белыя росы": хай забудзецца, уляжацца тое прыкрае пачуццё ў душы...

А літаральна заўчора собіла напаткаць колькі гадоў нябачаную колішнюю суседку па былой кватэры Галю. Жылі мы з Галяй, яе Раманам і дачушкай Светкай дружна, амаль па-сваяцку. Калі я выбіралася адтуль, дык з Галяй не толькі абняліся, але й паплакалі. Напачатку перазвоньваліся часта, сядытады і ў госці адна да аднае зазіралі, ды пакрысе повязі тыя паслаблі, апошніх жа колькі гадоў ужо й зусім не бачыліся. А тут зусім выпадкова — сутыкнуліся нос у нос. Не адразу я і пазнала Галю — гэтак суседка мая колішняя пастарэла і асунулася. Яна ж мяне пазнала яшчэ здалёк і як да роднай на шыю кінулася. І ў слёзы, ды гэтак шчыра, што я ўжо нават разгубілася. І думка мільганула: ці ж толькі ад радасці сустрэчы гэтыя слёзы?.. І як у ваду глядзела. Пасля агульных "айканняў" і "божканняў" Галя распавяла такое, што ўжо плакала не радаснымі, а зусім горкімі ды пякучымі слязьмі:

— Светку ж мы даўно замуж выдалі, паспелі ёй і кватэрку ў кааператыве пабудаваць, праўда, жыццё ў яе не склалася, Ігар яе паскуднікам аказаўся, скруціўся з другой, так і жыве адна, сына гадуючы; а мой на старасці гадоў распіўся, ды гэтак, што радачкі няма, хоць у пятлю галавой, ні дачка з унукам яму непатрэбны, адно каб выпіць, а як няма за што, дык да мяне чэпіцца, біцца кідаецца, было, што й біў, у сіняках хадзіла, і няма каму пажаліцца, а міліцыю выклікаць — сорамна, жыццё ж з ім, Раманам сваім, пражыла, раней жа не быў такім, ён жа кажа, што жыццё піць штурхае, пенсіі, кажа, толькі на выпіўку й хапае, а каб жыць, дык дзве ці тры трэба палучаць; няма радачкі аніякай, ні ўцячы куды, каб схавацца, не бачыць таго...

Выплакаўшыся, пабегла Галя на Камароўку — сала які брусок купіць, пакуль не прапіў яе Раман пенсію дарэшты, а я пасунулася на працу, і думкі мае, разбуджаныя і як падсветленыя гэтай нечаканаю сустрэчаю, былі такія ж нвясёлыя, маркотныя, як і той волкі, хоць і адліжна-хлюпатны лістападаўскі дзень. Думалася, як гаварыў мой настаўнік і старэйшы калега Міхась Майсеевіч Замскі, "за жыццё". Што яно гэткае нестабільнае, раздрайнае, цяжкае, беспрасветнае. Яно, вядома, не мы першыя і не мы апошнія. Ва ўсе вякі надараліся, пэўна, часіны, калі чалавек, людзі, народы траплялі ў палосы бедстваў і нягод, калі запаноўвала па-над усім і ўсімі роспач: што ж гэта робіцца, свет як канчаецца, ляціць у бездань, і хто ж яго ўратуе?

Гэтак і ў нас зараз. Усё ідзе-робіцца наўскрут. Дапраўды, як пры канцы свету. Наўкол — мора галечы, настаўнікі, урачы, інжынеры, творчая інтэлігенцыя ледзь зводзяць канцы з канцамі, а то раптам сярод гэтага мора — выспы няведама як здабытага багацця, дзе амаль з колішнім купецкім размахам ідзе "пір у часе чумы". І мы стогнем-плачам: што ж гэта робіцца, ці свет гэтак імкліва мяняецца, ці ляціць у тартарары? І хто ж яго ўратуе?

Яшчэ зусім нядаўна любілі ў адказ на гэта гаварыць: свет уратуе прыгажосць, краса! Цяпер жа ўсё часцей можна пачуць іншае: свет уратуе жанчына! І пры гэтым тлумачыцца, паўтараецца, як заклінанне, — чым уратуе: любоўю, цярпеннем, ласкай, пяшчотаю, самаахвярнасцю!

Ды, на жаль, гэта гавораць часцей тыя, што ўціснулі жанчыну ў жорсткія рамкі, далі ёй своеасаблівую жыццёвую ўстаноўку: ты найперш працаўніца, ты павінна будаваць дамы, даваць прадукцыю на заводах і фабрыках, будаваць шасейныя дарогі і чыгункі, у лепшым выпадку — вучыць чужых дзяцей у школе ці лячыць іх у бальніцы, а ўсё астатняе — уласны дом, уласныя дзеці і, урэшце, уласная душа — пасля. Так і застаецца незапатрабаванай, схаванай ад свету божага яе сапраўдная жаночая сутнасць — падняць слабога, суцешыць хворага, абагрэць гаротнага, улагодзіць злога, супакоіць гнеўнага. Інакш кажучы — тварыць дабро. Вось сапраўдная жаночая сутнасць, дадзеная ёй ад Бога. Без усяго гэтага ў жаночай душы спее смутная незадаволенасць жыццём, гатовая ў любы момант выбухнуць пякучым агнём гневу, абурэння, гора і роспачы. Як ёй збудаваць, зладзіць сваё ўласнае жыццё ў адпаведнасці з законамі любові, цярпення і самаахвярнасці? Ці магчыма гэта наогул, калі мы проста жывём — у штодзённых клопатах і турботах, у сумяціцы дзелавых і недзелавых спраў, у нечаканых бедах і раптоўным шчасці?

А што рабіць той жанчыне, якой не пашчасціла больш, чым іншым, якая ўвогуле не бачыць светлых і шчаслівых дзён? Якая ведае адно толькі крык, брудную лаянку, знявагу ўперамешку з пабоямі, начныя ўцёкі з дзецьмі ад страціўшага чалавечае аблічча мужа? Куды ёй дзецца, дзе шукаць паратунак?

Або — што рабіць дзяўчыне, якая стала ахвярай жорсткіх, асляпленых алкаголем гвалтаўнікоў? Не кожная можа, не кожная здольная падзяліцца сваёй бядою з маці, сястрою, сяброўкаю...

Зноў прыгадалася Галя — былая суседка па кватэры. Жанчына-пенсіянерка. Куды ёй кінуцца ад п'янага, азлобленага на ўсіх і на ўсё мужа? Да дачкі, у яе цесненькую аднапакаёўку, дзе няма месца ёй самой пры ўжо амаль дарослым сыне?

Мо й праўда, што жыццё — гэта ланцужок выпадкаў, няхай сабе нават запраграмаваных, закладзеных у генах. Менавіта раптоўна, нечакана ўзнікаюць у нашым жыцці праблемы і цяжкасці, яны абрыньваюцца на нас, як снег на галаву, і здаюцца такімі невырашальнымі, што выклікаюць адчай, глыбокі сум, роспач, чорныя думкі пра марнасць жыцця. Маўляў, чым гэтак жыць, дык лепш памерці, узяць грэх на душу і налажыць на сябе рукі...

Статыстыка сведчыць, што такія думкі часцей прыходзяць у галаву асобам моцнага полу, хоць у гэта чамусьці не верыцца. Проста мужчыны часцей ажыццяўляюць гэта, а жанчыну ратуе Бог. Ды ратуе ўсё ж не заўсёды. У такія хвіліны і Бог благі ратоўца. Проста нельга ў такія хвіліны заставацца жанчыне адной. Трэба шукаць рады ў добрых людзей, якія яшчэ не перавяліся (ды й не перавядуцца ніколі) на нашай зямлі. У такія хвіліны часам чалавеку патрэбна ўсяго толькі спагадлівае слова, каб адхінуць непапраўную бяду. А калі яшчэ ў дадатак да добрага слова гаротніца займее на нейкі час і прытулак для адхлання душы, каб душа вярнулася на месца і хоць трошачкі супакоілася, дык, як кажуць, і зусім добра.

Неяк глядзела па тэлевізары перадачу пра расійскіх жанчын, у якой быў сюжэт з Нарвегіі. Гаворка там ішла пра так званы крызісны цэнтр, у якім знаходзяць прытулак на нейкі час (калі не памыляюся — да трох месяцаў) жанчыны, якіх жыццёвыя варункі заводзілі ў тупік. Такія цэнтры там працуюць даўно і памагаюць многім жанчынам, у тым ліку і расійскім, якія па тых ці іншых прычынах апыньваюцца ў суседняй Нарвегіі. Памятаю, уразіла нават і такая акалічнасць, што тэлездымкі вяліся толькі ў самім цэнтры, непасрэдна ў пакоях, а вонкавага выгляду дома не было на экране — каб захаваць у тайне месцазнаходжанне гаротніц. Ад каго? Ды хоць бы ад крыўдзіцеля-мужа.

*(Працяг на стар. 15)*

# А над Крымам чыстае неба...

МО КАМУ ДЗІЎНА, але краіну любяць усё больш, гэтаксама як усё часцей імкнуцца яе пакінуць. На тыдзень, год альбо назаўжды — усё роўна. Кожны выбірае ўласны тэрмін неабходнай адсутнаснай палёгкі. Хацелася хоць бы куды-небудзь і нам. І вось гэтая нагода...

●

Другі год запар ад'язджалі на вакацыі ў Крым. Зноўку ў студэнцкі адпачынкава-працоўны лагер ад БДУ, бо ў кантэксце традыцый, што сягаюць за дзесяцігоддзі, — і весялей, і танней. Да таго ж з'явіліся чуткі, што на ўсю арганізацыю гэтай справы маюць намер упаўнаважыцца актыўныя дзеячы БПСМ, які ўжо набыў сёлета першы волыт у будатрадаўскай маладзёжнай палітыцы. А гэта значыць, што, мажліва, з наступнага года паляжаць падобным чынам на цёплым пясочку і папялёхацца ў моры нам наўрад ці давядзецца...

●

Гэтыя нататкі загадзя падаваліся абавязковым суправаджэннем меркаванай вандроўкі, своеасаблівай люстраванай прыкметай ейнай удаласці. Неаднаразова задэклароўвалі адзін аднаму, што будзем тое-сёе пастаянна занатоўваць. Нават набылі адмысловы блакнот. Жартавалі: а як інача, як без аніводнага радка штодня? Аднак атрымалася, што ўсё... напісана ўжо тут, у Мінску. Узгадвалі, аднаўлялі розныя станы пад уплывам крымскіх мясцін. Там дужа неспрыяльна было вадзіць асадкамі ў атмасферы паўсюднай разняволенасці, блакнот застаўся чысцюткім. Зрэшты, мо ёсць пэўныя асалода і перавага ў тым, што нашы "міжзораччы" — не наўпроставыя падарожныя нататкі, а праселекцыяваныя ў часе і прасторы. Нявартае — забылася...

●

Шэраг уяўленняў абывацеля наконт паўвыспы Крым не вельмі змястоўны. Ёсць нават іранічны сумнеў, што не кожны здольны правільна адказаць, у склад якой дзяржавы ўваходзіць зараз гэтая аўтаномія. Трэба прызнацца, што да паездкі туды мы таксама цьмяна ўяўлялі, што такое калісьці слынны савецкі вырай — Крым. Гэта цяпер імпэтна і грунтоўна распавядаем знаёмцам пра тамтэйшыя геаграфічныя прывабнасці і выгоды, пра прыемнасці і выдаткі курортнага баўлення часу, пра палітычнае становішча і г. д. Натуральна, уласны досвед значыць нямала. Таму, мабыць, захацелася пасля віна пражскага піва...

●

Прырода крымская прывarожвае. Васількі не сніліся. Дый не вельмі ссамоціліся мы па беларускіх краявідах, бо падчас твайго тэлефанавання чулі жалобнае: "А ў нас дажджы заліўныя. Холадна — градусаў дзесяць". Неба над морам, мора пад небам — у далечыні адно што далечыня. Загадкавыя раскіданыя горы. Паміж імі — серпантынавая асфальтавая стужка. Мы ўсё гэта захапілі з сабой: на стале ў альбомчыку — здымкі. Як малыя (а ўжо за дваццаць) кідаемся з лямантам у хвалі, хаця на шыльдзе, што непадалёк, пазначана забарона купацца ў шторм. Ды дзе там! Наадварот — самае файнае купанне! А вось засяроджана разглядаем адгладжаныя морам каменьчыкі. Загараем. Загараць лепш на "нудзісцкім" пляжы: сонца ўбіраецца ў цябе па ўсім целе і нішто белым не застаецца...

●

*Я езжу*
*по Южному*
*берегу Крыма, —*
*Не Крым,*
*а копия*
*древнего рая!*
*Какая фауна,*
*флора*
*и климат!*
*Пою, восторгаясь*
*и озирая, —*

гэта Уладзімір Маякоўскі. Пагуляў як след і па гарах, і ў рэстарацыях. Увогуле каго тут толькі ні было! Мікалай II, Чэхаў, родныя Адам Міцкевіч і Максім Багдановіч (іншыя вядомыя імёны папросту лянотна называць). У Феадосіі стаяць музей Айвазоўскага і хатка беларуса па паходжанні Аляксандра Грына. У Кактэбелі — колішні фальварак паэта Валошына, падораны гаспадаром Саюзу пісьменнікаў і ператвораны ў Дом творчасці. Выпадкам пры сустрэчы дачка Сяргея Панізніка ўзгадвала, як адпачывала тут з бацькам за савецкім часам. Напэўна, шпацыравалі мы па тых жа месцах, дзе былі і некаторыя з **тых**, чытаных яшчэ ў школе...

●

Пра крымчукоў. Сезонныя (на паўгода цёплае пары) вінаробы і гандляры амаль ад самага нараджэння. Анічым іншым, здаецца, не займаюцца. Не ўмеюць, не трэба. Безаблічная біялагічная набрыдзь з расійцаў, разбаўленых украінцамі і нашымі суайчыннікамі, і татараў. Дурнотная моладзь, якой мора надакучыла яшчэ ў дзіцячым узросце, заўсёдна абкураная да напаўбеспрытомнасці і паталагічна ласая да прыезджых дзяўчат (звычайна сімпатый у адказ няма, бо мужчынскага полу турысты значна бліжэй, багацей, цывільней і рамантычней). Большасць крымчукоў неадметныя, нецікавыя. Прынамсі, тыя, што патрапляліся нам у мястэчках, блізкіх да мора, — як абслугоўваючы персанал, без якога не абысціся...

●

Тэматычна слоўныя стасункаванні з крымчукамі не вызначаліся асаблівай разнастайнасцю. Іхні ўлюбёны занятак — падрабязныя расповеды — нават калі і сам не просіш — пра наваколле. Увачавідкі мяняюцца: вочы гараць, лоўка паварочваецца язык, рукі тудысюды сноўдаюць. Быццам на рынку кавуны прадаюць. А легендаў панавыдумлялі...

Ім дужа ўжо падабаецца беларускі прэзідэнт і ягоныя інтэграцыйныя рытарычныя захады. Дарэчы, падчас нашага знаходжання ў Крыме сп. Лукашэнка туды якраз завітаў, таму нагода гаварыць пра яго сталася свежай. Параўноўваюць: "Не тое, што наш Кучма!" Жаляцца: "А Ельцын на нас забыўся!" На рэплікі ў адказ бянтэжацца: "Не можа быць!" Любоў да Лукашэнкі непахісна трымаецца на тым, што крымчукам "зарплату не даюць месяцамі". Пры гэтым непазбежна вярэдзіліся тугой па шчаслівым і дабрабытным існаванні ў Савецкім Саюзе. Абрыдла гэта яшчэ на радзіме. Трагедыя без межаў. Няхай хварэюць...

Нарэшце, здзіўляешся з таго, наколькі пераважная частка тамтэйшага насельніцтва не любіць крымскіх татараў...

●

У Крыме іх 250 тысяч. Не так ужо і мала, аднак прысутнасць такой колькасці неславянаў запраста магла застацца па-за нашай увагай, калі б не... вельмі п'яны хлопец. Так, менавіта яму, які ледзь трымаўся на нагах, мы павінны быць удзячнымі за знаёмства з народам, становішча якога на Украіне можна ў нечым параўнаць са становішчам беларусаў у РБ. Малады чалавек ішоў, моцна хістаючыся, і да ўсяго рызыкаваў параніцца ўласнай жа сякерай, якую трымаў у руцэ. Не жадаючы крыві гэтага не лепшага сына Шчабятоўкі, адзін з нас дапамог хлопцу дабрацца дадому. Вуліца, куды нечакана занесла студэнта-беларуса, вылучаецца колькасцю жыхароў-татараў. Усходняя музыка з гукаўзмацняльнай апаратуры, што побач з мясцовым Домам культуры, вясёлыя чарнавалосыя людзі — усё сведчыла пра свята. Мясцовы славянін, які сумна назіраў за танцамі жанчын, не здолеў патлумачыць сэнс свята, і тады адбылася размова з прыгожай кабетай, імя якой, на жаль, забылася. Пакуль смажыўся шашлык, гаспадыня распавяла, што кожны год адзначаецца свята яднання татараў, якія былі дэпартаваны у 1944-м з Крыма па загадзе Сталіна з абвінавачваннем у "здрадзе Радзіме". Па яе словах, толькі невялічкая частка вярнулся ў родныя мясціны. Апынуўшыся сярод людзей нацыянальнай меншасці ў Крыме, беларусу карцела даведацца пра жыццё гэтага народа, яго страты і здабыткі. Аказваецца, становішча татараў, калі казаць аб нацыянальнай палітыцы, незайздроснае. Заўважана, напрыклад, што, размаўляючы паміж сабою на роднай мове, яны не-не ды і выкарыстаюць рускае слоўца. Гэта тлумачыцца адсутнасцю належнага адпаведніка ў татарскай мове? — было пытанне да субяседніцы. Не, гэта тлумачыцца дрэнным веданнем гэтай самай мовы. І сапраўды, наколькі мы паспелі пачуць за некалькі тыдняў знаходжання ў Крыме, татарскай карыстаюцца ў асноўным людзі сталага веку. Моладзь, зазначыла кабета, забываецца на ўсё роднае, дзеці вучацца ў рускіх класах. Праўда, ёсць некалькі татарскіх газет і нават тэлевізійная праграма, але гэта не мяняе агульнага становішча. Адно добра — ніхто не праследуе гэтых людзей па нацыянальнай прыкмеце. Але і не дапамагае. З усіх палітычных партый і плыняў татарскія праблемы, са слоў субяседніцы, хвалююць толькі Народны рух Украіны. Дзіўна: пры ўсёй заклапочанасці такой рэчаіснасцю гаспадыня шашлычнай не крыўдзіцца на ўладу. "Гэта ўсё ж украінская дзяржава", — скажа яна, падаючы талерку з кавалачкамі гарачага мяса і кубачак сухога віна. У памяці яна так і засталася прыгожай ветлівай жанчынай, шчырай патрыёткай і добрай гаспадыняй.

Гэта гісторыя ўспомніцца яшчэ не раз. Маскалі (яны і самі сябе гэтак называюць — абы не клікалі хахламі) аніколі не забудуцца аблаяць перад вамі татараў. Давялося неаднойчы пачуць: "чорныя" панаехалі", "гультаі". Маўляў, рвуцца да ўлады, нахабна патрабуючы трыццаць працэнтаў месц у краёвым парламенце, хаця татараў у Крыме — дзясятая частка ад усіх жыхароў. Асабліва раздражняюць яны марскіх пехацінцаў, што дыслацыруюцца недзе ў гарах і час ад часу спускаюцца "за арбузами". Выконваючы функцыю абаронцаў мірнага сну грамадзян, вайскоўцы дагэтуль успамінаюць канфлікт у 95-м. Нейкія вялізныя "разборкі" мясцовых "аўтарытэтаў", большасць з якіх — людзі з усходняй знешнасцю. Дзівакі ў пагонах, як гэта часцяком здараецца, перанеслі свае пачуцці з асобных крымінальнікаў на ўсю



расу. Нават давялі быццам бы гістарычную бясспрэчнасць: грэкі былі, скіфы, генуэзцы ў мінулым, хто заўгодна, а вось татарамі і не пахла... Але трэба падкрэсліць, далей размоў пра "нярускіх дзікуноў" справа, дзякуй Богу, не ідзе...

●

На гэтыя ды іншыя дурнотныя фобіі ці то міжволі, ці то знарок падбухторваюць некаторыя расійскія палітыкі. Надзвычай пагана ім без Крыма! Гэтаксама, як без Чачні, Беларусі і г. д. Баронячы інтарэсы і правы рускамоўных, рускакроўных і рускадумаючых, не грэбуюць відавочнымі непрыстойнымі і правакацыйнымі выказваннямі, непрыхаваным умяшальніцтвам ва ўнутраныя справы іншай дзяржавы. Асабліва шчыруе заўсёдны госць айчынных урачыстасцяў на няўцямнага 3-га ліпеня і аматар усемажлівых рэстаўрацый мэр Масквы Ю. Лужкоў. Пару месяцаў таму ён нават дамогся сваімі рэзкімі прамовамі пратэставай рэакцыі МЗС Украіны. Не стрывалі, і, зважаючы на дыпламатычныя тонкасці, у заяве ўсё роўна катэгарычна асуджаецца "чарговы публічны акт Ю. Лужкова", які "кантрастуе з пазітыўным і дынамічным развіццём двухбаковых украінска-расійскіх адносін, заснаваных на раўнапраўі, узаемапавазе да суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці". Калі ж мы дамо адпор? А губернатар саратаўскі Аяцкаў увогуле дагаварыўся на сёлетнім святкаванні дня вайскова-марскога флоту Расіі на сентэнцыі, што "Крым — славянская паўвыспа". Газета "Кримська світлиця" абурана адгукнулася фельетонам, назваўшы прыведзенае выказванне сепаратысцкім эўфемізмам папярэдніх сцвярджэнняў, што крымская зямля ёсць па ўсім расейская тэрыторыя. "Цяпер мы, крымчане, дакладна ведаем, што Крым — гэта толькі геаграфічнае паняцце, а не адміністрацыйная адзінка Украіны. Проста паўвыспа — Славянская. Значыць, мы ўжо не пачуем "Салям алейкум", не пабачым "Хайтарму", вуліца крымскататарскага асветніка І. Гаспрынскага зноў стане набярэжнаю імя 60-годдзя Кастрычніка, мячэці зноў ператворацца ў склады і клубы бязбожнікаў? І ўвогуле выкінем з галавы само паняцце пра Крымскае ханства і саміх крымскіх татараў, якія стварылі на гэтай зямлі самабытную нацыянальную культуру?.."

●

Акцыя ўрада Украіны па спрыянні засялення Крыма татарамі мае маральна-палітычныя акалічнасці. Гэта адначасова выпраўленне правінаў за несправядлівую дэпартацыю і спроба праз ураўнаважанне колькасцяў нацыянальных прадстаўніцтваў утаймаваць імперскія прэтэнзіі на паўвыспу з боку Расіі. Праводзячы пры гэтым мяккую паўзучую ўкраінізацыю краю. Хаця з часам можа надарыцца іншая небяспека ў выглядзе жадання крымскіх татараў займець уласную незалежную краіну. Пакуль жа аптымістычнічаюць: "Крым ужо не першае дзесяцігоддзе з'яўляецца састаўной часткаю сёння незалежнай Украіны. Такім ён застанецца і надалей".

●

Адваротнымі выразнікамі лёсавых перспектыў Крыма выглядаюць дзве самыя папулярныя і ўплывовыя мясцовыя газеты — "Крымская правда" і ўжо цытаваная "Кримська світлиця". Ужо назовы выразна сведчаць, чым турбуюцца гэтыя сімферопальскія выданні, якія не спыняюць паміж сабой перманентнай палемікі. Не вельмі інтэлектуальнай "КП", што запаўняе першую паласу спрэс навінамі расійскай рэчаіснасці, а на астатніх даводзіць мізэрную гістарычную прысутнасць на паўвыспе ўкраінцаў і татараў і цвеліць агулам усіх — ад Мазепы да народнарухаўцаў — украінскіх патрыётаў і іхнія высакародныя ідэі, далікатна супрацьстаіць драбнейшая па накладзе незалежніцкая "КС". Далікатна таму, што інакш і немажліва, калі намагаешся адраджаць украінства сярод зрусіфікаванага і маючага антыўкраінскія палітычныя настроі крымскага насельніцтва. І "Кримську світлицю", падобную, дарэчы, да "ЛіМа" (і там адным з выдаўцоў з'яўляецца Саюз пісьменнікаў), мы ўпадабалі. Няўжо ж было чытаць надакучыўшыя дагэтуль "Комсомольскую правду", "Аргументы и факты" альбо "жоўтыя" газеткі...

●

Між іншым, рынак прэсы тут не надта багаты. У асноўным гандлююць расійскімі выданнямі. Самая дарагая газета, якую давялося пабачыць — "Московский комсомолец" — за грыўну і пяцьдзесят капеек (пры курсе 2 гр. 50 кап. за долар). Украінская і ў тым ліку крымская прэса даражэй чым 80 капеек не каштуе. Яе, дарэчы, і знайсці складана. Тым больш свежую. Паколькі нармальнага попыту няма, шапікі ўкраінскія выданні проста не замаўляюць. Хаця яны часам цікавейшыя за маскоўскія. Вось, напрыклад, газета "Сегодня" (не блытаць з расійскай, што мае такую ж назву). Загаловак да інтэрв'ю: "Через два месяца Ельцин уйдет и вот тогда начнётся". Карэспандэнт гутарыць аб эканамічным крызісе ў Расіі з прэзідэнтам Калмыкіі Кірсанам Ілюмжынавым. Той, як трэба было чакаць, аб усім ведаў даўно і "вверенную ему территорию вовремя обезопасил". Амаль не хавае, што збіраецца змагацца за пасаду прэзідэнта Расіі пасля таго, як яе датэрмінова пакіне Барыс Мікалаевіч. Не без жартачкаў распавядае пра гісторыю з нядаўнім забойствам апазіцыйнай журналісткі Л. Юдзінай (па адной з версій, акцыю здзейснілі ахоўнікі Ілюмжынава). І такую асобу папулярызуюць за тысячу кіламетраў. Прыгадалі другога прэзідэнта...

●

Пустое звяртацца да крымскага жыхарства з адбеларускім аналагам "не пакідайце мовы вашай украінскай". Недарэчна. Мова дзяржавы Украіна, блізкая да нашай роднай, у заняпадзе. Пачуваешся, як у Беларусі. Купілі расійска-ўкраінскі слоўнічак і граматыку. За нашу і вашу мовы! Хай бы толькі Крым быў такі, а то аказалася, што, напрыклад, Чарнігаў таксама — не зусім украінскі. У гэтым горадзе сышлі на прыпынку з цягніка, каб набыць што з чытання. Наўкола — пераважна ўкраінская "трасянка". Звяртаемся да кабеты па-беларуску. Няўцямна паглядае, не разумее, просіць паўтарыць. Калі ласка. Да таго ж тлумачым, што мы — беларусы. Эфекту — аніякага. Паразумеліся на мове міжнацыянальных стасункаванняў.

*(Працяг на стар. 12)*

*Яна раптоўнаму куплету*
*Здзівілася ўпершыню,*
*І захацелася ў паэты,*
*Нібыта птушцы ў вышыню.*

*Яна так лёгка улавіла*
*Рытмічны строй і рыфмы код.*
*Рыфмуе: "мілы — да магілы"*
*У няпоўных васемнаццаць год.*

*Дыктуе дзень на ўлонні лета*
*Ёй пра палі ды сенажаць.*
*...Дзяўчынцы хочацца ў паэты,*
*Што ў катаржанкі, — дзе ж ёй знаць?!*

*Вось са сваім адкрытым светам*
*Яна бяжыць праз сенакос.*
*Дзяўчынцы хочацца ў паэты...*
*О дай апомніцца ёй, лёс!*

Лёс творцаў — бязлітасны: ім наканавана катарга пачуццяў, з якой не выйсці пажыццёва.

**5**

Вясна 1966 года, калі я ўпершыню сустрэўся з Жэняй Янішчыц, была ў маім жыцці помнаю, тады споўніўся год майму сыну. Яна яго і не бачыла, але не прамінала выпадку, каб выказаць сваю, будучай маці, пяшчоту і ласку. Пісала ў лістах: "Пацалуйце за мяне вашага маленькага... Хай расце вялікі-вялікі!"; "...а Руслану абавязкова сыграйце маю любімую песню "Колыбельная" з кінафільма "Гусарская балада". (У яе шмат было любімых песняў, найперш беларускіх народных. Але тады якраз прайшоў на экранах памянёны фільм.)...

Міжвольна падумалася: як цудоўна, што зведала яна мацярынства, яго высокі сэнс, высокае прызначэнне. Пад сваім сэрцам вынасіла новае жыццё, у пакутах яго нарадзіла, ахоўвала і выхоўвала, удыхнула ў яго сваю любоў і пяшчоту. Гэта, безумоўна, узбагаціла яе пачуцці, а праз іх — паэзію. Якім харастрвом, якой маральнай чысцінёю, якой самаахвярнаю любоўю напоўнены крышталь вось такіх строф:

*Каб не глядзелася ў вочы ажына*
*І каб ваўчыннік рук не калоў, —*
*Тваю калысачку*
*з лёну, і жыта,*
*І з наймацнейшых пляла каранёў.*

*Зорка сачу, каб не збіўся з дарогі,*
*Змоладу каб не заплямію жыццё,*
*Востры каменьчык — пад мае ногі!*
*Пад мае рукі — шыпы і асцё.*

*Гордае шчасцейка, мая сямейка,*
*Ты па слядах маіх слёз не рассей,*
*Сыне мой першы,*
*наіўны Андрэйка,*
*І сын мой апошні,*
*Мужны Андрэй!*

Зусім відавочна, што паэзія ў Жэні Янішчыц арганічная і такая натуральная, як само дыханне.

**6**

Здавалася, лёс паэткі складваўся шчасліва. Пасля школы Жэня вучылася ва універсітэце ў Мінску. Атрымаўся ў яе бліскучы паэтычны дэбют — выйшаў зборнік вершаў "Снежныя грамніцы" (1970). Адбылося замужжа. Нарадзіўся сын. Выходзілі новыя кнігі. Яе талент стаў агульнапрызнаны. Ахвотна друкавалі яе творы ў перыёдыцы, хвалілі рэцэнзенты. Яна была навідавоку ў эпіцэнтры культурнага і грамадскага жыцця.

Потым як бы хто яе сурочыў. Пайшла паласа цяжкіх бедаў: дарожнае здарэнне, працяглае пасля наезду машыны лячэнне, развод, нечаканая трагічная смерць бацькі. Магчыма, усё гэта ішло не ў такой, як я кажу, паслядоўнасці. Пісьмаў больш мне яна не пісала. Пасля майго пераезду з сям'ёю ў Мінск мы з Жэняй сустракаліся вельмі рэдка. Бачыліся звычайна ў Доме літаратара, на сходах, часам на вечарынах. Зрэдку абменьваліся тэлефоннымі званкамі.

Неяк аднаго разу пры сустрэчы яна раптам прапанавала мне як-небудзь з'ездзіць з ёю і Нінай Загорскай на Ганцаўшчыну — да Міколы Купрэева.

У канцы кастрычніка 1988 года мне, складальніку "Дня паэзіі-89", трэ было перагаварыць з Янкам Сіпаковым, галоўным рэдактарам памянёнага паэтычнага выдання, і я зайшоў у рэдакцыю "Маладосці", дзе ён загадваў аддзелам. У амаль квадратным пакоі стаялі чатыры сталы, за адным з якіх літаратары рэзаліся ў шахматы. Было даволі людна.

Пасля кароткай гамонкі з Янкам Сіпаковым я падышоў да Жэні, яна працавала за сваім рабочым сталом, што стаяў пры акне. Нагадаў ёй, што мы меркавалі з'ездзіць на Ганцаўшчыну, а між тым праляцела лета, хутка, маўляў, скончыцца і восень... Пацікавіўся, як яна пажывае.

— Ай, Васіль, не пытайся... Зайшоў бы калі...

Я сказаў, што не ведаю яе адраса (ёй далі новую кватэру). Яна вырвала з календара лісток і напісала на ім нязменна прыгожым почыркам свой новы адрас. Дастала кнігу вершаў і паэм "У шуме жытняга святла" і надпісала: "Дарагім Васілю і Веры з самымі светлымі пачуццямі, з удзячнасцю за блізкае святло і цеплыню. Поспехаў у паэзіі, моцнага здароўя, шчасця ўсёй сям'і! Шчыра і па-зямляцку — Жэня Янішчыц. 28. X. 1988 г."

Хто мог падумаць, што менш як праз месяц яе не стане!

Ішоў апошні Жэнін лістапад.

Запрошаны ў госці, я завітаў да яе. Была гаспадыня гасцінная. Але ад любові да жыцця, якая калісьці ў ёй літаральна буйнела, ад яе жыццярадаснасці не засталося і следу — ад Жэні не адступала хандра; мабыць, такі стан называецца дэпрэсіяй.

Апошні раз бачыў яе за два дні да трагедыі. Па дарозе ў выдавецтва зайшоў, каб запытацца, калі яна напіша для "Дня паэзіі-89" абяцаны артыкул пра М. Ю. Лермантава да 175-годдзя з дня яго народзінаў.

— Ой, Васіль, ты ведаеш, калі мне цяжка, — сказала яна, як толькі я пераступіў парог кватэры.

Наконт артыкула сказала, што ёй трэба яшчэ трошкі часу...

Між тым, як я зразумеў, яна пачынала збірацца на працу, і мы развіталіся.

**7**

У зборніку вершаў "Ясельда" (1978) ёсць такі нетрадыцыйны верш:

*Вунь першая хмара навісла бянтэжна*
*Над краем.*
*Легальна зусім і зусім незалежна*
*Знікаю.*
*Вось першая кропля апала над борам,*
*Над гаем...*
*З гасцінных канапаў і з пышных убораў -*
*Знікаю.*
*Знікаю з усмешак на тварах лісліўых,*
*Няверных.*
*Знікаю. Хай будзе на момант шчаслівы*
*Той бераг,*
*Дзе мроя збылася, дзе кветка ўзнялася,*
*А явы не стала...*
*Знікаю, пакуль я сама ў сабе не знайшлася*
*Цвяроза і стала.*
*Вунь нечая зорка, начная ільдзінка,*
*Плыве па-над гаем.*
*З люстэркаў усіх і з усіх фотаздымкаў —*
*Знікаю,*
*Знікаю...*

Уражанне такое, што адбыўся канфлікт асобы, душа якой перапоўнілася расчараваннямі ў фальшывым свеце, з ім самім, з гэтым светам. Але найперш канфлікт здарыўся з самой сабою, з сабой былою. З унутранага бунту пачыналася перабудова духоўных сіл, нараджаліся новыя надзея і вера: "Знікаю, пакуль я сама ў сабе не знайшлася..." І што ж далей? Далей ішла мабілізацыя духоўных сіл:

*Над сумным*
*днём, раптоўнай катастрофай*
*Маіх празрыстых вобразаў і сноў*
*Паўстану я...*

І яна паўстала. І акрыяла. Сама ў сабе знайшлася "цвяроза і стала". Наперадзе быў яе лірычны подзвіг і былі заслужаныя лаўры.

З ударамі лёсу змагалася з усёй уласцівай ёй годнасцю. Радкі з верша "Было. Былі. Была?.." ("Дзень паэзіі-89"):

*Як град шалёны б'е,*
*Нібыта травы косіць.*
*...Я тая, што ў цябе*
*Палёгкі не папросіць.*

І па-ранейшаму ўсё, што адбывалася ў яе душы і з яе душою, адлюстроўвалася ў творах. Цяпер у паэткі выразна акрэсліўся новы віток канфлікту са светам, кажучы мякка, недалікатным і лісліўым, канфлікту, які пацвердзіў: тое адступленне: "Знікаю, знікаю..." не азначала капітуляцыю — яна вярнулася, каб выступіць супраць яго сам-насам. Але змаганне асобы з цэлым натоўпам заган свету хутка спаліць яе душэўную энергію і давядзе да роспачы, бо саму рэчаіснасць цяпер успрымала яна з хваравітай увагаю, на ўсё хваравіта рэагавала. Строфы з верша "Я выдыхну і сэрцам, і слязьмі..." ("Дзень паэзіі-89"):

*Я цераблю ў задуме горкі лоб,*
*Я думаю пра невясёлы вопыт:*
*Мне задае пытанні хітры сноб,*
*Дзе кожнае пытанне: быццам допыт.*

*Дапытвайся, стратэгу, бог з табой!*
*(Ты ўжо мяне дапытваеш не першы.)*
*Я ведаю даўно, якой цаной,*
*Якой любоўю выдыхнуты вершы.*

Зрэшты, складана аналізаваць пачуцці вытанчанай натуры, бо яна і павінна рэагаваць на ўсё неардынарна. Многім людзям вялікае значэнне мае тое, як да іх дасягненняў ставяцца іншыя, асабліва прызнаныя аўтарытэты. Помніцца, з якою радасцю Жэня казала мне па тэлефоне, што на публікацыю ў "ЛіМе" яе "Зорнай паэмы" адгукнуліся нават Пімен Панчанка і Максім Танк. Помніцца і іншае: калі я павіншаваў яе па тэлефоне з дзяржаўнай прэміяй, яна заплакала, бо ў яе аказаліся зайздроснікі, нядобразычліўцы, якіх яна, праўда, не назвала. Як некалі, у юнацтве, яна зачароўвалася ці не ўсім белым светам, людзьмі, так цяпер ва ўсім расчароўвалася, нарастала падазрэнне людзей у няшчырасці. Радкі з верша "Любоў?" ("Дзень паэзіі-89"):

*Была мішэнню ў цэнтры круга,*
*Лічыла дні балючых страт...*
*Што ж мне рабіць з любоўю друга,*
*Які не друг мне і не брат.*

Тым часам пашыралася і паглыблялася трэшчына ў лёсе, рос адчай, набліжаўся душэўны крызіс. Радкі з верша "Ад слёз адвыклае, расчуліцца" ("Дзень паэзіі-88"):

*Усё — за росамі, за вёснамі,*
*За шлейфам грознае грады.*
*І як дарога пад калёсамі —*
*Мае збалелыя гады.*

Радкі з верша "І сапраўды: нібы казённы дом..." ("Дзень паэзіі-89"):

*І вось іду — уся глуханямая.*
*І вось іду... але куды, куды,*
*Па што цяпер акрылена спяшацца...*
*Заплакаць ці шалёна засмяяцца*
*На грані чорна-аспіднай жуды?!*

Міжволі даляцела рэха палярных слоў з яе зачараванае вясны: "Я уся такая шчаслівая!", даляцела, каб толькі разбіцца аб гэтае ледзяное: "І вось іду - уся глуханямая". Ад неагляднага, неабсяжнага шчасця ўсяго дваццаць два гады ішла яна да свайго няшчасця.

Драма перарастала ў трагедыю. З верша "Наіўныя, улюбёныя гады..." ("Дзень паэзіі-89"):

*Апошні дар, апошні ўдар жыцця?*
*Гракамі перакрэслена світанне.*
*Да забыцця жыву, да знебыцця*
*Таго, што называлася каханнем.*

Гэта былі іскры пажару душы? Не, быў град, выкліканы нейкім цяжкім зямным цыклонам. Шкадую: не прыдаў значэння пачутым словам, што да яе прыйшоў **г л а б а л ь н ы** спакой...

Згадваецца і яшчэ адзін невясёлы верш, асабліва — яго канцоўка:

*Блаславёна стажэчак завершым,*
*І прамовіць матуля ў жальбе:*
*"Як цябе ўратаваць мне ад вершаў,*
*Ад самоты, што з'ела цябе!"*
*Ад такой самоты лекаў не знайшлося.*

Усякая зорка згарае, каб сусвету пасылаць святло. Яна згарала вельмі інтэнсіўна.

У сардэчнай і мужнай паэзіі Жэні Янішчыц нямала афарыстычнага. І цяпер як наказ грамадству прачытваюцца яе многія вершы.

*Узвядзём жа культуру ў культ,*
*Ачышчэнне душы — непазбежна!*
*("Адносна культа").*

Душа чалавека — тая субстанцыя, якая найбольш хвалявала знакамітую паэтку, хоць яна добра адчувала і душу прыроды, яе таямнічасць. Вось пацверджанне, а заадно і нечаканае мастацкае адкрыццё:

*Адкрыць, сказаць сваё мне нешта хоча*
*Энергія апалага лістка.*

Трэба мець выключна чуйнае сэрца і вытанчаны талент, каб адчуць "энергію апалага лістка". Калі ж такая няўлоўная энергія ўспрынята душою, тады што сказаць пра энергію самой паэтычнай душы-зоркі, энергію, якую яна пасылае? Ёй не існуе перашкод, не існуе адлегласці. Высокае прызначэнне мае энергія святла зоркі. Яна не знікае.

Вось гэтак успомніліся мне эпізоды з адной вясны і адной восені незабыўнае Жэні Янішчыц.

**Васіль ЖУКОВІЧ**
*Фота У. КРУКА*


*Сярод выкладчыкаў Гомельскага універсітэта, 1987 г.*


*На вечарыне маладых літаратараў, 1978 г.*


*На літаратурным вечары ў Доме літаратара, 1987 г.*

*Усіх, каму дарагое імя Яўгеніі ЯНІШЧЫЦ і памяць аб ёй, запрашаем 25 лістапада г.г. у Дом літаратара (вул. Фрунзе, 5) на вечарыну, прысвечаную 50-годдзю выдатнай паэткі Беларусі. Пачатак у 18.30.*

*Гэтым жа днём а 16 гадзіне ў Свята-Пятра-Паўлаўскім саборы ў г. Мінску будзе адслужана памінальная паніхіда.*

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**



## ЧАСАПІС

## Нёман двух Міцкевічаў

Да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча і 116-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа ў літаратурна-мемарыяльным музеі беларускага песняра адкрыта выстава "Нёман у творчасці двух паэтаў". На ёй экспануюцца рукапісы, мастацкія работы, кнігі з фондаў Дзяржаўнага мастацкага музея, Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

Хаця большую частку жыцця А.Міцкевіч правёў па-за межамі Беларусі, ён шырока выкарыстоўваў у сваіх творах тэмы і вобразы, падказаныя жыццём і гісторыяй беларускага народа. У самым значным творы Міцкевіча — паэме "Пан Тадэвуш" — малююцца карціны народнага жыцця Беларусі, яркія пейзажы Навагрудчыны, Налібоцкай пушчы. І не адзін раз у думках ён вяртаецца на Радзіму, услаўляе магутны Нёман:

*З'яві свой цуд, каб зноў сустрэцца*
*з родным краем,*
*Дазволь душы маёй, ахопленай адчаем,*
*Пераляцець туды, дзе поясам блакіту*
*Над Нёманам лясныя ўзгоркі апавіты,*
*Дзе прозеленню жыта ў полі серабрыцца*
*І залаціцца поўным коласам пшаніца.*

(Пераклад Я. Семяжона)

Вялікі Нёман аб'ядноўвае двух паэтаў: А.Міцкевіч і Я.Колас нарадзіліся на Нёмане, першы — на Навагрудскай зямлі, другі — на Стаўбцоўскай.

Творчасць А.Міцкевіча зрабіла вялікі ўплыў на развіццё беларускай літаратуры, у тым ліку і на Я.Коласа. Так, паэма Я.Коласа "Новая зямля" блізкая да "Пана Тадэвуша". Вялікі наш пясняр заўсёды з павагай адносіўся да А.Міцкевіча. На вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня яго смерці, Якуб Колас гаварыў: "Адам Міцкевіч — наш добры спадарожнік у новым часе. Бяздомнае вандроўніцтва яго скончана. Як слаўны сын народа, жыве ён у сваёй радзіме, разам з ёю ідзе ён у новы свет і будзе доўгія вякі спадарожнічаць наступным пакаленням".

Святлана СУБАТ

## Валянцін Блакіт — у землякоў

Нядаўна жыхары вёскі Дэмбрава Шчучынскага раёна ўрачыста сустракалі свайго земляка — вядомага беларускага пісьменніка Валянціна Блакіта. Творчую сустрэчу ладзіў тутэйшы аддзел культуры. Шмат было выказана добрых і шчырых слоў у адрас празаіка, якому споўнілася нядаўна 60 гадоў. Гучалі ў гэты дзень музыка, песні мясцовых мастацкіх калектываў, у чарговы раз услаўлялася неўміручасць беларускай мовы, літаратуры.

## Конкурс прафесійнага майстэрства

У Гродзенскай вобласці праходзіць конкурс прафесійнага майстэрства дырэктараў раённых дамоў культуры і метадычных цэнтраў. Мэта мерапрыемства самая практычная: удасканальванне работы названых устаноў, стымуляванне прафесійнай дзейнасці іх кіраўнікоў, павышэнне прэстыжу прафесіі, проста магчымасць выявіцца, самарэалізавацца. На першым этапе конкурсу аналізаваўся ўдзел кожнага з дырэктараў у падрыхтоўцы і правядзенні Рэспубліканскага фестывалю "Беларусь — мая песня". На другім таксама бярэцца пад увагу творчая актыўнасць: выступленні на семінарах, публікацыі ў перыядычным друку, каштоўнасць метадычных захадаў. На трэцім этапе конкурсу будуць вызначаны канчатковыя пераможцы: аўтары лепшых тэарэтычных распрацовак "Клуб-мадэль XXI стагоддзя".

Людміла ЛЕБЕДЗЬ
г. Гродна.

## Спектаклі зорак аперэты

Маскоўскі дзяржаўны акадэмічны тэатр аперэты даў у Гомелі два спектаклі "Лятучая мыш" Штрауса і "Вясёлая ўдава" Легара. У галоўных ролях выступілі зоркі сусветнай эстрады, народныя артысты Расіі Святлана Варгузава і Юрый Ведзянёў. У спектаклях бралі ўдзел і іншыя вядомыя спевакі, народныя і заслужаныя артысты Расіі.

А. ШНЫПАРКОЎ

ПАЭЗІЯ

Таіса БОНДАР



# Усе мы — пасланнікі Неба...

•

*Стрыжань часу, раз'едзены ржой,*
*Ледзьве рухае гмах Усясвету.*
*На сыходзе — дажджлівае лета,*
*І хто ведае, што — за мяжой!*

*Зноў дажджы? Зноў паводкі навінаў,*
*За якімі — разруха і смерць?*
*Цвердзь Зямлі —*
*не надзейная цвердзь,*
*Калі верыць зямным прыпамінам.*

*І хто ведае, што — за мяжой*
*Прычаканага тысячагоддзя!*
*На дарожжах Прабыцця падыходзіць*
*Хлеб спадзеўкі, для многіх чужой.*

*Хай чужой,*
*тым не меней, патрэбнай...*
*Для людзей, для самое Зямлі*
*Пачынаецца новы адлік.*
*Стрыжань часу павернуты ў Неба.*

•

*Боская музыка сфераў,*
*Чутная нават праз шум,*
*Толькі й падтрымвае веру,*
*Толькі й ратуе душу.*

*Цішай яе называю,*
*Цішай бязмежных вышынь...*
*Ёю адзінай жывая*
*Памяць самотнай душы.*

*Стоміцца, сплачацца ў горы,*
*Ўгнецца пад ношкаю дня,*
*Позірк — і ўявяцца горы*
*Там, дзе плыла цішыня.*

*Там, дзе струменіць сінеча*
*З чыстых крыніц Небыцця.*
*Там, дзе гняздуецца Вечнасць —*
*Іншае явы дзіця.*

*Горы... Выявы памкненняў,*
*Чыстых, як чысты прастор*
*Цішай навеяных сненняў,*
*Сненнямі ўзрошчаных зор...*

*Высяў нябачнае срэбра,*
*Радасць, што зноў ажыла, —*
*Музыка! Музыка Неба!*
*Рух і гучанне Святла!*

## Спамін

*Прамяністую сетку прасторы*
*Размывае выява ракі,*
*Агаляючы стойбішчы зорак*
*Там, дзе толькі што слаўся блакіт.*

*І над імі, у срэбным мігценні,*
*У свячэнні наднебных вышынь,*
*Адбіваецца птах летуценняў —*
*Вольны птах несмяротнай душы.*

*Не адразу я веру пагляду*
*(Птах душы?*
*Мной адпушчаны птах?),*
*П'ю ж і п'ю благаслаўлёную радасць*
*Не прадбачачы — бачачы Шлях!*

*Кліч насустрач яму*
*бумерангам*
*Спалучае дзве явы ў адну:*
*І зямная й нябесная Ганга*
*Праз мяне ў недасяжнае мкнуць.*

*І як доўга змагу ўраўнаважваць*
*Нерухомасць пагляду і рух*
*Праз яго (праз мяне!)*
*ў Недасяжнасць,*
*Знае птах, знае вольны мой дух.*

*Да яго і гукаю праз ззянне*
*Пераўжытых у радасці дзён.*
*Нездарма ж у малітве-прызнанні*
*Чуцен горніх званоў перазвон!*

•

*Свет разліку не верыць паданням...*
*Не таму, дык другому карціць*
*На бліскучыя блёсны жаданняў*
*Чыстых сонечных дзён налавіць.*

*І дарэмна даводзіць, што зманам*
*Не прыдбаць ні святла, ні дабра,*
*Што жаданай "нябеснае манны"*
*Не наесціся з рук святара.*

*Святара, ці дзяржаўнага служкі*
*Пры рэгаліях новых паноў...*
*Скрозь і ўсё (да забытай "палушкі")*
*Разыграна і ўлічана зноў.*

*Не таму, дык другому здаецца:*
*Лёс — аплачаны, і назаўжды...*
*Чуе сэрца, адно толькі сэрца,*
*Надыход, набліжэнне бяды.*

*Але хто яго слухае ў чадзе*
*Безвыходна-смяротнай гульбы!*
*Хто — пры ўласнасці,*
*хто — пры пасадзе,*
*Хто — пры тым, што ў сабе загубіў.*

*І дарэмна даводзіць, што Небу*
*Усё роўна, хто ў чым саграшыў,*
*Як не здолеў (хоць ведаў, што трэба)*
*Памагчы развінуцца душы.*

•

*Блісне бязважка-празрыстая сталь*
*Непадуладнага часу імгнення —*
*З сэрца, ўлюбёнага ў горнюю даль,*
*Полымя вырвецца белым зіхценнем.*

*І ў асляпляльна-густой белізне —*
*Праз белізну! —*
*невядомасць паўстане*
*Сколкам рэальнасці, бачнай у сне,*
*Сколкам ландшафту*
*на шляху вяртання.*

*Шлях — незнаёмы, знаёмая даль —*
*Дзесьці далей, за адным з паваротаў,*
*Што неабвержна*
*прадоўжыць спіраль*
*Новае прасторы, новага ўзлёту.*

*Дзе яна, белага ззяння мяжа?*
*Хто або што завалодае ёю?*
*Не патухае свячэнне Крыжа*
*Над здратаванай бязвер'ем Зямлёю.*

•

*Усе мы, пасланнікі Неба*
*На вогненна-цьмянай Зямлі,*
*Ускормлены лустачкай глебы*
*І працай, што ёй аддалі,*
*Адно для таго, каб аднойчы*
*Праз тысячы жыццяў зямных,*
*Засведчыць, што з чрэва Ночы*
*Народзіцца вогненны міг.*

*Ці вогненны Бог... Я не знаю.*
*Я знаю: замкнецца спіраль,*
*І прастрань, датуль незямная,*
*Адкрыецца сэрцу як даль,*
*Замкнёная ў кропцы пачатку*
*Наступных эонаў жыцця.*
*Загадка? Хутчэй ужо, згадка*
*З прапамяці, з прадпачуцця!*
*Усе мы — пасланнікі Неба,*
*І помнім пра тое ці не,*
*Без прагі духоўнага хлеба*
*І іншы — зямны — не ў цане.*
*Няхай не заўсёды пароўну*
*Ім нас надзяляе Гасподзь,*
*У кім бы ні ўмерла духоўнасць,*
*У прах рассыпаецца плоць.*

•

*Я сэрцам ведаю Таго,*
*Каго гукаю ў сне ці ў мары,*
*Прабіўшыся цераз агонь*
*Людской хлуснёй сатканай хмары.*

*Што хмара, як агарак сну*
*Захоўвае шчаслівы спамін*
*Пра сцежку ў вечную вясну,*
*Пра белы сад, пра сонца ў доме.*

*Пра сонца! Музыка святла,*
*Што закалыхвае сусветы,*
*Ім, сонцам, праз мяне цякла,*
*І хіба льга забыць пра гэта?*

*Не, не! Хай гэта прасты цуд*
*Любові, шчырае любові,*
*Прыму папрок, прыму асуд,*
*А музыка азвецца ў слове.*

*І як не тут, сярод снягоў,*
*То дзесьці ў высях небакраю*
*Я стрэчу — я знайду Таго,*
*Каго малітваю гукаю.*

•

*Малітоўныя словы...*
*Няўрымслівасць цуду*
*Дачынення да вечнага руху жыцця...*
*Я — і маці на Боскай Зямлі, і дзіця,*
*Я была ўжо, я сёння тут,*
*я яшчэ буду!*

*І так проста,*
*так радасна ўсё разумець,*
*Не хаваючы радасці гэтай*
*ад стрэчных:*
*Кожны можа, не знаючы*
*сцежак спрадвечных,*
*Азірнуцца, адпрэчыўшы*
*позіркам смерць.*

*Азірнуцца адно*
*каб прасторы ўсміхнуцца*
*І ў адбітку зваротную*
*ўсмешку знайсці:*
*Столькі сонца і ветра*
*ў празрыстым лісці!*
*Столькі сонца і музыкі*
*ў лёгкай мінуце!*

*Аддаю, раздаю свайго шчасця крышан*
*Тым, хто скрозь*
*не баяўся пагроз перуновых:*
*Хай гучаць, хай ляцяць*
*малітоўныя словы,*
*Без якіх не ўзляціць,*
*як калісьці, душа.*

•

*Калі ўсёй вогненнаю масай*
*Зямля прарве і сёмы круг,*
*Страла запыненага часу*
*Прадоўжыць свой няспынны рух.*

*І ўрэшце, трапіўшы у кропку*
*Бязмежжа сцятай пустаты,*
*Пачне разгойдваць нетаропка*
*Агонь*
*у мроіве густым.*

*Агонь Тварца — агонь стварэння,*
*Што пераплавіць жар у дух*
*І ў змроку горніх сутарэнняў*
*Пачне эону новы круг.*

*І дзе мы будзем (і ці будзем?),*
*Адзін Гасподзь спытае з нас.*
*Жывём, і ў гэтым простым цудзе —*
*І сэнс, і мэта, і адказ.*

ПРОЗА

# ЗНАК НА ДАЛОНІ

Марыя ВАЙЦЯШОНАК



АПАВЯДАННЕ

ЧУЛІ ВАДУ птушкі. Вунь вуткі лятуць да ракі, свойскімі птушкамі, нізка, таропка, бы толькі што выпушчаныя з рук. Некаторыя тут і зімуюць. Чайкі над самым рачным брывом. А я не чула раку, энергію ейных хваль, хаця таксама, як аказалася пазней, ляцела сюды вясной, да вады.

Новы дом, куды пераехала, якраз на самым беразе. Адкуль і куды цячэ рака, якая даўжыня, якая глыбіня? — хацелася распытацца ў суседзяў. Даўжыня? Трыццаць восем папугаяў! — адказвалі смеючыся. Па цяплу ўсплылі брыдоты, мутная вада калыхалася ў ночвах мураваных берагоў. Спыняла крокі, спыняла зрок, як атручанае мёртвае цела. Ну, вядома, гарлачыкі тут не цвітуць, але паглядзі, які дом, вельмі прэстыжны, тут і багацейшая крама, цэнтр горада, чыста як, паглядзі! — забаўлялі сябры самаробнымі цацкамі. Мне ж мусова патрэбен круг чыстай вады, як выдры ўсё роўна. Тая селіцца толькі каля крыніцы. Тады заходзілі з другога боку, маўляў, тут жыве вядомая балерына, казалі, як пра дзівосную птушку, што звіла побач з людзьмі сваё гняздо. Балерына?! Гэтаксама выслабаняешся ад звыклага, будзённага, калі раптоўна ўбачыш чорнага бацяна... Ён спалохана падымаўся з ляснога цеснага кустоўя, узлятаў цяжка, падхапіўшы вялікія крылы. Крылы сышліся ўверсе над галавой, бы аберуч прыхопленыя берагі дарагога, урачыстага адзення — ззяла сполахам чорнае бліскучае пер'е, аж зялёным заносіла. І знік. На момант амаль страх ад блізкасці, ад прыгажосці. А потым хутчэй бегчы на тое месца, адкуль ён узляцеў — павінна там нешта застацца, як пасля ўдару маланкі. Павінна быць нечым пазначана зямля, куды апускаюцца таямнічыя птушкі. А людзі?

Тады пакіньце мяне адну ў доме, каб анікога ў кватэры, мне трэба агледзецца, аббыцца. Восьмы паверх, зусім інакшы пласт паветра. Птушкі тут не спяваюць. Ужо недзе ў дарозе да нас берагавыя ластаўкі. А нехта ж загадаў спароць над аркамі дома іхнія леташнія гнёзды, маўляў, надта паскудзяць. Кажуць, ластаўкі напорыста будуюцца тут кожную вясну, можа, прымаючы дом за высокі бераг ракі.

Не, у мяне няма даверу да гэтага жытла.

Што табе ёсць, га? Ну як усё роўна падроблена! Ну, адкуль ты сама, бабка, прыехала? — каб хто запытаўся. Хіба можна параўнаць, успомніць?! — злаваліся сябры ў вочы.

Успомніць?! Карціць увесь час кінуць-рынуць усё і бегчы ў стары дом, бы там пакінуў уключаны прас. Выдаецца, што ў пакоях гарыць святло, праз ноч гарыць, праз дзень, а ты запаліў яго, як было, з вечара, выходзячы ненадоўга, наказаўшы дому чакаць. Аніяк не адчыніць дзверы ў пад'езд, падымаючыся па сходках памяці. Домакіраўнік ужо неяк быў сказаў: а ці не замураваць вам іх, закласці цэглай — і з канцом! Маўляў, надакучыла рамантаваць. Падумаць, што дзеці шкодзяць, гойдаюцца на дзвярах, але ў доме амаль адны старыя людзі. Стары дом на гары, вецер смехам зачэпіць — і дзверы ўжо на адным гапліку, якраз каб бяздомнаму сабаку ўскочыць, пераначаваць. Зверху, па лесвіцы, чапляючыся рукамі і нагамі, як па павуцінні, спускаецца насустрач бабця, ліфт зноў не працуе. Аніяк не размінуцца па пацёмках са Зміраўнай, яна ўжо даўно памерла.

— Дзеўка, рука баліць у цябе, чула? Вазьмі во змылак, я нябожчыка ў вёсцы абмывала, памый балючае месца і кладзіся спаць. Назаўтра і не ўспомніш, што табе былося...

Мову ў мяне адымае адразу. Але і бяру і нясу да сябе напроці ночы, а потым кукую давідна — поўная хата пуду. Вецце ліпы, высвечанае ліхтаром, лапае па сценах, шукаючы, хто тут яшчэ жывы, халодны змылак лядашчай гурбай у пакоі. І наогул, што скажа, тое і зробіш, калі чалавеку каля сотні гадоў. Сядзіць Змітраўна за сцяной, побач кватэры, як той сфінкс, каб што ў ёй парушылася векам, адно толькі цела лушчыцца шалупіннем. "Стыдаюся выходзіць на вуліцу... Людзі глядзя-я-яць, такіх старых у горадзе няма..." — жаліцца. Выскачыш з ванны на балкон распранутай павесіць бялізну, зловіць цябе чаплістым, амаль мужчынскім поглядам — і па плячах, і па грудзях. "Ты яшчэ такая маладая..." — скажа, дасць у руку на ўцеху поўную жменю, як семак, гадоў. "Што ў цябе гэтак зацвіло?" — убачыць кветку, і вуснамі, і рукой ківае, да сябе, каб бліжэй, каб злавіць і памацаць, як матыля. У пакоі ейным на канапе, на стале, на крэслах ахапкамі рознакляровая споднiяя бялізна — трусы з карункамі, станікі. Волька, ейная дачка, бярэ ў рукі то адно, то другое, разглядае і так, і напроці святла, не стыдаецца чужога чалавека, быццам гэта дзіцячае, прасуе далонямі, любуецца. Не жыла жаночым жыццём, не пацешылася ні адзежай, ні ежай, век у халодным складзе, у штанах-ватовіках, у куфайцы. Век сярод грузчыкаў, былых заключоннікаў, бамжоў, алкаголікаў. Нарэшце-такі пераапранецца ў лёгенькае, у святочнае — скарацілі яе як пенсіянерку, ну і няхай сабе... У снах Волька прыходзіць да мяне з кветкамі, што паклалі ёй у труну. Пераступіць парог і падае ніц, як было неаднойчы, калі вярталася з работы п'яная, не магла патрапіць ключом у свае дзверы. "Трэба кожнаму дагаджаць...", — скажа. Маўляў, таму наліе выпіць, гэтаму наліе, і сама накаштуецца. Некалі ўцёкшы з калгаса, пільнавалася сваёй работы розным строем, гарэла разам з мужыкамі. Нядаўна яшчэ быў укінуты ў маю паштовую скрынку квіток з атэлье на ейнае імя: "Платье шёлковое, 56 размер, в случае неявки заказ будет снят". Можа, адзінае пісьмо па-расейску да іх дасланае, і то не дайшло, бо пісалі маім суседзям звычайна з вёсак.

— Чакай, з табой не сыдуся! — крычыць нехта ў цемры знізу.

Ніна?! Хачу схаваць твар, стрымаць слёзы, і як у сне, не магу ад яе адвярнуцца — абы толькі каторае імя ўспомніў. Перавязаная па руках, па нагах конскай папругай, Ніна жыве паланянкай, нявольніцай. Абчапаўшыся вандзэлкамі, сумкамі, поўнымі гаворкі — а дзе што купіла, а што колькі каштуе, — звычайна затрымае напаўгадзіны, абы сустрэўся. Ніводнай сівой валасіны, і старасці ейнай не бачыш, пагдзеўшы ў вочы, юлёвыя, чыстыя, быццам і ўлетку і зімой прышпілены ў галаве букецік лясных братавак. І не дзеля прыгажосці. Гэтак бывае: укіне іх вецер дзе-небудзь у старым лесе і забудзецца. Ізноў Ніна жаліцца, мужык ейны напіўся, чапляўся сварыцца, істукан, кажа, гэты. Стары чалавек, нервовы, электрык, усё жыццё пад напружаннем — хачу неяк звесці нанет гаворку. А ён і малады, крычыць, такі істукан быў! Тады нашто за яго замуж ішла? Ага, адказвае, у інтэрнаце вясковыя дзеўкі да саракоўкі сядзяць і такога не маюць! І я даўно без пары, і Волька, і Змітраўна, і бабця Манька, і бабця Тася, каторая развялася, у каторай муж памёр. Усіх нас пераважыла Ніна, як на гушкалцы вясковай.

***Ой, лягу ж я, лягу, сама з сабою.***
***Белыя ручанькі пад галавою.***

Голас шапаткі, старэчы. Да нас гэта Змітраўна спявае, бы на Ніністым вяселлі. І не бітыя мы даўно, і каля дому не ганяныя. "А што мне, на такім істукане, поле араць у горадзе?!" — саскоквае з гушкалак Волька, нажыўшыся за міліцыянтам, той усё нагой дзверы адчыняў. І ўсе за ёй. Па тым разе, каб мы калі болей паспагадалі Ніне ў вочы. Па тым разе!

Ніколі быццам не званілі суседзі ў дзверы, яны і самі на замок не запіраліся, а тут званок. Стаяць Волька з Тасяй, сукенкі святочныя, туфлі на босую нагу, на грудзях па брошцы. Тася высока падымае над галавой міску студня, потым павольна схіляецца як не да зямлі: гонар сталу! гонар хаце! гонар гаспадыні! Прыйшлі віншаваць з днём нараджэння. Поўныя пакоі святла, люстрамі зіхацяць брошкі! Па беражках талеркі дробныя кветкі па галубовым, бы на ваду спушчаны вянок — дзявоцкая варажба. "Сядзець ці ісці?" — увесь век пытаецца ў сябе самой незамужняя баба.

***Белую розу ўважаю,***
***Красную розу люблю.***
***Жоўтую розу зрываю***
***І пад нагамі тапчу.***

Спявае бабця Тася. Гэта ўжо гарадскі раманс. Госпадзе, ну якая там ужо ружа, калі баба на восьмым дзесятку! Але калі хто і любіцца яшчэ ў нашым доме, то яна з дзядзькам Мішкам. Дзядзька намнога маладзейшы, прыхадзяга. Жонка па-мерла, чалавек вараўны, п'е без меры. "Ні я яму буду варыць, ні цепліць! Во, ты прыходзіш, Волька, Змітраўна, Ніна, і ён хай прыйдзе, пасядзіць, як усе, і пойдзе дамоў..." — так было напачатку. Цяпер дзядзька часцей унаначках. Трашчыць шкло ў вокнах, сварацца — бабця Тася цвічыць, ваюе за п'янкі. А ён з калення і з пакалення перабірае ўвесь ейны род за тое, што не хоча з ім распісвацца. "Мяне дзеці зненавідзелі з-за яго... Унук мой купальны надта мяне паважае, я яго малога купала, баба, кажа, дзяцей сваіх буду хрысціць, ты да нас прыходзь, хочаш у суботу, хочаш у нядзелю, а дзядзьку з сабой не бяры, прыйдзеш? Не, пэўна, не прыйду... Як не бачу — скучаю, а як убачу праз вакно — ідзець! — ну каб мне хто дапамог не пусціць у хату, на дух, здэцца, не пераношу! Каб даўжэй пабыў дзе-небудзь, усё б абвеяла, абмерла — і забылася б на яго... І сварымся, і лаемся, але ж ёсць інакшыя словы. Вось і жывём..." Хоць каму ў доме раскажа, не схаваецца ні з чым. Тася з тых жанчын, да якіх аніштo не прыкарэе, нішто іх не зблоціць. Выбрыдала ў замужжы ўсе топкія мясціны, і цяпер ідзе па самай каламуці. У найлепшай сукенцы, ніколі каб сплакаўшыся ці склюпіўшыся, ніколі каб панчоха змаршчкамі, шалік раблёны, рэдкі на галаве ледзь трымаецца, ускінуты дзеля прыліку і маразамі. Ваюе ў поўнай форме, трымае ў доме жаночую абарону: "Каб ведала, што мяне не засудзяць, забіла б каторага за водку! Вот гляджу тэлевізар... Як убачу дзеўку ці бабу распусную, аж сама сябе не люблю! І я ж жанчына! Няўжо б гэта і я за долары пайшла абы з кім гуляць?!" Муж Ніны быў неяк падкаціўся да яе, не трапіўшы па п'янцы ў свае дзверы. "Дай, чалавечак, пагляджу, чым ты гэтую работу рабіць будзеш. Расшпіліла кятурку, а там, як у дзіцяці — яйчыкі мале-е-нькія. Ужо спраканалася, калі мужчына з языка не спускае начное дзела, то ўжо, лічы, калека!". І каб яна хоць пасмяялася з таго, — прафесійна так зазначыла, як, не раўнуючы, у прытоне. Аніяк не магу злавіць, пазначыць словам ейную прывабнасць. Каля яе ўвесь час тая зманлівая таямнічая ціша, як у затоцы, куды ідуць на нераст рыбы, той прытулак на плячы, які шукае мужчына ўсё жыццё, адлучыўшыся ад маці.

На гэтым бы і скончыліся "палявыя даследаванні беларускага сексу", каб не бабця Манька: усё бачыць, усё чуе, анідайбожа! Наліў ёй нехта па злосці саляркі пад дзверы — яна і табе тую лужыну падгоніць. Навошта ты мне гэта зрабіла? А што, ты лепшая? — адкажа. І сваё благое падзеліць напалам, і тваё. Дапільнуецца і прачытае тваю запіску, што пакінуў у дзвярах госцю, адлучыўшыся на хвіліну, і складзе сваю байку. Яе не любяць у доме за язык, жыве асобна. Муж Ніны, ідучы да сябе, мае моду выцерці ногі аб ейны дыванок пад дзвярыма. З нашых ніхто ёй большай шкоды не робіць. "Каб я так гаварыла пра людзей, то і ў сваю хату зайсці стыдалася б, не тое што да суседзяў", — злуецца Тася. "Прыйшоў чалавек у хату, што ён сказаў? Нічога быццам і не сказаў! А ў мяне пасля яго палова красён адвалілася. Во, дзеўкі, языкі ёсць!" — дабавіць з даўнейшага Змітраўна.

Пераплятаецца суровая нітка з крамнай, гарадской, тчэцца мне сорак кашуль на наваселле.

І раптам даведваемся: бабця Манька выязджае. Куды? Да каго? Яе бура сагнала, страх, маўляў, людзей тутэйшых ужо баялася, перагаворваліся на пляцоўцы. Бачу, вынеслі ейныя рэчы. На снезе чорны жалезны ложак. Пруткі крыж-накрыж, як з голага галля — скінутае на зямлю гняздо птушкі. І яна сама выйшла, села, як не на высокі ягоны брыж, уся ў чорным. Поўны сквер чорнага варання. Гэты ложак, як дзіцячая твая калыска, даўно выкінутая на сметнік. А бабця Манька спала ў гэтай калысцы і цяпер...

— Не-не-не! Ты маладзейшая, ты не ведаеш: раней так не было, каб чалавек з сваёй хаты ўцякаў, як у вайну! Даўней так людзі паміж сабой не жылі! — выносіць усім нам прысуд Ніна.

І ніхто ёй не пярэчыць, і лягчэй робіцца на сэрцы ад ейнай адвагі ўзяць на сябе віну, і нас усіх зрабіць вінавайцамі перад Манькай.

І я ўжо пакую кнігі, рэчы, пакінула самае неабходнае і дзіўлюся сама сабе, што з гэтым найменшым можна век абысціся, як тая бабця Манька. Тася, бабця Тася, я ж пераязджаю на другую кватэру — паўтараю і паўтараю. Яна маўчыць, бы аніяк не магу дабудзіцца. Мы, пэўна, абедзве яшчэ чуем той грукат казённы, калі вывозілі, аслабанялі пасля Змітраўны і Волькі іхнюю кватэру, а хавалі іх, вядома, у вёсцы. Нават сабакі мае маўчалі. Трашчэла шкло, і замкі з дзвярэй вынялі. Спората гняздо. Выходжу на балкон, бачу — іхні адчынены сярод зімы і... выпускаю далоў з рук шкляны слоік з капустай. "Якая сённяка вея-я-я..." Змітраўна вярнулася, як было звычайна, зімаваць у горад?! "Дзеўкі, сніцца... сад, куры скапалі... А ў мяне ж са-а-ад дык сад! Грушы таўсты-ы-ыя, вялікія, во гэткія! І памерзлі... Чаму ж не, у горадзе весела, людзей поўна — анёльская жызня! А я сёння тут — заўтра ў інакшы кут — бадзіня!" Хоць ты на другі бок перавярніся, каб перабіць сон, — увесь час чую ейны голас.

Анёльская жызня... Нічога не куплена за адным разам. Калі гэта, то на тое ўжо не хапае грошай. Увесь час жывуць, выбачаючы на другую патрэбу, усё ўзамен набыта. Біблейскія людзі, адна жменя мукі і некалькі кропель алею. Па гэтым цяжкім часе бабці мае жылі быццам у змове: ага, багатымі мы ўжо не будзем, трэба жыць як набяжыць, нікому не зайздросцячы, ні з кога не спаганяючы. Выйшла была з нашага пад'езда багатая жанчына — у доме ўжо было скуплена некалькі кватэр пад офісы. Дарагая даха на ёй, шаўковая спадніца па пяты, стаіць, чакае таксоўку. Бабця Тася павольна так падышла да яе, сказала нешта, угледзеўшы нітку з-пад падала, і цішком, каб ніхто болей не заўважыў, адышлася. Жанчына падняла падол, як не зубамі адарвала брындзіну, агледзела сябе. Як перад люстэркам, прыгожа і непасрэдна. Бабця Тася стаяла наводдаль, задаволена перабірала вуснамі, пасвойску, шчодра любавалася чужым багаццем: хай, маўляў, на ўцеху ходзіць во тутака сярод нас з хатулямі. І каб ніводнай на ёй парушынкі!

І зноў на сходках лесвіцы ляжыць гваздзік з кароткім сцяблом, торгнешся, ледзь не наступіўшы ў цемры. Пэўна, той дзед з ніжняга паверха, даўно хварэе, ужо ён у лазню ездзіў з валіскай, і ў ванну — з валіскай. А ўчора быў выйшаў на пляцоўку, каго бачыў, з тым і развітаўся, моўчкі, бо няма пэўнага слова для такой хвіліны. Старыя выходзяць з гэтага дому на нягнуткіх нагах, з кіем у руцэ — па кветках. Шырока займаюць дарогу, адпіхнуўшы перад сабой на пляцоўцы абедзве палавінкі дзвярэй. Зноў на сметніку іхнія пажыткі: пашчапаная калодачка сячы мяса, абціснутая абручамі, драўляны крыжык — падстаўка для навагодняй ёлкі, жалезны ложак. Сядзіць, пэўна, на высокім брыжы да астатняга, скупа пільнуецца ўсяго гэтага чыясьці беражлівая душа. Асабістыя рэчы, а мне дык і ліпа пад маім акном, не тое што. Яшчэ нехта не дачакаўся, пакуль адрамантуюць дзверы ў пад'ездзе, пакуль уключаць лямпачку, не падмятуць сквер перад домам, дзе не ступіць нагой — усюды смецце, друз разбітых бутэлек. Пойдзем на вуліцу, пагуляем, — запросіць хто-небудзь з сяброўак. Ніколі не магла выслабаніць свае рукі ад чужой работы, бы гэта ў маёй хаце ляда стаіць — не пераступіць, — якія тут гулі на шуметніку? Карцела закасаць рукавы — век сярод чужых недаробкаў у гэтым горадзе. Усе вуліцы твае, як казаў паэт, — адзін вялікі тупік. Паеду на гатовае! На гэтай ускраіне горада не бачым, а там тэатры, выставы, нарэшце, чыста — цэнтр. І Свіслач пад самымі вокнамі.

(Працяг на стар. 12)





## З "незалежных вандровак"



**На пытанне тэлевядучага пра эпоху, у якой Віктар Капыцько хацеў бы жыць, якая для яго бліжэй па духу, кампазітар... усміхнуўся. Бо, нягледзячы на тое, што фізічнае цела абавязвае чалавека замацоўвацца ў пэўнай жыццёвай прасторы і ў часе, ён як творца хацеў бы "мігрыраваць з эпохі ў эпоху".**

**Яго жаданне спраўджваецца: незалежны дух вандруе ў часе і ў прасторы, здабываючы ў гэтых вандроўках спажыву для кампазітара — эмацыйную, інтэлектуальную, прафесійную. Ці не таму яго надзвычай цікава было слухаць падчас прыгаданага ток-шоу "Сёння з вамі..."?**

**Дарэчы, тая вядомая тэлепраграма, выдадзеная ў эфір за трое сутак да аўтарскай вечарыны В. Капыцько, сталася змястоўнай прэамбулай і рэкламай. Каго б не зацікавілі духоўныя стасункі з творцам, чыя музыка гучала ў Германіі, ЗША, Летуве, Венгрыі, Польшчы, Расіі, Грэцыі, а ў роднай Беларусі — радзей, чым хацелася б? З творцам, які піша для тэатра, кіно і проста для выканання ў канцэртнай зале. З творцам, які аднойчы, засумаваўшы на пасяджэнні кампазітарскага з'езда, данамстратыўна паклаў на трыбуну свой членскі білет і выйшаў з Саюза кампазітараў. З творцам, якога перастае засмучаць праблема публічнага выканання ўласнай музыкі, калі ён згадвае пра тры апошнія сімфоніі Моцарта: пры жыцці аўтара яны так і не былі выкананы, бо не ўдалося сабраць грошы на правядзенне канцэрта...**

**Чарговы аўтарскі канцэрт Віктара Капыцько, дзякуй Богу, адбыўся. Спавядаючы прынцып І. Стравінскага: лепшы каментарый да музычнага твора — новы музычны твор, кампазітар спалучыў "добра забытае старое" са сваіх опусаў і прэм'еры. Спіс назваў атрымаўся немалы.**

**У зале, што на Залатой Горцы, сабралася пераважна дасведчаная публіка. Былі й тыя, што ўваходзілі ў мастацкі свет В. Капыцько ўпершыню. "Музыка ў яго такая... "загорнутая!" Але "загорнутая" ў той бок, у які трэба", — прызнаўся адзін з новых, будзем думаць, прыхільнікаў. Кампазітар, які не любіць статычныя структуры, аддае перавагу шматкроп'ю, шукае непадзяванасць ракурсу, — умее завабіць слухачоў набыткам свайго вандроўнага духу.**

**Можна лічыць спадарожнікамі яго незалежных вандровак усіх і ўсё, спрычыненае да канцэрта: старажытную кітайскую паэзію, цымбалы з кларнетам, дзіцячы спеў, "авангард" ударных, выканальніцкі чын самога аўтара, ансамбль у "Канцоне", вакальнае сола знанага хормайстра Ігара Мацюхова, публіку, якой не было сумна... А ў нейкім сэнсе — і здымак нашага фотакарэспандэнта, які спыніў імгненне вечарыны: Віктар Капыцько на сцэне, сярод выканаўцаў.**

**С. Б.**

*Фота К. ДРОБАВА*

## Юбілейныя выставы

**У 1938-ым рашэннем Саўнаркама Беларусі быў створаны рэспубліканскі Саюз мастакоў. Роўна праз дзесяць гадоў з'явілася першая абласная арганізацыя СМБ — Берасцейская. Не без гонару паведамляе пра гэта дырэктар Брэсцкага камбіната мастацтваў Аляксандр Грышчук:**

**— Да юбілейных святкаванняў у вялікай зале нашай галерэі адкрылася выстава, на якой прадстаўлена каля ста работ 35-ці берасцейскіх сяброў саюза. У жывапісных палотнах, графічных лістах дакладна адлюстраваны творчы, поўны плёну шлях нашых мастакоў. А ў малой зале — персанальная выстава заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Пятра Данеліі — ветэрана вайны, аднаго з арганізатараў Брэсцкага аддзялення Саюза мастакоў. Сярод 25-ці выстаўленых палотнаў — партрэты, жывапісныя работы, створаныя як адносна нядаўна, так і ў 50-ых гадах... Вялікую дапамогу ў арганізацыі выстаў аказаў нам мясцовы аблвыканкам.**

**Я. Р.**

***Саюзу мастакоў Беларусі споўнілася 60 год. "ЛіМ" ужо інфармаваў сваіх чытачоў, што адкрылася вялікая выстава да гэтай падзеі ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі і Музеі сучаснага мастацтва. А ў канцы лістапада адбудзецца чарговы, шаснаццаты, і адначасова юбілейны з'езд саюза. Напярэдадні гэтай падзеі наш карэспандэнт гутарыць са старшынёй Саюза мастакоў Беларусі Генадзем БУРАЛКІНЫМ.***

# Генадзь БУРАЛКІН: "Саюз жыве надзеяй..."

**— Генадзь Васільевіч, напачатку — вось пра што: хто пераважае ў вашай душы: скульптар, графік альбо, выбачайце, адміністратар мастацтва?**

— Хочацца думаць, што я не толькі адміністратар. Але так ужо выпала, што трапіў я на гэту пасаду ў складаны час. І не адмовішся, мусіш цягнуць воз, у які запрогся. Але стараюся не забывацца, што я яшчэ і мастак. Вось, скажам, толькі ў гэтым годзе я выканаў для нашай нацыянальнай секцыі на міжнароднай выставе ў Лісабоне "Экспо-98", дзе ўпершыню Беларусь прымала ўдзел як самастойная дзяржава, рэльеф у дрэве (45 квадратных метраў). Праект і рэалізацыю экспазіцыі зрабіла студыя "Куб" Саюза мастакоў. Кіраўнік і аўтар праекта Сяргей Кузьмічоў. Да 40-годдзя горада Салігорска выканаў фантан са сталі і каляровага шкла, які зараз працуе на плошчы перад ПО "Беларуськалій". Акрамя гэтага, толькі за два гады прайшлі мае выставы: у Маскве ў ЦДХ сумесна з У. Тоўсцікам, персанальная выстава ў галерэі "Мастацтва" ў Мінску, а таксама ў Брэсце, Гродне, Салігорску, а зараз, сумесна з У. Слабодчыкавым і Г. Гаравой, адкрылася выстава ў Полацку. Значыцца, займаюся я не толькі саюзаўскай гаспадаркаю, хаця яна вялікая і патрабуе высілкаў і часу.

Праблема ў тым, што мы не маглі дазволіць сабе аплачваць спецыялістаў гэтай самай гаспадаркі. Толькі сёння мы сяк-так стабілізавалі фінансавую сітуацыю, хоць і дагэтуль, ужо амаль паўгода, няма намесніка па эканоміцы. А гаспадарка — вялікая; восем мастацкіх камбінатаў, восем галерэй, некалькі выставачных залаў. І паўсюль — праблемы.

Круцімся, як можам, стараемся на ўрадавым узроўні вырашыць найбольш вострыя пытанні, напрыклад, аплату майстэрань па стаўках жылля, па коштах, якія можна назваць прымальнымі.

**— Генадзь Васільевіч, памятаеце, падчас сустрэчы з прадстаўнікамі Саюза пісьменнікаў Прэзідэнт заверыў, што кошты на майстэрні падымацца на будуць. Але самі мастакі жывуць як на вуголлі. Адзін мой знаёмы, вядомы на Беларусі мастак, трывожыцца, што тады яму застанецца "гнаць" работы на Захад, каб зарабіць на майстэрню...**

— Больш за тое! Быў указ Прэзідэнта аб упарадкаванні арэнднай платы. Там вызначалася, што нежылая плошча да ста квадратных метраў — плата адзін долар за квадратны метр, а звыш — дзесяць. Майстэрні ж, звычайна, займаюць ладнаватыя памяшканні. Але ўказ Прэзідэнта прадстаўляе правы Рэспубліканскай камісіі па іх устанаўліваць асобным катэгорыям арандатараў льготы. І нам на 1998 г. была дана льгота: арэнда майстэрань сёння ідзе па стаўках жылых памяшканняў, і гэта нармальна.

**— Толькі на год?..**

— Так, на год. Зараз зноў звярнуліся з аналагічнай просьбай... Менавіта таму ўсе мы, і Канфедэрацыя творчых саюзаў, і Саюз мастакоў, "прабіваем" закон аб творчых саюзах, дзе быў б цвёрда агаворваны абавязкі творчай асобы перад дзяржаваю і дзяржавы перад творчай асобаю. А на сённяшні дзень мы, на жаль, знаходзімся ў стане няпэўнасці. А што, калі адносіны дзяржаўных уладаў да саюза раптам зменяцца?

Яшчэ адна вострая праблема — падаткі, якія прадпрыемствы СМ мусяць плаціць у поўным аб'ёме. З 1940 па 1992 год Саюз мастакоў і ўсе яго прадпрыемствы былі вызвалены ад усіх збораў, пошлін і падаткаў. Мы нічога не плацілі ў бюджэт, але і з бюджэту нічога не атрымлівалі. Гарбачоў сваім указам прадоўжыў быў гэту льготу. Пасля распаду СССР беларускі парламент прыняў сваё рашэнне — усе льготы зняць. Праўда, пасля праз Канфедэрацыю творчых саюзаў, з дапамогаю Мікалая Яроменкі, дамагліся-такі ад парламента рашэння зняць падатак на прыбытак прадпрыемстваў саюза. Сёння пытанне паўстала зноў. Калі прадпрыемствы цалкам аплачваюць усе падаткі дзяржаве, то звыш іх саюз браць грошы не можа, таму што і самім прадпрыемствам трэба неяк жыць і развівацца. Таму мы і просім, каб нам знялі хаця б два віды падаткаў — на ПДК і прыбытак. Зразумейце, што ПДК павышае кошт прадукцыі (гэта на карысць дзяржаве, бо грошы ідуць адразу ў бюджэт, мінуючы саюз), у дадзеным выпадку кошт мастацкага твора, а гэта можа выклікаць адмову пакупніка. І тут узнікае іншая праблема. Мастакі прадаюць творы самі, мінуючы саюз. З аднаго боку — рабіць ім гэта выгадна. Але, выходзячы на пенсію, мастак звяртаецца ў саюз, і раптам аказваецца, што ў яго ўвогуле нідзе праз афіцыйныя структуры не праходзіць прададзеных работ. У выніку яго адносяць да катэгорыі надомнікаў і налічваюць мізэрную пенсію. На жаль, далёка не кожны мастак за жыццё можа зарабіць продажам сваіх работ на бязбедную старасць...

Таму нам вельмі неабходны закон аб творчых саюзах. Нам растлумачваюць, што нас, творчых аб'яднанняў, ледзьве не тры тысячы ў краіне. Але ж Саюз мастакоў — адно са старэйшых, існуе ўжо 60 гадоў. І падтрымлівала дзяржава саюз толькі ў крайніх выпадках. На Саюз мастакоў дзяржаўны бюджэт не распаўсюджваецца. Ды гэтак склалася, што ўся вытворчая база скульптуры, манументальнага мастацтва, тыражаванага жывапісу, мазаікі, роспісу сабрана ў нас. Калі саюз раптам страціць свае прадпрыемствы, ён проста знікне як структура. Іншыя саюзы не маюць такой вялікай матэрыяльнай базы. Таму мы просім Прэзідэнта замацаваць за намі прававое поле не на адзін год, а хаця б на пяць, і гэтым стабілізаваць сітуацыю.

Сёння ў маёмасць саюза ўваходзяць 240 майстэрняў з 500 па Мінску. Астатнія арандуем у горада. Саюз плаціць гораду своечасова. А мастакі плацяць за майстэрню саюзу праз месяц, а то і праз год. І выгнаць яго з майстэрні мы не можам. Саюз мусіць сацыяльна абараніць мастака.

Мне хацелася б, каб на з'ездзе былі прыняты нармальныя статутныя дакументы, каб была працягнута практыка, калі мастак можа выстаўляцца так, як яму хочацца, каб дзяржава зразумела, што мастацтва — гэта тавар, які можа даваць валюту. Вось нядаўна мы адправілі ў Лісабон скульптуру, жывапіс і графіку. Літаральна на ўсё былі прапановы набыць, прычым па неблагой цане. Але — гандлёвая палата аформіла выставу са зваротным увозам...

Толькі днямі быў прыняты праект палажэння аб парадку перамяшчэння культурных каштоўнасцей праз мытную мяжу, дзе прапаноўваецца дазволіць мастакам вывозіць свае работы ў неабмежаванай колькасці без падаткаў, як гэта даўно ўжо было ўведзена ў Расіі. Раней жа пры вывазе не аплачваліся толькі пяць аўтарскіх работ, астатнія абкладаліся звычайнай пошлінай.

**— На адной сустрэчы міністр культуры А. Сасноўскі выказаўся наконт саюза, што тут і ўвесь бруд, і ўсе згуртаванні прыпаслі да з'езда, замест таго каб вырашаць пытанні ў рабочым парадку...**

— Так, ёсць такая тэндэнцыя. Некаму хочацца набраць перад з'ездам паболей бруду, бо добрае рэдка ўспамінаецца на пасяджэннях, і выплюхнуць яго на старшыню саюза. Перадвыбарная кампанія заканчваецца і ўсе групоўкі плануюць сваіх кандыдатаў. Я магу пажадаць толькі аднаго, каб на з'ездзе розум перамог над эмоцыямі.

Але ж не пра гэта павінна ісці гаворка. Мяне хвалюе, што сёння адчувальныя спробы вяртання назад, зноў гучаць прапановы ўвесці нейкія абмежаванні. Так, выстава маладых многім не падабалася — маўляў, павыстаўлялі немаведама што. Разумею, у старэйшых свой жыццёвы вопыт, іншага накірунку творчасці яны могуць і не бачыць. Але ці можам мы сёння маладым забараніць працаваць, як ім хочацца? А пасля прымаць у саюз па прынцыпе, "наш" ты ці не?

**— А моладзь, выбачайце, просіцца ўступіць у саюз? Гэта таксама паказчык сённяшняй прэстыжнасці вашай арганізацыі?**

— Просіцца, і нечакана многа. Мы думаем на з'ездзе аднавіць маладзёжнае аб'яднанне, якое распалася колькі гадоў назад. Нам, напрыклад, цяжка далася маладзёжная выстава, Міністэрства прафінансавала яе не цалкам. Але мы пабачылі стан сённяшняга маладога мастацтва — выстаўляліся дыпломнікі, студэнты, маладыя выкладчыкі. І ўжо гэта — немалаважны вынік. Але выстава атрымалася, на мой погляд, бяззубая, і прычэсваць яе не трэба. Мажліва, з-за недастатковай інфармаванасці мастакоў. Калі зноў будзе працаваць маладзёжная секцыя, будзе і абарона моладзі, і магчымасць даваць папярэднюю інфармацыю.

Так што саюз прэстыжу не страціў. 150 выстаў у год (па рэспубліцы) саюз праводзіць за свае сродкі. На жаль, фонд Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі — з'ява адзінкавая. Хвалюе, напрыклад, што дасюль у нас не клапоцяцца пра выпускнікоў. Сёлета дайшло да парадокса: размяркоўвалі ў Саюз мастакоў... Хацелася б, каб дзяржава хоць трошачкі парупілася пра іх працаўладкаванне. Чаму, напрыклад, на ўвесь фасад шматпавярховага дома павінна вісець рэклама "Мальбара", а не мазаіка — работа маладога мастакак-манументаліста?

**— А Саюз мастакоў не здольны дапамагчы "залатым" рукам манументалістаў ці скульптараў знайсці працу?**



— Калі шчыра, то мы і не павінны мець такой мэты, мы — грамадская арганізацыя. Хаця, мне думаецца, з цягам часу мы, бадай,ператворымся ў сапраўдны прафсаюз мастакоў, куды будзе адлічвацца частка зарплаты, каб пасля мастакам выплачваць пенсіі.

**— Сёння вы валодаеце прадпрыемствамі. Але гэтыя прадпрыемствы былі створаны ў сацыялістычны час, яны працавалі на ідэалогію, і былі пастаянна загружаны. Нездарма ж мастацкія камбінаты называлі "кармушкамі" для мастакоў...**

— Так, заказаў было мноства. Кожнае прадпрыемства за сацыялістычным часам мела смету сацыяльных выдаткаў. Заказчык (прадпрыемства) умовы не дыктаваў, а атрымліваў гатовую мастацкую рэч праз цэлую сістэму распрадкамісій, мастацкіх саветаў. Работа магла быць і яўнай халтурай, але калі мастацкі савет прымаў, змяніць заказчык практычна нічога не мог. Ідэалогія вызначала палітыку ў мастацтве. Я не скажу, што гэта была самая благая ідэя. Як гаварыў Бембель, мастака ствараюць заказы. Не было б заказаў, Кішчанка не стварыў бы сваіх габеленаў, альбо Вашчанка — сваіх роспісаў. Заказчыкам была дзяржава і асноўнай была яе пазіцыя. Сёння ж палітыка іншая, і заказчык іншы. Сёння выбіраюць мастака.

**— Што ж сёння ўяўляе сабою мастацкі камбінат?**

— Камбінат і зараз — вытворчая база мастакоў. Ён працуе, таму што ёсць заказы ад дзяржаўных устаноў, ад прыватных асоб. Але, на мой погляд, больш перспектыўнай у сённяшніх умовах з'яўляецца сетка галерэй, дзе можна выконваць тыя ж заказы, прадаваць работы. Не кожны мастак здольны прадаць "сябе" сам. Таму вакол яго павінна існаваць кола менеджэраў мастацтва, дырэктараў галерэй, экспазіцыянераў выстаў. Пакуль што мы такога прафесійнага рынку мастацтва не маем. Не працуюць аўкцыёны, вузкая накіраванасць галерэй. Спецыялістаў ніхто не рыхтуе, і сёння галерэю ўзначальвае ў лепшым выпадку мастацтвазнаўца.

**— Некаторыя камерцыйныя ВНУ рыхтуюць такіх спецыялістаў, як менеджэры мастацтва. Але студэнты, я ведаю, пабойваюцца, што не здолеюць знайсці рэальнае прымяненне сваім ведам на нашым рынку працы.**

— Іх апасенні дарэмныя. Сёння, калі б у кожнай нашай галерэі (а іх толькі ў Мінску тры — БелАРТ пры саюзе, галерэя ў фае Палаца мастацтваў, галерэя "Мастацтва" ў Мастацкім салоне — і пяць па абласцях плюс восем выставачных залаў) з'явіўся такі спецыяліст, была б іншая сітуацыя з продажам работ. Нідзе на Захадзе няма практыкі правядзіць выставы, якія б не мелі і камерцыйнага характару. Але для гэтага яе трэба "раскруціць" мінімум за тры месяцы да пачатку. А

што мы? Адкрываем выставу, афішу вывешваем за дзень да адкрыцця, аб'ява ідзе падчас яе работы, і калі прыходзіць зацікаўлены ў пакупцы наведвальнік, ён мае ўсе шансы трапіць ужо на іншую экспазіцыю.

Яшчэ адно. На Захадзе продаж твораў ідзе паўсюдна праз камп'ютэр, мы ж толькі атрымалі пры дапамозе фірмы "Осмий" першы лазерны дыск "Сучаснае мастацтва Беларусі", дзе прадстаўлены 700 твораў мастакоў. Запрасіць спецыяліста-праграміста для нас — праблема ў першую чаргу грашовая. Акрамя гэтага, трэба злучыць усе галерэі Беларусі камп'ютэрнай сеткай, пасля выходзіць на Інтэрнет. А ці рэальна гэта зараз?

**— Ці замацаваў Саюз мастакоў сваё права на Рэспубліканскую мастацкую галерэю (былы Палац мастацтваў)? Хадзілі чуткі, што да яе прыглядаецца Упраўленне справамі Прэзідэнта, што галерэя можа трапіць пад яго ўладу, як адбылося з многімі будынкамі ў Мінску...**

— Была такая спроба. Была праверка, узначальваў яе В. Ф. Кучынскі, было пастаўлена пытанне, што гэта, маўляў, не наша ўласнасць, што мы незаконна яе эксплуатуем. Давялося дастаць дакументы 63-га года, рашэнне праўлення Саюза мастакоў СССР пабудаваць у Мінску і Ташкенце выставачныя залы часткова за кошт сродкаў саюза, часткова — за кошт сродкаў з рэспубліканскага бюджэту. Але па дакументах высветлілася, што Міністэрства фінансаў БССР адмовілася плаціць і па сутнасці ўсе сродкі ішлі праз Мастацкі фонд Беларусі. Толькі ў канцы была выдзелена невялікая сума для завяршэння будаўніцтва — як разавая дапамога. Таму Дзяржмаёмасць прызнала нашы правы. І акрамя — яшчэ на мінскі мастацкі камбінат, на 240 майстэрняў, скульптурны камбінат. Ідзе праверка на валоданне Барысаўскім камбінатам прыкладнога мастацтва. Нам складана ўтрымліваць такое вялікае прадпрыемства, для пераабсталявання неабходны немалыя ўкладанні. Урад абяцаў нам 8 мільярдаў рублёў, але пакуль грошай гэтых няма, таму даводзіцца выкручвацца сваімі сіламі.

**— Ці дае Рэспубліканская мастацкая галерэя хоць нейкую аддачу?**

— На сённяшні дзень яна сама сябе ўтрымлівае. Для гэтага яе плошчы здаюцца ў арэнду фірмам для правядзення выстаў-продажаў прамысловых тавараў. Само сабой, мы просім аб падтрымцы, але штораз атрымліваем адказы: падтрымка грамадскім арганізацыям не аказваецца. Адзіны выхад — вызваленне нас ад падаткаў, якіх сёння мы плацім больш за 10 мільярдаў. У бюджэце рэспублікі — гэта дробязь, але ж сродкі гэтыя маглі б зноў ісці ў сферу культуры. Існуе думка, што калі нам дадуць ільготы, прадпрыемствамі завалодаюць крымінальныя структуры. Але мы не выпускаем трактары ці бензін. Калі б хтосьці заняўся продажам карцін, мы б толькі былі ўдзячны. Гэта не такая простая справа — прадаць сёння твор мастацтва.

**— Ці мае сёння саюз магчымасць купляць работы мастакоў, як гэта было дзесятак гадоў таму?**

— Раней, калі ішлі адлічэнні праз мастацкія камбінаты, мы мелі такую магчымасць. Апошнія шэсць гадоў грошай на гэта няма. Калі ж яны раптам з'яўляюцца, мы стараемся найперш аказаць дапамогу мастакам.

**— У фондзе саюза сёння каля 11 тысяч работ. Але ён, як вядома, знаходзіцца ў крытычным стане.**

— Знаходзіцца і знаходзіўся, калі я прымаў саюз. Згадайце, колькі гадоў таму карціны стаялі па ўсім Палацы мастацтваў, нават у калідорах яны былі складзены штабялямі. Штодня прыходзілі пажарнікі, выпісвалі бясконцыя штрафы, зачынялі нас. Невялікае памяшканне для захоўвання работ дала па маёй просьбе політэхнічная акадэмія. Перадалі на часовае захаванне работы ў Гародню, Магілёў, Віцебск, іншыя гарады, многія працы пад так званае адказнае захаванне ў Ваенную акадэмію, Акадэмію кіравання, выканкам, дзіцячыя дашкольныя ўстановы, школы.

Стан захавання работ проста жахлівы. Палац не прыстасаваны для захавання, ён праектаваўся толькі як выставачная зала. Але ж і Саюз мастакоў, і Мастацкі фонд закуплялі работы. Яшчэ прэм'ер-міністр В. Ф. Кебіч абяцаў даць нам вайсковую казарму, пасля была дамова з былым міністрам абароны Л. С. Мальцавым наконт памяшкання былой казармы тапографаў на вуліцы Маякоўскага, няблага прыстасаванай для захавання паперы. Але дасюль праблема так і не вырашана. Невялікае сховішча ў палацы часта затапляецца вадою, некаторыя работы скульптуры і жывапісу моцна пашкоджаны і па сутнасці загінулі.

Дарэчы, цалкам магчыма, што ў нашай калекцыі захаваліся творы, якія не закупляліся афіцыйнымі структурамі. Спадзяёмся, што Міністэрства культуры парупіцца закупіць лепшыя творы ў Музей сучаснага мастацтва.

**— Такой структуры, як выстаўкам, зараз не існуе. Да кожнай выставы ствараецца аргкамітэт, які надзелены ўладаю адбору. Але чамусьці на вялікіх выставах так і хочацца прайсціся і "пачысціць" экспазіцыю.**

— "Цэнзура" мастацкага савета, выстаўкама, аргкамітэта прывучыла мастака перакладаць адказнасць са сваіх плеч. Ды часта і праз такія перашкоды трапляла многа слабых работ "сваіх людзей". У статуце саюза запісана, што кожны сябра мае права выставіцца, і хай будзе канкурэнцыя ўжо на "сцяне". І "цэнзарам" стане сам мастак, яго сумленне як творцы.

**— А хто займаецца непасрэдна экспазіцыяй? Ці не варта давяраць гэту справу мастацтвазнаўцам?**

— Я некалькі разоў ставіў на радзе такое пытанне. Сам мастак амбіцыйна можа дамагацца сваёй "сценкі", хоць яго работы не кладуцца на экспазіцыю выставы. Пакуль, на жаль, я не знайшоў падтрымкі. Аднойчы была спроба — экспазіцыю чарнобыльскай выставы рабіла Людміла Грамыка. Мне падаецца, што атрымалася проста цудоўна. А на "панараме", выставе да юбілею саюза, мы вырашылі: кожнаму мастаку прадаставім магчымасць выставіць па адной рабоце. Каб адчуць, як кажуць, скурай, што ўяўляе сабою наша сённяшняе мастацтва. Думаю, спраўджваюцца мае назіранні, што актыўна працуючых мастакоў у нас — чалавек 300-400, пра некаторых жа я нават не чуў.

**— Хачу запытаць пра крытэрыі сяброўства ў шэрагах саюза. Наколькі яны высокія? Ці членства ў саюзе — своеасаблівая пажыццёвая льгота?**

— Працэдуру прыняцця ў саюз мы даручылі секцыям, а рада рэдка адхіляе прапановы секцый. Асноўнае патрабаванне — удзел не менш як у пяці рэспубліканскіх выставах. Само сабою, мастакі — людзі эмацыянальныя, падчас не могуць адмовіць свайму сябру ці знаёмаму, а пасля здзіўляюцца, чаму гэта "наваспечаныя" творцы "знікаюць", зрабіўшы ўсяго дзве-тры работы. І ў статут трэба ўнесці палажэнне: майстэрні даваць працуючым мастакам, а не за выслугу гадоў.

**— Ёсць прапанова зрабіць у былой майстэрні Аляксандра Кішчанкі музей. Як вы думаеце, слушная прапанова?**

— Не ведаю. Калі вы памятаеце, мы некалі спрабавалі зрабіць музей Анікейчыка ў яго майстэрні. Але — ці так гэта проста? Музею патрабуецца ахова, асобны будынак, некалькі супрацоўнікаў. Калі музеем Кішчанкі зоймецца дзяржава, саюз будзе падтрымліваць. Толькі здаецца мне, лепш прапанаваць іншы варыянт. Ёсць майстэрня Заіра Азгура, якая належыць Міністэрству культуры. Адна зала ў ёй магла б быць аддадзена творам Кішчанкі. Гэтым вырашыўся б і лёс спадчыны Кішчанкі, бо хацелася б, каб дзяржава парупілася пакінуць яго славуты габелен стагоддзя на Беларусі. Калі саюз стварaў музей Бембеля, было вырашана зрабіць невялікую выставу яго работ і адкрыць дзеючую выставачную залу. Музей павінен "жыць".

**— Здаецца мне, нялёгкая доля ў старшыні Саюза мастакоў. Столькі розных праблем, у тым ліку гаспадарчых, ляжаць на вашых плячах.**

— Адну праблему, якую мог бы атрымаць Саюз мастакоў пры распадзе СССР, мы своечасова вырашылі: аб'ядналі рахункі саюза і мастацкага фонду. Да таго ж нам цалкам перадалі тое, што было на балансах рэспублікі.

Ужо стала рэальнасцю і Міжнародная канфедэрацыя творчых саюзаў, ладзяцца выставы.

**— Па водгуках гродзенскіх мастакоў, якія ведаюць вас яшчэ па тым часе, калі вы ўзначальвалі абласную секцыю саюза, вы чалавек смелых і хуткіх рашэнняў, не баіцеся пайсці супроць, любіце дамагацца таго, што задумалі. У Мінску на пасадзе старшыні СМ вы ўжо восем год. Вам не хочацца зрабіць якуюсьці "рэвалюцыю"?**

— Я за "ціхую" рэвалюцыю — за рэальную штодзённую працу. Калі я абараняю саюз, я абараняю сябе. Я ж не вечна буду сядзець на пасадзе старшыні. Можна многа гаварыць, але нешта трэба ў жыцці і рабіць. Можна хадзіць "плакацца", чым я і займаўся ў першыя гады работы. А пасля зразумеў, што чым больш просіш, тым менш даюць. Таму мы, напрыклад, стварылі СП "Белтэхпрам". СП займаецца вокнамі, вітражамі, разам з мастацкім камбінатам выконваем сумесныя заказы. У выніку саюз атрымаў за апошні год каля 700 мільёнаў рублёў дывідэндаў, СП цалкам утрымлівае музей Бембеля, аказвае нам матэрыяльную дапамогу на правядзенне розных мерапрыемстваў.

На жаль, сёння мастацтва неаддзельнае ад эканомікі. Не будуць нашы прадпрыемствы даваць прадукцыю — падпадуць пад закон аб банкруцтве. Не будзе прамысловай базы — не здолее выжыць і Саюз мастакоў. Толькі на правядзенне з'езда спатрэбіцца два мільярды рублёў. Добра, што дзяржава выдзеліла нам тры мільярды, частка з якіх пайшла на ўпарадкаванне залаў Нацыянальнай мастацкай галерэі, частка — на выданне энцыклапедычнага даведніка, дзе прадстаўлены ўсе мастакі ад 1938 года (усяго ўвайшло 1380 майстроў мастацтва, атрымалася ёмістая кніга). Але праблемы застаюцца, і трэба набірацца сіл і цярпення, каб іх вырашаць.

**Гутарыла Наталля ШАРАНГОВІЧ**

ФЕСТЫВАЛІ

# Лістапада асляпляльная сусаль...

І не зіма яшчэ, але ўжо нібыта і не зусім восень... Лістапад, няўстойлівы-няпэўны, робіць капрызлівай прыроду, а праз яе ўздзейнічае і на наш настрой. У такую часіну асабліва востра адчуваеш парадоксы свету: і навакольнага, і свайго, унутранага. Дрэвы ўжо даўно скінулі лісце, затое трава пранізліва зялёная; зямля марозам сцятая, затое сонца, як вызіркне, — слепіць па-маёваму. Вось і фестываль "Залаты шлягер", здаецца, найлепшым чынам прыдаўся да гэткага стану наваколля.



Паглядзіце, колькі ў ім парадаксальнага і нявызначанага! Чатыры гады яму, а сёйтой раптам пытаецца: якая тут галоўная мэта? А навошта пытацца: "фестываль" — значыць "свята". Хіба ў свята можа быць нейкая мэта? Пасвяткаваць, павесяліцца, павіншаваць, парадавацца...

Але той усё чапляецца: калі свята, дык чыё, для каго? Для людзей — але ж людзі розныя. Песень "для ўсіх" не бывае. І перш чым "пакрываць іх золатам", трэба вызначыцца...



Здавалася б, усё ўжо даўно і само сабою вызначана: "Залаты шлягер" асталяваўся ў нашым календары традыцыйных масавых імпрэзаў. Ім апякуецца дзяржава. Яму апладзіруе публіка. Ён замацоўвае свой статус міжнароднага. Сёлета нават ТБ не паспявала за ўсімі канцэртамі: яны праходзілі на розных пляцоўках Магілёва, вобласці, у Мінску, у Смаленску, Бранску. Размах і разнастайнасць!

А пытанні застаюцца. Фестываль-"рэтра"? Тады дзе строгі вытанчаны стыль, які адрасаваў бы выпадковага назіральніка да пэўнага перыяду ў гісторыі песеннага жанру, ці як тут сказаць? Фестываль-"настальгія"? Педант нагадае вам, што словам "настальгія" азначаюць тугу па радзіме. Але ж "Залаты шлягер" пакуль, дзякуй Богу, — не злёт шансанье-эмігрантаў (хаця прыязджаюць у Магілёў і такія) — кожны ўдзельнік урэшце прадстаўляе менавіта сваю радзіму. Дзіўна, чаму ж сяды-тады выплывае з фестывальнага шматгалосся лейтматыў тугі па СССР, па "вялікай дзяржаве, якой, на жаль, ужо няма"? Радзіма ж у кожнага — засталася! Радуйцеся і любіце яе, сваю радзіму, вечную, неўміручую. Не марнуйце жывое пачуццё на фантомны боль, аплакваючы грамадскую пабудову, дзяржаву, якая колькі гадоў як рассыпалася, сканала. Праз гэты боль няцяжка зблытаць песеннае свята з палітычнай акцыяй...

Мо сам дзядуля Фрэйд рызыкаваў бы патануць у парадоксах, шукаючы ў "цяжкім дзяцінстве" вытокі нематываваных учынкаў і выказванняў, ды ўжо ж розніцу паміж настальгіяй і некрафіліяй ён бы вызначыў адразу. Ну, вось, зноў жа: чым патлумачыць падзел шаноўных выканаўцаў на "чыстых" і "нячыстых" — чаму вылучылі ў асобную (прывілеяваную?) праграму спевакоў, якія маюць званне "народны артыст Савецкага Саюза"? Артысты, аднак, з годнасцю ўключылі ў свой магілёўскі рэпертуар не партыйныя гімны і камсамольскія шлягеры, а народныя песні сваёй Бацькаўшчыны, "старыя песні пра галоўнае" — у іх ліку і неапалітанскія, і сапраўдныя візітоўкі зорак амерыканскага джаза, і незабытыя светам "хіты" Элвіса Прэслі, Марылі Радовіч, Сальваторэ Адамо...

Сіндрому славянскай еднасці трох народаў не далі праявіцца надзвычай шырокія шматнацыянальныя абдымкі, якія засведчылі, што ўсе людзі — браты. Усіх прымалі горача і шчыра: Эдзіту П'еху, Нані Брэгвадзе, Наталлю Нурмухамедаву, Надзею Чапрагу, Розу Рымбаеву, Ксенію Георгіядзі, Лілі Іванаву, Мусліма Магамаева, Віктара Вуячыча, Мікалая Слічэнку, Юрыя Багацікава, Яраслава Еўдакімава, Мансура Ташматава, Анатоля Салаўяненку, Уладзіміра Макарава, кампазітараў Ігара Лучанка, Эдуарда Ханка, Юрыя Саульскага... У нас самая зычлівая ў свеце публіка! Тут нават Ілона Бранявіцкая магла пачувацца песеннай зоркай, у адрозненне ад свайго сцэнічнага партнёра, "проста вядучага" Ягора Хрусталёва.

У зале пераважалі "рэтра"-слухачы, наводзячы скептыкаў на сумную думку: за вокнамі — лістапад, у душах — восень, туга па мінулым, а нацыя неўпрыкмет старэе і выміpae, як тыя савецкія песні, а юных твораў на імпрэзах "Шлягера" не надта і многа, і моладзь па вялікім рахунку цікавіць нешта зусім іншае, калі ўвогуле цікавіць... Але, як заўважана, адпаведна надвор'ю можа змяніцца і настрой. Прагляне сонейка — і прэч скептыцызм: колькі радасных назіранняў!

Высакародная сівізна робіць маладжавым аблічча знакамітага "ўкраінскага салаўя" і вылучае яго сярод нафарбаваных эстрадных куміраў мінулага. Рыцарскі выклік надакучлівым "мінусоўкам" кідае жывы голас магамаеўскага раяля. Вышэйшы клас паказвае бэнд Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга. "Заводзіць" публіку мурманскі ансамбль традыцыйнага джаза. Узбекскія дзяўчаты замілоўваюць абноўленай беларускай "Александрынай". Ці — дзеці ў "дарослым" гала-канцэрце: гэта ж заўсёды бяспройгрышны рэжысёрскі трук! А землякі, мусіць, шчаслівыя ад адной думкі, што знаны кампазітар Аляксандр Колкер і ягоная жонка, спявачка Марыя Пахоменка стварылі-прысвяцілі песню роднаму для яе Краснаполлю! І наогул, чаму б не пазначыць сентыментальнай слязою прамінулыя гады? Чаму б проста не адчуць сябе звычайным чалавекам, якому дай толькі глянуць на самую-самую з "рэтра-зорак", каб потым абгаварыць яе канцэртныя строі, яе ўменне хаваць узрост, яе абаяльную таварыскасць, яе сямейства, дзелавіта спрычыненае да фестывалю...

Жыццё вымагае... жыцця. Існаванне "Залатога шлягера" немагчыма было б уявіць без так званай пераемнасці пакаленняў, рэалізаванай у конкурсе маладых выканаўцаў. "Новае віно ў старыя мяхі" — гэты сутнасны прынцып руху ў жыцці, у мастацтве, у модзе і даводзілі натхнёныя спаборнікі за лаўры "Залатога шлягера". Вылучыўся досыць спанатраны ў конкурсах і ўжо тытулаваны на эстрадзе югаслаўскі спявак Жэлька Яксімавіч: Гран-пры. Беларускія ўдзельнікі таксама дасталі колькі бліскучых лісточкаў з лаўровага вянка: абаяльная Ірына Дарафеева (між іншым, колішняя магілёўчанка) выйшла на першае месца, якое падзяліла з расіянкай Вольгай Сяргеевай, а экзатычны Аляксандр Звяровіч — на другое, у цеснай кампаніі з украінкай Лесяй Навіцкай ды ўзбекскім спеваком Саідам Яг'я.

Раздадзена сусальнае золата ўсмешак, прывітанняў, кампліментаў, сувеніраў. Прыбрана да наступнага фестывалю сусальнае золата бутафорскага кляновага лісця, што аздабляла сцэну. Рассеяліся ў восеньскім тумане рэдкасныя залацінкі вялізнага песеннага кангламерату. Госці раз'ехаліся, пацішэла. Мо толькі абывацелі не сунімаюцца ў сваім жаданні дазнацца, скуль жа ўзяўся той "залаты запас", якім сілкаваўся энергаёмісты калос "Шлягера", наколькі вялікі той запас і ці хопіць яго на чарговы фестываль.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: народны артыст Беларусі М.Фінберг; лаўрэат І прэміі І. Дарафеева.*

*Фота А. ПРУПАСА, А. ХІТРОВА*

## Цудоўная жанчына і актрыса

Дзесяткі цудоўна сыграных роляў на рахунку ў актрысы Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа — выпускніцы Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Валянціны Багданавай. На коласаўскай сцэне ў Віцебску яна выступае ўжо больш за два дзесяткі гадоў.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Натхнёныя рамансам

**Рамансы ў нас любяць і маладыя, і пажылыя. Цёплыя, шчырыя тэксты і адпаведная ім хвалюючая музыка кранае душу амаль кожнага. Дзіва што на вечары рамanса ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы быў аншлаг! Са сцэны гучала чароўная музыка Чайкоўскага, Барадзіна, Рахманінава, Аляб'ева, Шуберта, Шумана, Грыга, Дэбюсі, Равэля, Дэліба.**

**Арганізатар і акампаніятар гэтага канцэрта заслужаная артыстка Беларусі дыпламант міжнароднага конкурсу піяністка Ларыса Талкачова з вялікім густам склала праграму. Нягледзячы на тое, што гэта была не камерная зала, яе раяль гучаў мякка, пявуча, з тонкім адчуваннем ансамбля, з дакладнай нюансіроўкай — ад пранікнёнага піяна да моцнага яркага фортэ. Адчуваўся каласальны досвед канцэртмайстра — яна ж у свой час гастралявала па СССР з вядомымі опернымі спевакамі Святланай Данілюк, Людмілай Колас, Аскольдам Сухіным...**

**Гэтую праграму з 28 вакальных твораў Ларыса Талкачова рыхтавала з вялікай цікавасцю. У ансамблі з ёю выступілі вядомыя оперныя спевакі, таленавітая моладзь. Уладальніца прыгожага мецца-сапрана Марына Аксенцава спявала рамансы П. Чайкоўскага, С. Рахманінава. Сцэнічна эфектная Ганна Гур'ева ў творах С. Рахманінава і К. Дэбюсі паказала прыгожы, яркі голас, натхнёнае выкананне. Доўга не адпускала публіка Уладзіміра Пятрова. Многіх усхвалявала яго тонкае інтэлігентнае выкананне, мяккі выразны барытон у творах Р. Шумана, Ф. Шуберта. Уражваў прыгожы голас Ірэны Журко, але ў выкананні ёю рамансаў П. Чайкоўскага хацелася большай эмацыянальнасці. Варта адзначыць выступленні і нашага знанага Яраслава Пятрова, і чароўнай Вікторыі Курбацкай, і ўлюбёнца публікі, 23-гадовага студэнта Беларускай акадэміі музыкі Уладзіміра Мароза. Бліскуча выступіла Алена Шведава. Прынамсі, яе аляб'еўскі "Салавей" выдаваў такія трэлі, што не хацела ўзрушаная публіка адпускаць спявачку са сцэны. А яшчэ спявалі ў той вечар сталыя майстры оперы Міхаіл Жылюк, Віктар Стральчэня, Ніна Казлова. Канцэрт прайшоў з вялікім поспехам.**

**Вера КРОЗ**

## Лялечнікі сталі лаўрэатамі

**Як "ЛіМ" паведамляў ужо, з шостага па восьмага лістапада ў Гродне праходзіў рэспубліканскі фестываль творчай моладзі тэатраў драмы і лялек. Пасля шматлікіх праглядаў на працягу паўгода да ўдзелу ў гэтым фестывалі былі дапушчаны самыя прафесійныя калектывы. Сярод іх аказаўся і Магілёўскі абласны тэатр лялек. З фестывалю магілёўскія лялечнікі прыехалі не з пустымі рукамі. Лаўрэатам у намінацыі "За лепшую мужчынскую ролю" стаў Мікалай Сцешыч — Воўк у "Казцы аб трох парасятках". У намінацыі "Лепшая жаночая роля" ганаровы дыплом лаўрэата атрымала актрыса гэтага ж тэатра Таццяна Гелікова, якая выконвала ролю парасяткі Пігі.**

**Алесь ПЯТРОВІЧ**
*г. Магілёў*

# А над Крымам чыстае неба...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

— А я думала, што вы западэнцы.

Гэта значыць, з Заходняе Украіны. Або — сінонім слову "нацыяналісты". Насмяяўшыся, са свежых газет даведваемся, што ўкраінская партыя працы змяніла назоў на "партию труда", бо ейны асноўны электарат — ва ўсходніх рускамоўных рэгіёнах краіны. Як у нас...

●

Натуральна, што, знаходзячыся на украінскай тэрыторыі, мы не маглі не зацікавіцца ўласна ўкраінцамі. Тут адразу трэба падкрэсліць, што, нягледзячы на інтэрнацыянальны статус Крыма, знайсці ўкраінца працей простага. Пачуць мову Шаўчэнкі можна, і стоячы ў чарзе па хлеб, і лежачы на пляжы. Часцей за ўсё — ад турыстаў. Менавіта пляж і стаў месцам сустрэчы з прывабнымі дзяўчатамі з Крэменчуга. Невядома з якое прычыны прыгажуням раптам захацелася пагаварыць пра палітыку, але факт застаецца фактам: яны распавялі пра жыццё ўласнай краіны і доўга распытвалі аб жыцці нашай. Хоць мовай нашых "міжнацыянальных зносінаў" была абрана руская, дзяўчаты ўвесь час ўстаўлялі ўкраінскія словазлучэнні. Гэта здаралася, як яны казалі, з тае прычыны, што "великий и могучий" ужываецца на Украіне з кожным годам усё меней і меней і міжволі прызвычайваешся да мовы сваёй. Гэта адчуванне свайго ў іх ужо ў падсвядомасці. Трэба было бачыць, з якім захапленнем, перапыняючы адна адну, дзяўчаты расказвалі беларусу сэнс герба "Трызубец". Такую колькасць інфармацыі, даведзеную такім чынам, беларус адразу ўспрыняць не здолеў, а таму зараз можна сказаць толькі тое, што гэта стылізаваны надпіс "воля", які ячшчэ ў старажытнасці пісалі на скалах, але з тых часоў ён не вельмі змяніўся. Па словах хахлушкі Вольгі, за "сем років самасційнасці" свядомасць большасці ўкраінцаў істотна змянілася. Людзі не жадаюць вяртацца ў імперыю. Больш за тое, ужо мала хто задумваецца аб магчымасці вяртання былых часоў. І гэта пры тым, што дзяржаўнае тэлебачанне пазбаўлена нацыяналістычнай (як і ўсякай іншай) прапаганды. Вялікую ролю, як бы банальна гэта ні прагучала, мае адраджэнне сапраўднай украінскай гісторыі ну і, вядома ж, мовы. Апошняя ўжываецца не толькі ў справаводстве афіцыйных органаў, у ВНУ, але і ў дзіцячых садках, адкуль пастулова выціскаецца руская. Мінулыя выбары ў Вярхоўную Раду былі адзначаны найвышэйшай актыўнасцю насельніцтва Украіны. Аднак, як падкрэслівала дзяўчына, палітычныя спрэчкі можна пачуць не толькі ў час перадвыбарчай кампаніі. "Гэта звычайная справа для грамадзян нашай краіны", — лічыць яна.

— Чым ты патлумачыш такую палітызаванасць свайго народа?

— Гэта не палітызаванасць. Шмат каму ўсё, што звязана з палітыкай, наогул нецікава, але яны мусяць ведаць, што адбываецца, паколькі з'язджаць нікуды не збіраюцца...

Напэўна, Вольга крыху перабольшвала адданасць украінскай незалежнасці: ёй хацелася, каб на фоне беларускіх рэалій яе Радзіма выглядала прывабней. Што ж да "палітызаванасці", дык гэта праўда. На ўласныя вочы бачылі мы распісаныя платы з заклікамі прыйсці на выбары і галасаваць за таго ці за іншага кандыдата...

●

Першае, што адразу нагадае ў Крыме пра Беларусь, гэта, як ні дзіўна, музыка гурта "Ляпис-Трубецкой". Здаецца, усё зразумела: вясёлыя песні, у якіх прысутнічае курортная тэма. Акрамя таго, раскрутка беларускага калектыву расійскай студыяй "Союз" павінна была забяспечыць некаторую папулярнасць за межамі радзімы. Але каб та-акую! Дзе б вы ні знаходзіліся: у бары, салоне аўтамабіля ці яшчэ дзе — абавязкова пачуеце ў Мінску ўжо ўсім абрыдлае "Ау, ау, ау, я тебя все равно найду". Для параўнання можна ўзгадаць той факт, што такі вядомы ўкраінскі гурт, як "Вопли Видоплясова", за ўвесь час знаходжання ў Крыме мы пачулі толькі аднойчы, ды і то па радыё. Той, хто ведае рэпертуар гурта, можа лёгка здагадацца, што гэта была песня "Вэсна". Калі працягваць тэму музыкі, нельга абысці ўвагаю такую выдатную забаву, як караоке. Ледзь не кожны вечар адзін з аўтараў гэтых нататак праходзіў пехам 9 кіламетраў, што падзяляюць Шчабятоўку і Кактэбель, каб праспяваць у мікрафон некалькі песень. Паколькі "беларускі набор" там складаўся толькі з традыцыйных "Касіў Ясь канюшыну" ды "Вологды", прыйшлося ўносіць свае карэктывы ў тэксты, што падыходзілі для гэтага. Так, напрыклад, пабачыўшы аднойчы, як, замовіўшы ўсім вядомы хіт "Наутилуса" "Гудбай, Америка", незнаёмы хлопец заспяваў яе па-ўкраінску, адзін з нас тут жа далучыўся з беларускім перакладам. І паколькі пратэстаў гэта ні ў кога не выклікала, атрымаўся неблагі сюжэт для мясцовага тэлебачання (прысутнічаў аператар). Сапраўды, чым не "славянскае братэрства"?

Дарэчы, сустрэць тут беларуса даволі проста. Ледзь не кожная пажылая жанчына, што настойліва прапаноўвае адпачываючым гарачую пахлаву ці халоднае піва, назаве вас землякамі. Аднак не спадзявайцеся на скідку — беларус не беларус, а плаці як усе. Аднойчы, праспяваўшы ў караоке чарговую песню, наш студэнт крыкнуў у мікрафон "Жыве Беларусь!". І непадалёк пачуў адказ: "Жыве". І гэта не быў таварыш студэнта. Хто б мог падумаць! Хоць што тут здзіўляцца: яшчэ толькі прыехаўшы ў горад Феадосію, мы сустрэліся з агрэсіўнымі суайчыннікамі. А было гэта так. Затрымліваўся аўтобус, які павінен быў адвезці нас у інтэрнат. Каб прыцягнуць да сябе ўвагу, на галіну дрэва, пад якім хаваліся ад сонца, мы павесілі бел-чырвона-белы сцяг. Міма праходзілі міліцыянты, якія нават не глядзелі на нас. І раптам... нейкія кабеты з сумкамі:

— О бэнээфаўцы! Посели тут... И кто вас через границу-то пустил!

Праўда, сказана гэта было вельмі ціха...

Між іншым, менавіта ў Крыме давялося пабачыць самы "цікавы" беларускі сцяг. Ён быў вялізнага памеру і быў бачны здалёк. І хоць відовішча сапраўды ўражвала (мора, сонца, горы, палатачны гарадок і нашае палотнішча), — не гэта прыцягвала ўвагу кожнага, хто сустракаўся з гэтым кавалачкам Беларусі. А гэта была ўсяго толькі чыясьці чырвоная майка, разарваная па швах і сшытая з двума кавалкамі прасціны. Нават чорная пячатка ў ражку не перашкаджала агульнаму ўспрыманню...

●

Пісаць пра Крым і не згадаць добрым словам марачныя віны калгаса "Кактэбель" немагчыма. Па-першае, іншых алкагольных напояў там амаль не было. Гарэлка на 90 працэнтаў — спіртавы сурагат, а піва не вылучаецца смакам. Па-другое, вельмі ж хочацца хоць згадаць назвы тых напояў, што ўжо адзначаны міжнароднымі прызамі і паэтычнымі радкамі. Вось "Партвейн чырвоны". Згодна з рэкламным праспектам, смак менавіта гэтага віна "отдать готов минувших дней тепло и свет". Вытрыманае ў дубовай бочцы і надзейна схаванае намі ад вачэй памежніка (мы ўсё ж прывезлі колькі пляшак!), яно зноў нагадала нам вясёлы дзень народзінаў камандзіра атрада ў перадапошні перад ад'ездам дзень.

***И все до последнего блика,***
***До блеска звезды сквозь туман,***
***Не меньше, чем грань сердолика,***
***Вмещает вино "Талисман"...***

Ах, гэта начная дарога да Кактэбеля! Ах, гэтая размова ля мора і столік-валун. Яшчэ глыточак і памяць ізноў вяртае цябе на дах інтэрната, дзе сяброўскім колам спявалі песні пра вайну і горы.

Ледзь цёплыя батарэі ў пакоі і сцюжа за вакном вымушаюць адкаркаваць "вино, в котором капля каждая поет". Вядома ж, гэта мускат "Кактэбель". Не, мы не пілі яго там, у Крыме, паколькі каштуе яно шмат. Толькі з атрыманнем заробку мы дазволілі сабе набыць яго ў фірменнай краме "дадому" і частуемся ім зараз.

Адзін улюбёны напой, які мы пілі там, гэта "Таўрыда". Гэта віно прадавалі там "на разліў", і мы прывезлі яго з сабою ў пляшках з-пад "колы". Яно зберагае ў сабе нашу памяць пра перайменаваную беларусамі гару і штодзённае "времяпровождение". Сустрэўшыся зноў тамсама, мы скажам "не" дарагім вінам і вып'ем таннай "Таўрыды". І нічога страшнага, што мясцовыя падшыванцы скажуць: "Зноў гэтыя алкаголікі прыехалі". Нам будзе што ўспомніць — і гэта галоўнае...

**Вадзім ДОЎНАР,**
**Кірыла ПАЗНЯК**

# ЗНАК НА ДАЛОНІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Бабця Тася, бабця Тася, я пераязджаю... Яна паварочваецца да мяне тварам, падымае рукі, лап-лап па паветры, бы па вадзе, на глыбокім месцы:

— Дзе ты ёсць? Я ж... аслепла... І святло ўжо не запальваю, нашто? Скора і я... дамоў...

Мы абедзве ў поцемках ад такой навіны. Ні страху, ні адчаю ў голасе. Дзядзька Міша, той самы, кажа, прыходзіць, а як жа, газ запаліць, чай паставіць. Дай табе вазон падарую, герань, чырвоную? — пытаецца. Вось гэтая будзе чырвоным цвісці! Вазонаў процьма, адно зялёнае лісце, як здагадваецца? Яшчэ тут кожная рэч на памяці, сама ідзе ў рукі гаспадыні, толькі нічога не перастаўляйце, не рушце, не заблытайце іхнюю сувязь! Няма, бядуе, масленіцы, чэшскае шкло, усім падабалася, пэўна, нехта з унукаў цішком забраў. Але ж яшчэ тут ніхто не памёр, каб пачынаць разбіраць, выносіць рэчы!

Яшчэ тут можна было б жыць, але паміраць... хоць наастатку спэўніць тое, патаемнае, прыроднае, што не адбылося — аслабаніцца ад усяго зманлівага, чужога — вярнуцца ў вёску. Смерць справядлівейшая за жыццё.

Парушылася, прарвала плаціну, узровень чыстай вады, рэчышча чыстай мовы мялее на вагах. У сляпой Тасінай цемры бабці мае пярэваратнямі: то старымі бабрыхамі няўцямна гацяць запруду, каб не высмагла днішча, то берагавымі ластаўкамі зноў уюць сваё гняздо на ўскраіне.

Хачу выйсці са старога дома на гары — і вяртаюся, але па што?

— Я сённяка ўсенька парабіла, пліту вычысціла, аж галубовая! І ляльцы сукенку памыла, — загарадзіла дарогу Ніна.

Стаю, цешуся з яе найчысцейшай уцехай, як з дзіцяці, бавімся разам. Хачу зачыніць за сабой дзверы, а яны лёгка плывуць ад мяне ўбок, на адным гапліку, ветраюць туды-сюды, аніяк не зладзіць.

— А я думаю сабе, і хто гэта мяне сёння пераседзеў у Тасі.., — смяецца Змітраўна, гойдаючыся на паламаных дзвярах дуронай дзяўчынкай.

Новы дом не хінуўся да мяне, увесь час сядзіш настроіўшыся, прыбраўшы ўсё чыста, быццам нехта зараз прыйдзе правяраць дакументы, як на мытні ўсё роўна,ператрасаць рэчы. Не чуваць, каб хто гаварыў на роднай мове, хай бы сабе хоць і "з жабай у роце". Быццам выехаў не з ускраіны, а з краіны. Хоць ты бяры і тэрмінова тэлефануй, як не раўнуючы, ваенным часам: цэнтр горада ўжо заняты чужынцамі. Хто гэтыя людзі, багата апранутыя, з іншамаркамі, можа, і паважаныя, і культурныя.

— Але не нашым габэлькам габляваныя... — бабця Змітраўна і тут ёсць.

Найдабрэйшы сфінкс, нічога благога не маючы да людзей, адкінула маіх суседзяў, перабраўшы, як з кастрой каторы. Ці, можа, я сама дакладаюся гэтак, пасачыўшы яе. Тэлефонны званок ці ўжо ў дзверы? Тэлефанавала з вёскі Таня, пляменніца з Пастаў, распытвала. Я завучана гаварыла ёй аб прэстыжнасці новага дома, аб цэнтры горада, дзе выставы і тэатры, аб шырокіх чыстых вуліцах з ліхтарамі. А яна: а ці прывыкла ж ты?! Як не чуючы мяне, — аб самым галоўным, аб тым, што прывязвае душу, не маючы аніякай знешняй фактуры. А мая ж ты родзінка! — хоць ты загаласі. І не сустракаемся, і не перапісваемся — як здагадалася? На момант адчула моц нашага роду, шчыльнасць, пэўней, — магутнасць, як у пушчавянскіх дрэў, якіх магчыма прарэдзіць толькі бурай, выпаліць каторае толькі маланкай. На маім галлі сядзяць таямнічыя совы, поўнямі высвечваючы цемру (Соўчынам называлася нашая сяліба). Павеяла гэткім палянскім ветрам, з усіх бакоў, спавівальным, бы стаіш увесь час на гары, на самым высокім месцы, і да цябе не даляцяць мітуслівыя, будзённыя гукі, чужая мова.

Данесліся званы з зарэчнай царквы ці касцёла. Хацелася спыніцца, павярнуцца на гукі тварам, бы нехта паклікаў цябе ўслед, назваў тваё імя. Сустрэчны вецер пакрыў раку рабізною, яна развярнулася на вачах, сама пайшла да мяне, мелкімі хвалямі, у мой бок, дробнымі крокамі.

Назаўтра яна вынесла да берага тапельніка. Яго выцягнулі, паклалі на каменны брыж, як на вясковы ўслон — бы ўжо памыўшы і прыбраўшы, чакалі машыну. І няўцямная трывога, невыразная віна, бы гэта табе, дзеля доказу, што мае шырыню і глыбіню, мае таямнічыя віры, русалак і вадзяных, рака наўмысна прынесла чалавека ў ахвяру.

Цяпер я бачыла раку лініяй свайго новага жыцця — усе ейныя выгіны, як на маёй далоні.

*Бацьку і сыну Адаму Ягоравічу і Максіму Багдановічам, Дзядам, а таксама маім дарагім землякам прысвячаю.*

**Аўтар**

*...гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь!*

**Янка Купала**

*Ніхто не пачуў:*
*яблык упаў дасвеццем —*
*ля Халопеніч,*
*на Беларусі.*
*Ніхто не пачуў —*
*ні травы,*
*ні вецер...*
*Ніхто.*
*А шар зямны*
*здрыгануўся...*

**Васіль Зуёнак**

Валеры ГРЫШАНОВІЧ

# Халопенічы

## ПАЭМА-СКАЗ



*ТАМ, дзе рачулка вірлівая Пена*
*выцякала калісьці з крынічнага*
*возера Хола,*
*дзе стаяла жывой сцяной*
*дрымучая пушча,*
*глуха шумеў сасновы бор*
*і з небам вёў няспешную размову,*
*дзе маркотны буркун Лясун*
*ірваў на сабе валасы*
*ад адчаю і суму*
*ў гушчары;*

*ТАМ, дзе майго дзяцінства калыска,*
*над якой карагоды сіняватых зорак*
*у цемным небе разгараліся*
*і месяц свяціў*
*залатым сярпом[1].*

*ТАМ, дзе змяіны Цар нарадзіўся*
*і збіраў на свае імяніны сяброў-звяроў*
*разам з палясоўшчыкам Тарасам*
*з Пуцявішча;*

*ТАМ, дзе знахар сцяліў для гасцей*
*белае палатно, каб залаты ражок,*
*што Цар ураніў, лепей*
*на палатне*
*зіхацеў*
*і ўказваў пуць між пушчы[2];*

*ТАМ, дзе Вадзянік*
*меў селішча з русалкамі,*
*ім срэбраныя косы*
*на беразе Сялявы*
*заплятаў,*
*плакаў нярэдка употай ў кошык,*
*бо жыў*
*не за кошт пенсіі, а — невада,*
*косы сялянскія на сенажацях*
*у Дубах,*
*у Дубраўцы,*
*у Старожышчах*
*адбіваў, напяваючы... "Кацюшу",*
*абліваўся потам, потым*
*заробак мізэрны*
*у карчме прапіваў,*
*заядаючы... сомам,*
*і даваў сам сабе на другі дзень*
*зарок абыходзіць карчму за вярсту,*
*якая гайдалася на сямі вятрах і ўводзіла*
*балацяніка ў грэх;*

*ТАМ, дзе грымелі грымоты і білі перуны*
*мацней за гарматы на Барадзінскім полі,*
*гнуліся долу таполі, з перапуду*
*твары бялелі ў тутэйшых*
*папа і ксяндза,*
*а ў пеўня*
*— званец;*

*ТАМ, дзе з форсам любіў весяліцца*
*суровы Ілля-прарок з богам Сонца*
*Хорсам напару,*
*дзе "у бубны дахаў вецер біў"[3],*
*дзе вылі ваўкі, енчыў віхор,*
*дзе пан Падвей падвываў,*
*а потым*
*спадцішканазіраў, як ходарам грудзі*
*хадзілі ў халопеніцкіх баб і маладзіц,*
*стрэхі і хаты трэсліся, як ў казцы,*
*па падвеявай указцы;*

*ТАМ, дзе пад ракітамі*
*рагатаў у начы рагач*
*і рогі губляў на бягу*
*сахаты ад страху;*

*карыстаўся гербам "Самсон",*
*заснаваў Дамініканскі кляштар*
*(за кошт фальваркаў*
*Еліяшоўка,*
*Магілёўка*
*і Мхерына), у якім*
*спалі моцным сном манахі*
*і манашкі, шаўковыя,*
*у абдымку, снілі салодкія сны*
*пра волата Самсона*
*і лагоднага Льва, пакуль мінскі епіскап*
*Мацвей Ліпскі*
*не навёў на кляштар павелічальнае шкло*
*па даносе пана Падвея і загадзе*
*яго Вялікасці за тое,*
*што да*
*Паўночнай Пальміры[4]*
*з халопеніцкага кляштара*
*даносіліся віск і піск,*
*уносячы фізгармонію ў пастраенне*
*кавалергардскіх палкоў*
*і таму яго В.-касць*
*загадала на Вялікдзень далучыць*
*халопеніцкі кляштар да...*
*вострава Пасхі за:*

а) адсутнасць на бачным месцы іконакарціны "Ленін думае пра Беларусь і... Гандурас адначасова",
чытаючы "Тараса на Парнасе";
б) слабае ззянне "лямпачкі Ільіча" пры вывучэнні біяграфій і будовы лбоў
Яблычкава,
Вольта
і Вальтэра;
в) гандаль айчыннай гарэлкай "Крышталь"
манахам і манашкам на разліў з-пад крыса
замест "Петровской"
на "Пятроўку" і "Распутин"
у "Піліпаўку" — усё гэта выцякае, чытач мой,
з адпаведнага акта,
падпісанага
мінскім епіскапам Мацвеем Ліпскім.
Для дапытлівых:
"Фонд менскага грамадзянскага губернатара, справа
N 4093а/";

*ТАМ, дзе вакол марцінавага кляштара*
*калісьці пад куванне шэрай зязюлі*
*сяліліся і будаваліся*
*ў стылі барока*
*(у двукоссі):*
*Аляхновічы,*
*Багдановічы,*
*Бандарэнкі,*
*Гапановічы,*
*Гласоўскія,*
*Кавалеўскія.., а разам з імі і мае Дзяды*
*рахманыя — Богданы і Баркоўскія, якія*
*ляжаць на могілках і ў курганах,*
*чые галасы я чую*
*на сенажацях,*
*у полі жытнёвым*
*сярод буйных каласоў*
*і пяшчотных васількоў:*
*ці былі яны ў мінулым жыцці*
*крутымі рыцарамі са львіным сэрцам,*
*якое вырваў у Льва волат Самсон,*
*ці хадзілі на Грунвальд,*
*пад харугвай за князем,*
*ці чысцілі... каняжыну разам*
*са стольнікамі*
*у... стойле раманавых.*

*ТАМ, дзе бывалы казак Грыц Плакса*
*здабываў у балоце лазу, а затым,*
*седзячы ў сядле,*
*пільнаваў русалак уначы;*

*ТАМ, дзе Нача абмывае Шчаўры,*
*а шчароўскія дзяўчаты-чараўніцы*
*аўтара "Пінскай шляхты"*
*шчырасцю сваёй*
*зачаравалі за чаркай,*
*і ён спазніўся на рэйс чартарны*
*брычкі да града Пінска,*
*бо заначаваў пры...*
*спадніцы*
*шчароўскай блудніцы,*
*якая збірала Вінцэнту*
*на расцяробе суніцы;*

*ТАМ, дзе стараста Навасельскі*
*шляхціц Марцін Халецкі, які*
*як продак рэжысёра Мікіты Міхалкова,*
*здольнага падкаваць вош*
*у белых пальчатках*
*за залаты грош і за пячатку з уласнай*
*выявай — не ў гэтым,*
*спадарства, сутнасць,*
*для мяне Дзяды, перш за ўсё, —*
*Людзі простыя і боскія ў апостальскай*
*Постаці;*

*ТАМ, дзе Тараса на Парнасе,*
*што праўда, то праўда, не ўсе*
*паны, гуллівыя, чыталі, бо*
*суткамі правілі баль,*
*э... тутэйшымі...*
*багамі,*
*шыкоўна балявалі, а з раніцы,*
*гаротныя, займаліся.. бягамі*
*з агарода на гарод, б... явалі,*
*зуброўку жавалі, аж праступаў жаўлак,*
*затое браткі-сяляне строга шанавалі*
*"Пятроўку".*
*"Спасаўку",*
*"Піліпаўку"*
*і абавязкова — "Вялікі пост";*

*ТАМ, дзе зямелька спрадвеку служыла*
*шнітка-маткай,*
*дзягіль-бацькам,*
*шчавель-дзядзькам.*
*крапіўкай-сястрыцай, як беглы і бедны*
*рыцар Айчыне, які ў Кракаве*
*заякарыўся, там*
*днюе і начуе.*
*не чуе, як*
*крыжанка ў начы*
*у родным куце хрыпла каркае*
*і цецярук уранку ў бары такуе;*

*ТАМ, дзе мае землякі*
*прайшлі праз вякі*
*ўсе кругі*
*дантавага пекла і раю зямнога,*
*не дужа баяліся чорта і чартоўкі,*
*якімі кішэла балота пад Чарэяй,*
*ад пуза смяяліся над буркунамі,*
*ускормленымі на бураках,*
*з асалодай*
*елі бручку, а болей*
*любілі чарніцы, як вядома,*
*багатыя на бор,*
*тытан і хром,*
*таму па жыцці не вельмі кульгалі,*
*перанаселеным "Тытанікам"*
*у разгар вяселля*
*не ішлі на дно*
*ніколі, дзеці нядолі,*
*хаця жыццё нядоўгае і вымяралася*
*ад пятроўкі-галадоўкі*
*да спасаўкі-ласаўкі,*
*а нярэдка*
*і замірала вясной*
*разам з першаю ластаўкай;*

*ТАМ, дзе бабуля Лявоніха*
*якой хоць бы што было ліха,*
*спявала галасней ад салаўя*
*на каляды,*
*на запусты,*
*на троіцу,*
*на Івана Купалу,*
*на зажынках і дажынках,*
*на радзінах і хрэсьбінах,*
*на вяселлях і на хаўтурах,*
*ва ўсякай іншай прыгодзе[5],*
*у тым ліку і некалі мяне*
*калыхаючы ў калысцы,*
*каб здань адагнаць*
*чорта лысага;*

*ТАМ, дзе бабуля руплівая мая*
*была першай на Замкавай вуліцы,*
*а мабыць, і сярод халопенцаў*
*у "Мяцеліцы",*
*у "Юрцы",*
*"Бычку",*
*танцавала і "Мельніка", і "Антошку",*
*і па частцы чаркі не дужа адставала*
*ад дзеда Лявона, кавалера Георгіеўскага,*
*сцвярджаюць краяведы, —*
*са старажытнага рыцарскага*
*роду і... конюха ў апошнім калене*
*дзякуючы "лямпачцы Ільіча", пры якой*
*Дзед не пажадаў аб'язджаць ноччу*
*заакіянскага "фардзона"*
*у мэтах захавання на Планеце Людзей —*
*азона і прадухілення ўтварэння дзірак*
*вакол Гарадзішча*
*і Халопеніч,*
*Як-ніяк Дзед Лявон насіў*
*прозвішча рыцарскае*
*І яму было не з рукі "фордыбачить",*
*г. зн.*
*казырыцца на польскі манер легіянерам*
*перад амерыканскім "фардзонам",*
*як у свой час*
*стаўропальскі трактарыст*
*Мішка Гарбачоў, які прапіў за... значок*
*лаўрэацкі роднае Стаўраполле, Чукотку*
*і палову Еўропы, кажуць палітолагі*
*разам з сяляўскім Балацянікам, —*
*на Мальце*
*за ліцэнзію для экспарта на Мальту*
*балотнага газа,*
*русалак*
*і рэдкай заразы,*
*прапілі, дарэчы,*
*разам з бацькоўскай сялібай*
*нобелеўскага лаўрэата, якую прыкупіў*
*шустры спявак*
*з "Ласкавага Мая" —*
*Андрэй Разін, калі лаўрэат спачыў*
*на лаўрах,*
*але мы, мой чытач, занадта далёка*
*ад'ехаліся ад Халопеніч;*

*ТАМ, дзе бабка Рузаля*
*разам з цёткай Марыляй*
*загаворвалі*
*Агонь і Ваду, узводзілі*
*лічбы аж у сёмую ступень*
*пераважна на Сёмуху,*
*у курнай хаце*
*курылі*
*праўду-казку сабе і ўнуку,*
*каб у яго, у цёплай хаце,*
*выраслі дужыя крылы,*
*дзякуючы якім*
*ён перасек*
*Беларусь і Расію,*
*парадніўся*
*З аўтарам "Маці" і "Кліма Самгіна",*
*сам пусціў на Свет*
*дзесяць сыноў, сярод якіх*
*гонарам Беларусі стала імя*
*Кніжніка Максіма, які*
*высока ўзняў на шчыт*
*коннікаў-вершнікаў*
*у бессмяротным*
*вершы,*
*што да гэтага часу*
*палохае нявернікаў*
*і кідае апошніх*
*з гракоў*
*саўковай гракоўні ў гарачку*
*і холад, нібыта ваўкоў*
*пры аблаве;*

*ТАМ, дзе героі 1863 года*
*па-ранейшаму ляжаць без крыжа,*
*сорамна сказаць, сярод...*
*смецця,*
*побач з... Вітольдам Сікорскім, прозвішча*
*якога, першага лётчыка і вынаходца,*
*шырока вядомае ў*
*Амерыцы,*
*Еўропе,*
*Расіі,*
*але толькі не на малой тужлівай радзіме,*
*дзе яно — чужое і забытае,*
*знаходзіцца*
*пад аховай... крумкача і асіны;*

*ТАМ, дзе над забытымі могілкамі,*
*у якіх пахаваныя апошнія з магікан,*
*моўчкі свеціць зорак грамада,*
*зорак, якія па боскім праве*
*увасабляюць сабой*
*Бессмяротнасць*
*і сведчаць пра нязгаснасць*
*няхай і шляхетнага,*
*але з каранямі*
*народнымі — роду ;*

*ТАМ, дзе часова спыніліся*
*Белыя Коні*
*на скрыжаванні раскрыстаных*
*з клубамі пылу дарог,*
*Побач з Лукам'ем,*
*дзе, паводле "Апокрыфа",*
*блукаў у поцемках*
*У Пасёмкавічах*
*Хрыстос*
*разам з Пятром і Юрыем,*
*спыніліся, каб вадзіцы жывой*
*са срэбранага рога*
*напіцца з увішных рук*
*спагадлівых і здагадлівых*
*маладзіц на маладзік,*
*каб перавесці дых*
*разам са стрэлкай*

(Працяг на стар. 14—15)

## Вячысты талент мастака



**У Рызе ў Доме журналістаў прайшла юбілейная выстава таленавітага беларускага мастака Вячкі Целеша. Скончыўшы Латвійскую акадэмію мастацтваў, В. Целеш працуе ў жывапісе, графіцы і экслібрысе. У жывапісе пераважаюць каларытныя пейзажы і нацюрморты, ёсць і выразныя партрэты гістарычных асоб Беларусі Кастуся Езавітава, Зоські Верас, а таксама бацькі мастака. Сярод экслібрысаў асабліва вылучаюцца экслібрысы Уладзіміра Караткевіча, Адама Мальдзіса, Уладзіміра Арлова. Уражваюць графічныя працы на тэму космасу, графічныя пейзажы і графічныя партрэты Алеся Белакоза, блізкіх творцу людзей...**

**Вячка Целеш з'яўляецца старшынёй аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар", кіруе дзіцячай мастацкай студыяй "Вясёлка". Ён неаднойчы ўдзельнічаў у рэспубліканскіх і замежных**



**выставах. Яго працы выстаўляліся і ў Даўгаўпілсе на Днях беларускай культуры.**

**На адкрыцці выставы нямала цёплых слоў у адрас юбіляра (яму споўнілася 60) сказалі Часовы Паверанаы ў справах Беларусі ў Латвіі Іван Сцепаненка, першы сакратар пасольства Аляксандр Царкоўскі, старшыня Асацыяцыі прадпрымальнікаў "Беларускі шлях" Валянціна Піскунова, прадпрымальнікі Іван Кабановіч і Васіль Зайцаў (гэтыя прадпрымальнікі разам з ТБМ "Прамень" з'яўляюцца спонсарамі выставы), старшыня фонду беларускай культуры ў Латвіі Алесь Карповіч, прафесар Латвійскай акадэміі навук Інга Апінэ, інспектар Міністэрства адукацыі Латвійскай Рэспублікі Беніта Сэрыня, мастацтвазнавец Марыс Бранціс, настаўнікі і вучні Рыжскай беларускай школы (В. Целеш — дырэктар гэтай школы), прадстаўнікі нацыянальных таварыстваў і іншыя. Сваё віншаванне з Мінска даслаў прафесар Адам Мальдзіс. Ад імя беларускага таварыства "Уздым" у г. Даўгаўпілсе і ад сябе асабіста знакамітага мастака павіншаваў аўтар гэтых радкоў і прачытаў прысвечаны віноўніку ўрачыстасці свой верш. У выкананні Сяргея Калеснікава (баян) і яго сына Аляксея Калеснікава (скрыпка) шчымліва прагучаў паланез Агінскага. Былая вучаніца Беларускай нядзельнай школы, зараз студэнтка Медыцынскай акадэміі Ілона Варатнікова выканала беларускія песні "Явар і каліна", "Нёман", "Мой родны кут". Група жанчын ансамбля "Надзея" хораша праспявала беларускія народныя песні "Ці свет ці світае" і "Цячэ вада ў ярок". Тут звінелі бакалы з шампанскім, гучалі тосты, і прыемна было бачыць, як пераклікаюцца сваёй шматколернасцю карціны мастака і падораныя яму букеты кветак.**

**С. ВАЛОДЗЬКА**

*г. Даўгаўпілс, Латвія*

ВАРУНКІ

# Арт-мартыралог

***Чаму Беларусь дазваляе сабе з такой лёгкасцю раскідвацца сваім інтэлектуальным багаццем? Чаму ў нас няма традыцыі захоўваць і зберагаць свой навуковы і культурны патэнцыял?.. Магчыма, мая размова з мастацтвазнаўцам, выкладчыкам і мастаком, чыё імя ўвайшло ў падрыхтаваны Саветам Еўропы міжнародны каталог "Сучаснае мастацтва Цэнтральнай і Усходняй Еўропы", Міхалам БАРАЗНОЮ хоць крыху прыадчыніць заслону над гэтай чыста беларускай "традыцыяй"? Яму і слова:***

— Беларусь — гэта своеасаблівая цэнтрыфуга, якая нараджае чалавека, сур'ёзную творчую асобу і адразу ж адвяргае яе, пакідаючы для сябе толькі крупінкі памяці аб ёй. І пасля гэтыя крупінкі беларускія навукоўцы намагаюцца неяк сабраць і з іх дапамогаю "вярнуць" мастака на радзіму. Ужо стагоддзямі гэта містычная зона пад назваю Беларусь не здраджвае сабе, нараджае творцаў, раскручвае і... "выкідвае".

Характэрны прыклад — мастак Ваньковіч. Большую частку свайго творчага жыцця ён правёў у Мінску, стварыў менавіта тут у 1828г. свой славуты партрэт Адама Міцкевіча і амаль усе іншыя свае карціны, але ж аказаўся пахаваны ў рэшце рэшт на могілках Сан-Северын у Парыжы. А карціны яго сёння ўпрыгожваюць лепшыя зборы Польшчы, Літвы, Францыі, Расіі (у свой час Ваньковіч лічыўся лепшым партрэтыстам Санкт-Пецярбурга). Аўтарства адзінай карціны, якая зараз знаходзіцца ў Мінску і, магчыма, належыць пэндзлю мастака, мастацтвазнаўцам яшчэ трэба даказаць. Такой жа нялюбай аказалася Беларусь і да творчай спадчыны Дамеля.

У XX стагоддзі гэта чыста беларуская з'ява цэнтрыфугі набыла такія жудасныя рысы, што можна сёння пералічаць дзесяткі імёнаў і прозвішчаў... Жыццё мастака Пэна скончылася трагічна — ён быў застрэлены пры нявысветленых абставінах у Віцебску. Яго карцін таксама амаль што не засталося і іх давялося ў свой час "вяртаць" на радзіму. Марк Шагал мусіў з'ехаць — станаўленне яго як мастака пашчасціла пабачыць Парыжу, можа, таму ён па-сапраўднаму не ўспрыняў ідэю сусветнай рэвалюцыі. Цікавым месцам быў у першыя паслярэвалюцыйныя часы Віцебск, родны горад Шагала. Яго мясцовае насельніцтва нават і не здагадвалася, на што ў горадзе былі сканцэнтраваны ў тыя галодныя гады самыя вялікія ў свеце запасы харчавання і зброі. Шагал ведаў, што Віцебск рыхтаваўся савецкай уладаю стаць фарпостам для інтэрвенцыі на Захад, каб разносіць там трацкісцкія ідэі сусветнай рэвалюцыі. А з мастакоў працэй за ўсё было фарміраваць брыгады, якія вобразна і яскрава прапагандавалі б палітычныя ідэі, тым больш імі вельмі лёгка было маніпуляваць з дапамогаю чырвоных трубадураў і звычайнага харчовага пайка. Тады ў Віцебск сцяклася аграмадная колькасць мастакоў. Быў створаны нават асобны Мастацка-практычны інстытут, якім кіравала Вера Ермалаева. Прыехалі Лісіцкі, Малевіч, Суэцін, Коган, Янка Гаўрыс, якія разгарнулі тут у 1919 г. каласальную дзейнасць. Яны здолелі ўжо ў 1920 г. стварыць другую ў Еўропе мастацкую камуну (першая была арганізавана годам раней у Германіі). Але хутка ідэі сусветнай рэвалюцыі пацярпелі крах і мастакі, здавалася б, былі забыты ўладамі. Сталіна захаплялі не ідэі сусветнага пажару, а пабудова "светлай будучыні" ў асобна ўзятай краіне. Ідэалогія футурызму ўжо супярэчыла ідэалогіі нараджаючагася сталінізму. Але прайшло не дужа часу, і пра віцебскіх трубадураў "згадалі" зноў (як згадалі і пра ленінскую гвардыю) — 18—19-гадовыя студэнты, зусім яшчэ дзеці, былі ператвораны савецкай крытыкай у монстраў ідэалогіі ворагаў і знішчаны, забыты. Знішчаны быў і унікальны, першы ў Еўропе, Віцебскі музей сучаснага мастацтва. Зніклі і мастакі, і іх работы...

Жахлівы, містычны рок спасціг і тых мастакоў, якія воляю лёсу аказаліся пазней на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Хто ў 70-я гады з заслужаных альбо народных мастакоў БССР мог штосьці распавесці пра асобу Язэпа Драздовіча? Літоўца Чурлёніса ведалі. А свайго Драздовіча, годнасць беларускага мастацтва — не. Інфармацыя пра яго лічылася закрытай. Як і ўвогуле інфармацыя пра мастакоў, якія не апявалі правадыроў, не выконвалі дзяржзаказы: мастак знікаў з інфармацыйнага поля і часта яшчэ пры жыцці аддаваўся забыццю. Такі лёс спасціг Сеўрука і Сергіевіча. Калі ж гаварыць пра пасляваенныя гады, то тады быў забыты нават Францішак Скарына. Сёння ўжо не верыцца, але аж да 1972 года пра Скарыну ведалі толькі асобныя навукоўцы, спецыялісты і знаўцы старадрукаванай кнігі, для шырокай грамадскасці беларускага першадрукара не існавала. А дзе сёння знаходзяцца кнігі Скарыны? Ды дзе заўгодна па свеце, а ў Мінску іх усяго толькі некалькі экземпляраў.Найбольш поўны знаходзіцца ў Віцебску, у тым самым міфалагізаваным горадзе Шагала і Малевіча, дзе няма ніводнай іх карціны.

Шкада, што гэтай тэмай — хто пакінуў Беларусь, якую спадчыну краіна згубіла — ніхто не займаецца. Гэта тэма для доктарскай дысертацыі. Тым больш, што праблема не мае заканчэння. Згадаем, для прыкладу, зусім нядаўняе — гісторыю мінскага андэрграўнда 70—80-х гадоў. Выставы гэтага мастацтва праводзіліся афіцыйна ў Кохтла-Ярве (Эстонія), у іншых прыбалтыйскіх рэспубліках. У Мінску выставы андэрграўнда абараняліся, і так здарылася, што фільм пра беларускі андэрграўнд здымала эстонскае тэлебачанне, а самі работы мінчан з міжнародных выстаў не вярнуліся. І сёння, каб мець поўнае ўяўленне пра мастацтва Беларусі таго перыяду, трэба наведваць Эстонію, Германію, Польшчу, Францыю, Нідэрланды і там звяртацца па дазвол паглядзець на работы нашых сучаснікаў Ігара Кашкурэвіча, Жданава, Русавай. Многія мінскія мастакі, што выйшлі з андэрграўнда, эміgравалі наогул і цяпер жывуць у Лондане, Парыжы, Берліне. А Забораў? З'ехаў мастак і нічога, акрамя друкаванай прадукцыі, пасля сябе не пакінуў. Амаль нічога не засталося з графікі пасля смерці Селешчука: яна зараз у Грэцыі, Італіі, паўсюль, акрамя Беларусі. І цяпер, пэўна, прыйдзецца скупляць у калекцыянераў яго студэнцкія работы, каб запоўніць ужо яўны прабел у гісторыі беларускага мастацтва...

Гэта проста цудоўна, што, дзякуючы культурнаму абмену ў часы Саюза, у нашым Дзяржаўным мастацкім музеі з'явіліся выдатныя работы Шышкіна, Урубеля, Айвазоўскага, Каровіна, але... музеем ніколі мэтанакіравана не збіраліся работы беларускіх мастакоў тых жа 20-х гадоў, зрэшты, як і андэрграўнда. Дзе цяпер лепшыя работы заснавальніка беларускага каларызму Філіповіча, таго ж Драздовіча, Мініна, Семашкевіча, расстралянага ў адзін дзень разам са сваім настаўнікам Дрэвіньшам? А што мы ведаем пра творчасць ужо згаданай раней Веры Ермалаевай, якая была яшчэ жывой выкінута на Саляны востраў, што на Каспіі, паміраць? А героі яе кніжных ілюстрацый сталі правобразамі мультгерояў амерыканца Дыснея. Згадайце творчасць Паўла Тычыны, ілюстрацыі якога былі адзначаны на міжнароднай кніжнай ярмарцы ў Лейпцыгу ў 1927 годзе? "Даваенны" і "пасляваенны" Тычына — цалкам розныя мастакі. Калі да вайны гэта быў адзін з лепшых еўрапейскіх ілюстратараў, то пасля вайны — гэта савецкі мастак, аўтар малюнкаў воінскіх парадаў на плошчы Леніна ў Мінску. А дзе працы Малкіна, Дваракоўскага, які стаў лідэрам ленінградскай школы графікі? А што ўжо казаць пра Ахола-Вало, які яшчэ і цяпер жыве ў Фінляндыі? Нічога ў нас не засталося ад першага мастака-авангардыста, заснавальніка Лодзінскага музея сучаснага мастацтва Уладзіслава Стрэмінскага.

# Халопенічы

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

*гадзінніка,*
*паслухаць "Вести"*

*ТУТ, на радзіме Адама, пад небам*
*хмарным і адначасова сонечным —*
*у Халопенічах, з верай*
*святой у тое,*
*што рана ці позна,*
*на Світанку Незалежнасці крохкай*
*адляцяць у вырай позняй восенню*
*дробныя птахі,*
*бо яна, Незалежнасць, не залежыць*
*ні ад Познера, ні ад Кісялёва,*
*ні ад тутэйшай тэлезоркі*
*У ролі вывродлівай*
*цэзара;*

*ТАМ, дзе ў засені Дуба-троіцы*
*колішніх уладароў Халопеніч,*
*бацькі і сына Храптовічаў,*
*у кампаніі ясеня і клёна,*
*адпачываюць*
*белыя коні,*
*вера жывая ў тое, што, нягледзячы на*
*шэрыя хмары, у якіх задаволеныя сабой,*
*"жывуць павукі"[6],*
*яна, Маці-Беларусь, не патушыць*
*у поцемках ніколі васковую*
*(не стэарынавую!) свечку,*
*беларусы, з каранямі*
*наймацнейшымі —*
*вясковымі,*
*не стануць патрыётамі стэрыльнымі*
*ні за долар,*
*ні за стэрлінг,*
*ні за...*
*трыццаць тры срэбранікі,*
*стоячы на платформе*
*Вялікага княства Літоўскага*
*ці вузкакалейкі карчагінскай*
*на фоне партрэта таварыша Сталіна*
*у фрэнчы з чатырма кішэнямі,*
*а тым больш — на калені*
*супраць волі —*
*нявольнікамі*
*ўласнага лёсу на вачах божых і сусвету;*

*ТАМ, дзе мора лукамскае*
*злучаецца з возерам Сялява*
*невялічкай рачулкай Югна,*
*дзе не маюць*
*значэння чуткі,*
*бо губляюцца ў лясах лісічанскіх,*
*за Белымі Баркамі, якія ледзь не назвалі*
*чырвонымі, у гонар перамогі*
*над Калчаком,*
*бачыў я ўласнымі вачыма:*
*на радзіме Адама плаваюць лебедзі —*
*таямнічыя нашчадкі Страціма —*
*надзея радзімічаў*
*І крывічоў незваротная,*
*блякнуць прад імі*
*Душапрыказчыкі Ільіча*
*і бледнатварыя Іўдушкі, паколькі*
*рана ці позна ўзнімуць угару*
*трыста тры пяры маладыя нашчадкі*
*Страціма*
*пад гром навальнічны,*
*песню пра Зубра ў пушчы і ў бары,*
*гром, які мацуе васковую спеласць*
*ураджайнага жыта, спрыяе пасляванню*
*чарэшні і вішні,*
*белага наліву,*
*лоўлі*
*залатапузага наліма*
*на Сляве і на Свізяці,*
*з хваляў якіх не сёння,*
*дык заўтра выйдуць на золаку*
*на бераг сіні не летуценнікі —*
*добра знаёмыя віцязі,*
*а з імі —*
*княжыцы і князёўны-кніжніцы, якія*
*вядуць радавод ад самой*
*Еўфрасінні,*
*глядзіш, і малады Вітаўт, які п'е з*
*асалодай*
*вадзічку "Дарыда",*
*яшчэ прысягне радзіме*
*на княжанне;*
*шар зямны, Васіль Васільевіч[7],*
*яшчэ не раз здрыганецца*
*пад Мінскам ці Вільняю*
*ад дзіцячага крыку*
*ў начы,*
*пападаюць звонка антонаўкі*
*ў садах ля Халопеніч,*
*альбо каля Лошніцы,*
*дзе начаваў калісьці*
*Вялікі Вітаўт,*
*каб чырвоныя чырвы*
*Іх на золаку болей не тачылі, як*
*засведчыў у свой час мой зямляк,*
*выдатны паэт і мастак —*
*Васіль Зуёнак з Мачулішчаў;*

*ТАМ, дзе рачулка вірлівая Пена*
*выцякала калісьці з крынічнага возера*
*Хола,*
*мне зазірнула ў дзяцінстве ў вочы*
*Маці, усіх засмучаных Радасць,*
*уся ў белым, як у казцы,*
*з васільковым выразам твару,*
*неапісальная і невыказная,*
*сінявокая Беларусь, якая,*
*памятаю, выходзіла са*
*Спаса-Успенскай царквы,*
*бальшавікамі яшчэ*
*не разбуранай ушчэнт*
*пасля абрада*
*велічальнага*
*як вянчальнага, выйшла, а наўкол —*
*паляўнічыя злыя сабакі, якія беглі*
*з аблавы на апошняга тура*
*з-пад Турава*
*і якіх на Яе цкавалі,*
*шчэрыліся плямістыя ганчакі,*
*намагаліся ўкусіць за*
*пятку, а потым*
*пагналіся і за мной, хлапчуком,*
*у самым цэнтры Халопеніч,*
*дзе ў маі помнік Адаму*
*ўрачыста адкрылі;*
*бачыў я ўвачавідкі, як буйныя слёзы*
*зямной Багародзіцы, Маці нашай —*
*Беларусі,*
*васількавае неба на світанку*
*засцілі над Халопенічамі,*

Самае жахлівае, што беларуская цэнтрыфуга на ўсю моц працуе і сёння. Шэлюта стварае вобраз расійскага тэлебачання, Кітаева распрацоўвае дызайн расійскіх грошай (дзякуючы, дарэчы, Андрэю і Лене НТВ атрымала прэмію "Тэфі"). Цэслер даўно ўжо працуе на Маскву. Баброў з Мартынычкам з'ехалі ў Англію, Дарашкевіч — у Канаду. Паўлоўскі не вярнуўся з экскурсіі ў Парыж. Уладзімір Цялкоў ужо застаўся ў гісторыі расійскага мастацтва як класік рускага андэрграўнда і нонканфармізму (кола Шэмякіна). Стала грамадзянкай Швецыі Людміла Кальмаева... Людзі, якія рэальна могуць рухаць беларускую культуру і мастацтва ўперад, пакідаюць краіну. Затое беларусы маюць магчымасць назіраць за бесперапынным працэсам стварэння чарговых мадонн прыдворным мадоннапісцам...

І не трэба спасылацца толькі на міжнародную практыку ў нас, маўляў, усё цудоўна: як і ў кожнай развітой краіне на культуру адводзіцца 2—3% валавога нацыянальнага даходу. 2,5% у Германіі не параўноўваюцца аніяк з 3% у Беларусі.

Беларусы — выдатная пластылінавая нацыя. І, ведаючы беларускую мову, беларускі мастак без праблем вывучае нямецкую і лёгка адаптуецца ў Германіі, хутка прыжываецца ў ЗША, Англіі, не гаворачы ўжо пра Расію. Магчыма, некалькі зменіць сітуацыю стварэнне ў Мінску Музея сучаснага мастацтва. Бо, да прыкладу, работы Валерыя Славука, нашага сучасніка, па словах Кібрыка, аднаго з лепшых графікаў Савецкага Саюза, можна сёння пабачыць толькі ў яго майстэрні, у зборы Пятра Людвіга ды ў выглядзе ілюстрацый у кніжным магазіне...

За апошнія дзесяць год Мінск з правінцыйнага гарадка імперыі ператварыўся намінальна (па колькасці жыхароў) у еўрапейскую сталіцу з пэўнай культурнай інфраструктурай. Ёсць выставачныя залы, навучальныя ўстановы культуры, музеі, але ўзровень уздзеяння гэтай інфраструктуры на насельніцтва практычна роўны нулю. Графічнае асяроддзе — на ўзроўні пяцідзесятых гадоў: на рэкламных тумбах не знайсці плаката Цэслера, Войчанкі, Кітаевай, Шэлюты альбо Лапшы. І толькі ў "СН" можна яшчэ пабачыць добрую маляваную графіку — усе астатнія выданні ўжо цалкам забыліся на гэты від мастацтва. За кошт чаго і як сёння жывуць мастакі — загадка, і калі мастак выдае каталог сваіх работ — гэта амаль што подзвіг. А ў дзяржавы няма традыцый ствараць і падтрымліваць актуальнае інфармацыйнае поле ў мастацтве. Дзяржаве прасцей ствараць міфы пра асобных мастакоў. А "беларуская цэнтрыфуга", між іншым, працуе з усіх сіл...

**Занатаваў Алег КАРПОВІЧ**

*нібы ў знак развітання*
*з вузкалобымі*
*валачобнікамі,*
*якія білі і б'юць чалом гліняному збану,*
*нібы Івану Грознаму ці Міколку-паравозу,*
*стоячы*
*на платформе вузкакалейкі карчагінскай,*
*цягнуць краіну ў поцемках поцягам*
*на валах са шклянымі вачыма,*
*на пераправе раніцой*
*распрагаюць*
*валоў і далей рухаюцца на чаўне*
*(чытайце — на бервяне)*
*па Начы,*
*па Можы,*
*па Бярэзіне, а таксама*
*па таксічнай Маскве-рацэ*
*з выглядам баравіковым ці падстрэленага*
*вепрука, а можа, і цецерука-палітрука*
*з чырвоным банцікам у пятліці і*
*сцягам ў руцэ;*
*Бог і алах ім, чытач мой, суддзя,*
*бездакорным палітрукам з пароды*
*парожняй цвёрдых іскраўцаў,*
*якія ніколі не плачуць,*
*а толькі крыламі лапочуць*
*У Расіі і ў Расонах,*
*а яшчэ — кароль Стах.*
*Які спыніўся ў дзесяці вярстах*
*ад Халопеніч і начуе*
*ў Старожышчах*
*у стагах пад Стажарамі,*
*абцяжараны горкімі думамі*
*пра шмат-па-кут-ную Беларусь*
*менавіта ТАМ, на маўклівай Сляяве,*
*на радзіме маркотнай Адама, дзе*
*плаваюць лебедзі —*
*нашчадкі прамыя*
*Страціма...*

29/V, 1-6/VII-98
*Крупкі—Халопенічы—Мінск*

[1] З Максіма Багдановіча
[2] Таксама
[3] Таксама
[4] Паэтычная назва Пецярбурга
[5] З "Успамінаў" Адама Багдановіча
[6] З Максіма Багдановіча
[7] Маецца на ўвазе Васіль Зуёнак

ПАМЯЦЬ

# Стаяў на беларускай глебе...

9 лістапада ў Маладзечне адзначылі 50 гадоў з дня нараджэння мастака Юрыя Герасіменкі-Жызнеўскага. Сам мастак, на жаль, не дажыў да гэтага свята. Юрый Паўлавіч летась памёр. Сябры мастака наладзілі ў горадзе выставы. У памяшканні музычнай вучэльні экспануецца тое, што мастак зрабіў незадоўга да смерці — закончаныя графічныя кампазіцыі, эскізы, накіды. А ў цэнтральнай бібліятэцы — выстава пад назвай "Памяць". Гэта некалькі твораў Юрыя Паўлавіча са збору сям'і мастака і творы мастакоў Маладзечна і сяго-таго з Мінска. На цырымоніях адкрыцця выстаў слова бралі сябры і вучні Герасіменкі-Жызнеўскага, тыя, хто ведаў яго як творцу і чалавека.

Выстава маладзечанскіх мастакоў пакідае добрае ўражанне, бо сведчыць пра тое, што ў горадзе існуе моцны культурны асяродак. Творы маладзечанцаў не сорамна экспанаваць і ў лепшых залах Мінска, і ў замежжы, блізкім і далёкім.

Выклікае павагу тое, як калегі шануюць памяць Юрыя Паўлавіча. Прыгаданыя экспазіцыі разглядаюцца як этап у падрыхтоўцы вялікай выставы твораў Герасіменкі-Жызнеўскага ў сталіцы. Галоўны захавальнік Нацыянальнага мастацкага музея Мікола Паграноўскі меў з гэтай нагоды ў Маладзечне сустрэчы і перамовы.

Мабыць, на мінскай выставе будзе сёе-тое з выстаў маладзечанскіх. Безумоўна, нешта з апошніх твораў Герасіменкі-Жызнеўскага. Яны, дарэчы, даюць падставы для развагі аб творчай эвалюцыі мастака, які пачынаў свой шлях так званым "этнаграфізмам", а прыйшоў пад канец жыцця да ўласнай мадэлі сусвету і свайго разумення таго, што папраўдзе ёсць Бог. Юрый Герасіменка-Жызнеўскі цураўся натоўпу, але адчуваў сябе часткай народа. Не дэкляраваў нацыяналізм, але цвёрда стаяў на беларускай глебе.

Па тым, што я бачыў на выставе ў маладзечанскай музычнай вучэльні, у мяне склалася ўражанне, што Юрый Паўлавіч у нейкі



*Аўтапартрэт, 1978 г.*

момант вырашыў рэзка парваць з ужо добра распрацаваным стылем і тэматыкай і пашукаць сваё ў нязведаным напрамку. Але не паспеў... Хто ведае, выпадкова гэта ці наканавана.

Калі Юрыю было 27 гадоў, падчас вандроўкі па Салавецкіх астравах ён патрапіў пад радыяцыйнае апраменьванне (на Расійскай Поўначы і дагэтуль хаваюць ядзернае смецце са шматлікіх рэактараў, а як хаваюць — вядома...). Дарэчы, праз колькі год грымнуў Чарнобыль, і гэтая хвароба стала ў Беларусі "нацыянальнай". А тады, пасля курса лекавання і аперацый, урачы сказалі Юрыю: "Пражывеш гадоў дваццаць". Ён пражыў не нашмат болей. Ведаючы гэта, інакш глядзіш на ягоныя творы. Адчуваў, прадба-



*Ілюстрацыя да аповесці В. Быкава "Знак бяды", 1984 г.*

чыў? Не, ведаў. А ў Бібліі нездарма сказана "У вялікіх ведах вялікі смутак".

На выставе ёсць ягоны аўтапартрэт, зроблены ў 1978 годзе. Тады ягоная жонка Валянціна сказала: "Юра, навошта ты сябе такім намаляваў? Ты ж непадобны. Ты ж такім ніколі не будзеш". Сёння яна кажа, што ў апошні год жыцця Юрый быў такім, як на тым партрэце.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# Прытулак для спакутаваных душ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 4)*

І вось нечакана даведваюся, што падобны цэнтр месяц назад (а калі канкрэтна, дык 12 кастрычніка, якраз напярэдадні Дня маці, які, нагадаем, праводзіцца ў нас 14 кастрычніка, на Пакровы) адкрыўся і ў Мінску. І назва яго амаль такая ж самая — Крызісны рэабілітацыйны цэнтр для жанчын. Гэта грамадская дабрачынная ўстанова, створаная Саветам жанчын г.Мінска і Беларускім саюзам жанчын.

Ініцыятар стварэння цэнтра і яго кіраўнік — чалавек бязмежнай энергіі, дзелавой актыўнасці і самааддачы, старшыня Мінскага гарадскога Савета жанчын Таіса **Пужэвіч** (яна, дарэчы, узначальвае і адзіную ў сталіцы малочную кухню "Татошка", якая вырабляе лячэбна-прафілактычныя кісламалочныя прадукты для дзяцей ранняга ўзросту і рэалізоўвае дзіцячае харчаванне). Таіса Канстанцінаўна і расплавала мне пра стварэнне і першыя тыдні работы КРЦ:

**— Ідэя стварэння Цэнтра прыйшла да нас невыпадкова. Мы пастаянна сутыкаліся з праблемамі жанчын, якія падвяргаліся гвалту, здзеку, насіллю і практычна заставаліся безабароннымі, бо звычайна акты гвалту і здзеку ўчыняюцца без сведак — дзяцей, маці, брата ці сястры, скажам, а суседзі, як правіла, застаюцца пры гэтым "сляпымі і глухімі". Муж жорстка б'е жонку, выганяе яе з хаты, — хіба мала такіх выпадкаў? І неабавязкова ў п'яным выглядзе. Нямала выпадкаў, калі муж і жонка ў разводзе, але жывуць пад адным дахам, у адной кватэры, і здзеклівыя адносіны працягваюцца. Бяда часам напаткоўвае і здзеклівую жанчыну, у якой усё добра на працы, дзе яна мае павагу і аўтарытэт, а дома паразумення не знаходзіць. Адзінае, чым муж можа даказаць сваю праваты, гэта фізічная сіла. Куды ёй дзецца ў такіх выпадках? Суседзі могуць прытуліць, а калі не? Цяпер у яе ёсць магчымасць звярнуцца да нас. КРЦ — гэта часовае схованішча, прытулак для жанчын, якія падвергліся насіллю. Мы займелі для гэтага асобнае памяшканне. Неабходную мэблю, прадметы гаспадарчага ўжытку, пасцельную бялізну прадставіла гасцініца "Арбіта". У памяшканні некалі была раздатачная малочнай кухні, яно было ў жахлівым стане, дзверы павырываны, усё разрабавана, знішчана. Такіх плошчаў у горадзе шмат, яны здаюцца направа і налева не па прызначэнні. І добра, што ў Фрунзенскім райвыканкаме прыслухаліся да нашай просьбы і аддалі нам гэтае памяшканне. З дапамогаю Адміністрацыі Прэзідэнта адрамантавалі яго, і цяпер тут утульна, прыгожа, ёсць кабінет урача, кансультацыйная зала, душавая, кухня. Мы можам прытуліць тут адначасова чалавек дзесяць. Цэнтр аснашчаны ўсім неабходным для аказання жанчынам сацыяльных паслуг, а таксама для прадастаўлення часовага схованішча на час ад 1 да 10 сутак, у выпадку неабходнасці — і жанчынам з дзецьмі. Прытулкам могуць пакарыстацца мінчанкі, якія маюць пашпарт, прадметы асабістай гігіены і сродкі на харчаванне. Пражыванне ў прытулку бясплатнае і, так бы мовіць, канфідэнцыяльнае. Адрас яго не афішуецца ў мэтах бяспекі пацыентак. А вось тэлефоны, па якіх можна звярнуцца ў прытулак, мы даём. Вось яны: 239-46-98, 215-53-98. Дзяжурныя Цэнтра пракансультуе будучую пацыентку па тэлефоне, сустрэнецца з ёю асабіста ў людным месцы ці ў грамадскай прыёмнай Савета жанчын г. Мінска і ў выпадку неабходнасці даставіць яе ў прытулак. Толькі па жаданні жанчыны Цэнтр паведаміць аб учыненым над ёю гвалце ў міліцыю.**

**Працуюць у Цэнтры юрысты і псіхолагі, урачы і сацыяльныя работнікі, настаўнікі, прадпрымальнікі і проста ўмудроныя жыццёвым вопытам жанчыны, — гэта пазаштатныя актыў, які на грамадскіх пачатках гатовы заўсёды дапамагчы.**

**Дапамагаюць нам і падтрымліваюць Беларускі саюз жанчын, Савет жанчын г. Мінска, адміністрацыя Фрунзенскага раёна сталіцы, Камітэт сацыяльнай абароны Мінгарвыканкама, гарадскі і рэспубліканскі цэнтры "Здароўе", вопытна-вытворчае гандлёвае прадпрыемства "Малочная кухня "Татошка", гасцініца "Арбіта", жаночы недзяржаўны інстытут "Энвіла", які забяспечвае нас бясплатнай кансультацыяй кваліфікаванага псіхолага (званіць па тэлефоне 214-89-18 з 19 да 21 гадзіны).**

**За месяц працы ў нашым КРЦ знайшлі прытулак і атрымалі належную дапамогу 13 жанчын ва ўзросце ад 25 да 55 гадоў. Няшмат? Як сказаць! І адна ўратаваная, адагрэтая ўвагай і клопатам спакутаваная душа — гэта ўжо нямала.**

А задача ж Цэнтра — не толькі, так сказаць, практычная. Мо самае галоўнае — прыцягнуць увагу грамадскасці да жаночых праблем. На жаль, большасць людзей у нас не бачаць у нізкім грамадскім статусе жанчыны сацыяльнай несправядлівасці. Маўляў, гэтак і трэба. Гвалт, насілле над жанчынаю многімі не ўспрымаецца як парушэнне праваў чалавека і не выклікае пратэсту ў грамадстве. Такі, на вялікі жаль, стан нашага грамадства, якое ўсё яшчэ ў палоне колішніх догм і ўяўленняў.

Жанчыны ў цывілізаваным свеце ўсё больш актыўна заяўляюць аб сабе, выступаюць са сваімі ідэямі, планамі, праграмамі, імкнуцца змяніць сваё становішча, павысіць свой грамадскі і сацыяльны статус. Мы таксама не застаёмся ўбаку ад гэтага, таксама намагаемся ісці ў нагу з часам. Стварэнне ў Мінску крызіснага рэабілітацыйнага цэнтра для жанчын — таму пацвярджэнне.

**Марыя МІХАЙЛАВА**

ПОВЯЗЬ

# Такая яна ўжо ў нас...

А я не перастаю здзіўляцца і захапляцца нашай шматпакутнай, але багатай на таленты зямлёй, яе народам і асобамі, што паўставалі, паўстаюць і будуць паўставаць ва ўсёй сваёй прыгажосці і велічы на тле нават самых неспрыяльных для іх існавання часоў. Больш таго — духоўная прадукцыя таго існавання часта з'яўляецца ўзорам, адпраўным пунктам для творчасці ці то сучаснікаў, ці то наступных пакаленняў як сярод супляменнікаў, так і паміж суседзяў.

У звязцы з гэтымі развагамі як не нагадаць, што сярод літаральна ўсіх твораў сёлетняга сусветнага юбіляра — геніяльнага Адама Міцкевіча — не знойдзецца ні аднаго, які б не быў афарбаваны мілай яго сэрцу Літвой (Беларуссю). Але найбольш беларускім усё ж, без сумневу, з'яўляецца паэма "Пан Тадэвуш". Ізноў жа вяртаючыся да думкі аб жыўленні ад нашых геніяў, немагчыма не ўспомніць генія рускай літаратуры, найвялікшага сатырыка і гумарыста — М. В. Гогаля, які названы твор А. Міцкевіча ў адным са сваіх ранніх лістоў ахарактарызаваў як "удивительнейшую вещь".

Заўважана, што А. Міцкевіч смела ўводзіў у аповед "Тадэвуша" прозвішчы сваіх універсітэцкіх таварышаў і ўвогуле знаёмых, прычым амаль заўсёды ў гумарыстычных мэтах і дзякуючы гэтаму, дасягае таго няўлоўнага адцення сапраўднасці ўсіх апісваемых падзей і фактаў. Шэраг многіх сцэн назаўсёды застаюцца ў памяці чытача менавіта дзякуючы заключанаму ў іх гумару. Вось жа гэта (і не толькі гэта) прыцягвала М. В. Гогаля да А. Міцкевіча. Для пацверджання заяўленай тэзы і ў якасці прыкладу зробім тэксталагічныя параўнанні з твораў двух геніяў. Вось А. Міцкевіч, "Пад Тадэвуш", кніга восьмая — "Наезд" (1834г.):

***Что ж, каждый***
***астроном толкует***
***о комете,***
***Как будто мещанин***
***о встреченной карете:***
***Заедет ли она на царский***
***двор в столицу,***
***Иль от заставы прочь***
***помчится за границу...***

А вось М. Гогаль у самым пачатку "Мёртвых душ" (том І, глава першая, 1842 г.; таксама — паэма): "Въезд его [Чычыкава. — **Я. Г.**] не произвел в городе совершенно никакого шума и не был сопровожден ничем особенным; только два русских мужыка, стоявшие у дверей кабака против гостиницы, сделали кое-какие замечания, относившиеся, впрочем, более к экипажу, чем к сидевшему в нём. "Вишь ты, — сказал один другому, — вон какое колесо! Что ты думаешь, доедет то колесо, если б случилось, в Москву или не доедет?". — "Доедет", — отвечал другой. "А в Казань-то, я думаю, не доедет?". — "В Казань не доедет", — отвечал другой. Этим разговор и кончился".

Каб не адымаць у шаноўнага чытача асалоду параўноўваць радкі, сцэны, месцы і знаходзіць існуючыя невыпадковыя супадзенні ў двух названых творах, абмяжуемся толькі адным гэтым прыкладам.

Вялікую цікавасць да творчасці А. Міцкевіча меў і выдатны рускі паэт М. Някрасаў. У 1858 г. у лісце да І. Тургенева ён паведамляе, што "Валенрода ужо "тиснул" в "Современнике". А ў лісце да М. Берга ад 12 лютага 1873 г. ён піша: "... но мы, помнится, говорили о том, чтобы в "Отечественных записках" печатать всего Тадеуша".

Адкрыўшы вышэйназваны, дарэчы — вельмі ўдалы, пераклад на с. 163 (кніга шостая — "Засценак", 1834г.), чытаем:

***... На солнце погуляв***
***и помолясь Богу,***
***Добжинский приступил***
***к хозяйству понемногу.***
***Принёс он зелени,***
***уселся возле дома***
***И свистнул: кролики***
***пришли на свист***
***знакомый.***
***В густой траве***
***они нарциссами белели,***
***Лишь уши длинные***
***качались еле-еле!***
***Блестели искрами глаза***
***их в чаще дерна;***
***Как будто на шелку***
***рубиновые зерна.***
***На лапки поднялись***
***и ловят шорох ухом,***
***Глядят во все концы***
***и мягким белым пухом***
***К Матвею катятся,***
***почуяв угощенье,***
***На плечи прыгают,***
***садятся на колени.***
***Любил он кроликов, сам,***
***точно кролик, белый,***
***И гладил теплый пух***
***рукою загрубелой.***
***Другою рассыпал***
***из старой шапки зерна***
***Для воробьев; они слетали***
***вниз проворно...***

Міжволі тут успамінаюцца радкі верша М. Някрасава "Дедушка Мазай и зайцы" ("Стихотворений, посвященных русским детям", 1879 г.). Праўда, Мацвей А. Міцкевіча, у адрозненне ад героя рускага паэта, больш наіўны і дабрэйшы, ці, калі можна так сказаць, пры аднолькавым ідылічным каларыце, гэты герой пераважае сваёй далікатнасцю і бясконцай гуманістычнасцю. Гаворачы пра пэўную творчую пераемнасць, у дадзеным выпадку мы маем удалы цудоўны сколак з паэзіі генія польскамоўнай літаратуры. А калі яшчэ разглядзець рэпрадукцыю (гл. уклейку ў названым выданні) да міцкевічаўскага шэдэўра мастака Андрэолі "Мацей над Мацькамі" — дык лішні раз пераканаемся ў сказаным вышэй.

А яшчэ М. Някрасаў у паэме "Кому на Руси жить хорошо" марыў аб тым часе, калі рускія сяляне з ярмаркі поруч з таварамі хатняга ўжытку панясуць дадому кніжкі Пушкіна і Гогаля. Дык вось гэта мара свой пачатак бярэ ад мары А. Міцкевіча, калі той на дзесяткі год раней у эпілогу да "Тадэвуша" выказваў сваё жаданне, каб яго паэма трапіла пад сялянскія стрэхі.

Як бачым, міцкевічаўскія мясціны ў творчасці Гогаля і Някрасава атрымалі прапіску праз больш разгорнутую метафарычнасць, якая прыдае ім своеасаблівую чароўнасць і непаўторнасць.

Дарэчы, і Гогаль, і Някрасаў і многія іншыя з рускага літаратурнага бамонду імкнуліся А. Міцкевіча чытаць па-польску. А ў аўтараў "Мёртвых душ" і "Кому на Руси жить хорошо" маці былі полькі.

Творчае дакрананне да душы А. Міцкевіча адчуваецца і ў музы Максіма Горкага ў яго, напрыклад, "Песні аб буравесніку" (1901 г.). Чытаем эпілог "Пана Тадэвуша":

***Пред родиной, распятой***
***в крестной муке,***
***И мужество***
***заламывает руки...***

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Там в Горьком трауре***
***мои собратья***
***И воздух тяжелеет***
***от проклятья,***
***В ту сферу страшную***
***лететь боится***
***И буревестник —***
***грозовая птица.***

Праўда, горкаўская разгорнутая метафара ў дадзеным выпадку ідзе ад адваротнага, чымся ў Міцкевіча ўспрымання рэчаіснасці. У М. Горкага метафара — уся бляск і аптымізм.

Памер дадзенага артыкула не дазваляе рабіць далейшы экскурс у параўнанні. Але гэта будзе зроблена ў больш грунтоўнай працы і не толькі аб назіраннях над мастацкай творчасцю, але і ў крытыцы. Тут асаблівай увагі заслугоўваюць "Литературные мечтания" (1834г.) В. Бялінскага і "Аб крытыках і рэцэнзентах варшаўскіх " (1829 г.) А. Міцкевіча, дзе плённы ўплыў геніяльнага літвіна (беларуса) на "неистового Виссариона" вельмі і вельмі відавочны. Бялінскі следам за Міцкевічам, праўда, ужо аб рускай літаратуры абгрунтавана сказаў, што яе пакуль што амаль няма.

А цяпер найнеабходна ўказаць на крыніцу творчасці самога А. Міцкевіча. Думаецца, зрабіць лепш, чым гэта ўдалося класіку украінскай літаратуры Максіму Рыльскаму, наўрад ці ўдасца. І таму прывядзём частку таго тэксту, што змешчаны ў прадмове да "Апошняга заезда на Літве": "Беларускія песні, казкі і легенды прыйшлі да Міцкевіча значна раней кніжнай польскай літаратуры (аб чым сведчаць і пазнейшыя выказванні самога паэта) і наклалі прыкметны адбітак на яго творчасць, пачынаючы ад балад і канчаючы "Панам Тадэвушам". Іменна народная паэзія дазволіла яму пераадолець традыцыі псеўдакласіцызму, панаваўшыя тады ў польскай літаратуры, і пайсці спачатку па шляху паэзіі рамантычнай, а затым і рэалістычнай. Невыпадкова ўжо ў прадмове да першай кнігі сваіх вершаў паэт так многа гаворыць аб творчасці народнай і менавіта ў ёй бачыць сапраўдныя вытокі паэзіі".

Можа, крыху не па тэме, але немагчыма абысці ўвагай наступныя, актуальныя з пазіцыі і сённяшняга дня радкі з "Пана Тадэвуша" і каментатар да іх М. Славяцінскага. У кнізе шостай ("Засценак") суддзя звяртаецца да манаха (Сапліцы):

***...Но если кровь Соплиц***
***в твоих струится***
***жилах,***
***То ты поймешь меня!***
***Пора нам сбросить узы.***
***Ударим с тыла мы,***
***а спереди французы!***
***Погоня лишь заржет,***
***медведь взревет***
***на Жмуди,***
***Подымутся***
***на зов повсюду***
***наши люди...***

А вось і той, памянёны вышэй, каментарый: "Пагоня" — герб Вялікага княства Літоўскага: на пурпуровым полі адлюстраваны коннік, што скача на белым кані; у правай руцэ ў конніка меч, у левай — шчыт. "Мядзведзь" — герб Жмудзі, нізіннай прыбалтыйскай вобласці, якую да апошняга падзелу Польшчы называлі княствам Жмудскім з паветам: Росенскім, Шавельскім і Тэльшэўскім". Як бачым, у сучасных летувісаў гербам больш быць павінен "Мядзведзь", а не "Пагоня".

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

А я ўсё не перастаю здзіўляцца і захапляцца нашай шматпакутнай, але багатай на таленты, зямлёй... Такая яна ўжо ў нас... была, ёсць і будзе.

**Яўген ГУЧОК**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Вялікае княства Бум-Бам-Літ, максімальна абрэзанае, лічыцца міні. А мо не болей, чым літнігілізм, і дзе мы апынемся, калі ўсё міне? Ці не ў той жа самай плыні?

●

Высокія чаны, дзе тлушч варыцца, пах, скажам шчыра, не салонны. На абгортцы бясклапотныя дзіцячыя тварыкі, а мыла гомельскае, з-пад зоны.

●

Піша стары з Канзас-Сіці, ходзіць у басейн, умацоўвае арганізм. Са скрухай успамінае, як дома вялося, збіраліся сябрукі гаманіць на прызбе. Адчуваецца, новага не прыняў зямляк, а ў сваім паспеў зняверыцца. Дык чаго было ехаць у чужыя краі, у прынадлівую тую Амерыку: і новых сяброў не прыдбаў стары, ды й колькі ўжо таго адмерана.

●

Евангельскае. — Ты куды брыдзеш, ішак, што табе ў нас не так? — Не ішак я, а сабака. — Памаўчаў бы, небарака, не салодкім тут абносяць, вылезеш, калі папросяць, а пакуль што ён ядак, ён і падае нам знак... Што, равуць зусім не так? Меней вер сваім вушам!

●

Прагнуць усе чыстага неба, ды што каму трэба: аднаму блакіту шматок, а другому пад тынам цянёк. І форвард, і абаронца гэтае сонца.

●

Маркотны факцік з мемуару нечага: было ў жыцці і нешта чалавечае. Ды жыў на гэты час і гэты дзень не чалавек, ягоны кволы цень. А хто ты зараз, цень на бюлетэні? Суддзя сабе ці абрыс таго ценю?

●

Перад дажджом ластаўкі лётаюць нізка. Прадчуваюць непагоду? Прасцей: мошкі не ўзлятаюць. Каб жа толькі ў ластавак вышыня ўзлёту залежала ад мошак.

●

Здзяцінеў — хвароба Альцгеймера. Асаблівасць немачы тая, што ідыётам сябе не пачуваеш, нікому ні ў чым не саступаеш. Сядзіць сабе такая персона нон грата, і невядома, ці яна вінавата. Прыглядаешся да тых, хто на фінішы: толькі б паменей здзяцінеўшых.

●

Пра ўплывы (з Мікалая Глазкова). Ілюша Фрэнкель, франтавы паэт, аднойчы мне сказаў: "Давай закурым". Я выкурыў пасля сто тысяч цыгарэт, а мне тут пра ўплывы нешта дураць. Ясенін, Маякоўскі, Севяранін, ніхто не ў стане параўнацца з намі. Што значыць стрэцца з блізкаю натураю і ў самы раз пачуць: "Давай закурым".

●

Пра "Долі праўды". Не ўсё гладка пад гэтым Коўзкім. Я б такім не даваў волі. Вярзуць нешта з выглядам філасофскім, а самі сваволяць, сякуць і колюць. Прыстойна на 16-й старонцы, дык вось табе на — радыеактыўны стронцый.

КАЛЯНДАР

# Вось вам і...опіум

У якія толькі крайнасці ні кідалася калісь афіцыйная ідэалогія, праводзячы атэістычную прапаганду! А калі разважыць (у чым многія ўжо змаглі пераканацца), дык гэты самы "опіум" не такі і страшны. Проста трэба лепш ведаць гісторыю. Нацыянальную — не ў апошнюю чаргу.

Для прыкладу, спаўняецца 90 гадоў з часу заснавання Мінскага царкоўна-археалагічнага музея. І ўзнік ён не сам па сабе, а пры Мінскім царкоўным гісторыка-археалагічным камітэце, які, у сваю чаргу, "нарадзіўся" ў лютым 1908-га.

І камітэт, а адпаведна і музей, здавалася б, мусілі вырашаць канфесійныя праблемы ў іх розных аспектах, прынамсі, у гістарычным. На самай справе атрымалася інакш. Носьбіты "опіуму" клапаціліся аб даследаванні гістарычных помнікаў, вывучэнні фальклору, апісвалі царкоўныя і манастырскія архівы.

Камітэт выдаў зборнік "Минская старина", даведнік "Рукапісны аддзел старадрукаваных кніг бібліятэкі Мінскага царкоўнага гістарычна-археалагічнага камітэта. 1909". А музей і папаўняўся сабранымі камітэтам матэрыяламі. У ім знаходзілася 1363 экспанаты. Сярод іх, канечне ж, былі і рэчы рэлігійнага характару, але шмат месца займалі этнаграфічныя матэрыялы, тэксты песень, паданняў, казак, захоўваліся рэдкія манеты.

Каля 1900 адзінак захоўвання налічвала музейная бібліятэка, сярод іх і некалькі рукапісных кніг. У музеі зберагаўся і архіў Слуцкага (Трайчанскага) манастыра.

Праіснаваў гэты музей да пачатку першай сусветнай вайны, пасля чаго экспанаты былі вывезены ў Разань (Расія). У Мінск яны вярнуліся ў 1922 годзе і былі перададзены ў Беларускі дзяржаўны музей. А сам будынак Мінскага царкоўна-археалагічнага музея захаваўся. Ён — побач са сталічным Домам афіцэраў. Многім вядомы, як Дом работнікаў мастацтваў.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ —** *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ —** *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП —** *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 2848-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 2848-204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985**
**літаратурнага жыцця — 2848-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985**
**паэзіі і прозы — 2848-204**
**музыкі — 2848-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462**
**навін — 2848-462**
**мастацкага афармлення — 2848-204**
**фотакарэспандэнт — 2848-462**
**бухгалтэрыя — 2366-071**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4002
Нумар падпісаны ў друк 19.11.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 6695/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12